Пролетары ўсіх краёў, злучайцеся!

# ЧЫРВОНЫ СЬЦЯГ

ШТОМЕСЯЧНАЯ СТУДЭНЦКАЯ ЧАСОПІСЬ

ПАД РЭДАКЦЫЯЙ:
Крыніцкага, Ляўкова, Кахановіча, Кацэнбогена і Шапавалава.

Сакавік—1925 г.

№ 2

Орган Белбюро Пролетарскага студэнцтва і Цэнтральнага Кіраўніцтва зямляцтваў г. Масквы
МЕНСК—1925

М. Ляўкоў.

# Заветы Леніна і студэнцтва.

У 1919 годзе, калі рэспубліка саветаў, ізныываючы ад голаду павінна была мобілізаваць усе свае сілы на фронт грамадзянскай вайны, у сваёй стацьці „Вялікі пачын“ Ленін пісаў: „Што-б пабядзіць, штоб збудаваць і ўмацаваць соцыялізм, пролетарыят павінен вырашыць падвойнае заданьне: папершае, захапіць сваім гэроізмам рэволюцыйнай барацьбы супроць капіталу ўсю масу працоўных і эксплёатуемых, захапіць яе, організаваць яе, кіраваць ёю для зьнішчэньня буржуазіі й поўнага падаўленьня з яе боку супярэчаньняў; па другое, павясьці за сабою ўсю масу працоўных і эксплёатуемых, а таксама ўсе мелкабуржуазныя слаі, на дарогу новага гаспадарчага будаўніцтва, на дарогу збудаваньня новай грамадзкай сувязі, новай працоўнай дысцыпліны, новай організацыі працы, злучаючай апошнія дасягненьні навукі і капіталістычнай тэхнікі з масавым аб'яднаньнем сьвядомых працаўнікоў, будуючых вялікую соцыялістычную вытворчасьць“.

Азначаючы заданьні змагаючагася пролетарыяту, Ленін растлумачваў, што: „Другая задача цяжэй першае, бо яна ні ў якім разе ня можа быць вырашана гэроізмам аддзельнага парыву, а патрабуе самага прадоўжнага, самага ўпартага, самага цяжкага гэроізму і будняе працы.

Калі прасьлядзіць гісторыю пролетарскай рэволюцыі ва ўсёй яе паступовасьці, то робіцца відавочным, што рэволюцыю можна рабіць толькі паленінску, г. зн. перш заваюй ўладу, дабі буржуазію, умацуй гэту ўладу ў форме дыктатуры пролетарыяту—Саветаў; і далей—замацоўвай справу соцыялізму збудаваньнем новых формаў працы, новым організаваньнем вытворчасьці, наладжваньнем і замацаваньнем новых грамадзкіх сувязей.

Першае заданьне вырашана цалком і поўнасьцю, вырашана беззаветным гэроізмам ў атацы. Гэта прызнаюць ня толькі пролетары, але й іх заклятыя ворагі розных масьцей.

Іначай стаіць справа з другім заданьнем. „Тут,—пісаў Ленін,—труднасьці неабхватны, змагчы якія можна,—па яго-ж словам,—не на энтузыязьме непасрэдна, а пры дапамозе энтузыязму, народжанага вялікай рэволюцыяй, на асабістым інтарэсе, на асабістай зацікаўленасьці, праз дзяржаўны капіталізм к соцыялізму“ [1]). А на адзінаццатым зьезьдзе партыі ен (Ленін) перамаганьне труднасьцей пераходнага пэрыоду—ад дыктатуры к соцыялізму, конкрэтызаваў так: „Злучыцца з сялянскай масай, з простым працоўным сялянствам і пачаць пасоўвацца ўперад бязьмерна так, што напэўна будзе пасоўвацца ўся маса з намі“.

Цесны саюз рабочых і сялян пад кіраўніцтвам комуністычнай партыі ў гэтых цяжкіх заданьнях ужо мае некаторы вопыт і гэта дае яму ўпэўненасьць змагчыся з прадстаячымі труднасьцямі і па дарозе далейшага пасоўваньня к соцыялізму.

---

[1]) З стацьці к 4-й гадавіне 14 кастрычніка 1921 г.

Павольны, але заканамерны рост нашае прамысловасьці, адбудова транспарту, адбудова сельскай гаспадаркі і аздараўленьне грашовых спраў—вось дадатны вынік цяжкай гаспадарчай працы, вось заданьне, у якім ужо мае вялікія дасягненьні працоўная кляса, заданьне, якое адказаў комуністычнай партыі і ўсім працоўным Ільліч у кароткіх словах: „Вытворчасьць працы—гэта, у апошнім выпадку, самае галоўнае для пабеды“. [1])

Старана наша мацнее гаспадарча, набываньне, неабходнае для збудаваньня вялікае соцыялістычнае вытворчасьці, расьце. А поруч з гэтым, ня трэба забываць, хаваюцца варожыя нам сілы капіталістычнага міру, які хоча й папытаецца атакаваць нас пры першай магчымасьці і тым зруйнаваць будаўнічую працу саюзу рабочых і сялян. З гэтага выплывае—мы павінны быць на старожы, штоб, калі гэта патрабуецца, арганізавана, узброена, ядыным парывам даць адпор. Таксама мы павінны ўмець ва ўнутранай гаспадарчай і культурнай працы бачыць усе спробы элемэнтаў капіталізму, прыпадняцца, разьвіцца, карыстаючыся ўмовамі НЭП'у. Для гэтага кляса працоўных і пролетарскае студэнцтва, вышаўшае з яго срады, якому належыць, як будучым чырвоным спэцам, заняць кіраўнічыя вышыні, павінны заўладаць тэорыяй Ленінізму, які навучае разьбірацца ў самых складаных стасунках, каб пабяждаць.

Заўладаць аружжам Ленінізму—не азначае паглыбіцца толькі ў тэорыю яго,—неабходна дзейнічаць практычна і дзейнічаць так, каб кожны шаг пройдзенае дарогі быў шагам да комунізму. Толькі з такога пункту погляду трэба разумець вучэньне Леніна.

Працоўная кляса павінна ведаць, што тым мацней яна будзе ў барацьбе сваёй з ворагамі, чым скарэй і лепш прысвоіць гэта, а пролетарскае студэнцтва—тым лепш ажыцьцёвіць прадстаячае заданьне актыўнага кіраўніка па збудаваньню соцыялістычнага гаспадарства, чым мацней узброіцца ведамі запраўднага, не падробленага Ленінізму.

Комуністычная партыя, „выпеставаная“ Леніным, зьяўляецца адзіночнай у сьвеце партыяй, якая ўладае аружжам Марксізму й Ленінізму і не дапускае спроб падмену і рэвізыі яго. Адначасова з гэтым яна навучае на справе, як трэба карыстацца Ленінскай тэорыяй пры ўсіх зваротах, каб цьвёрда замацаваць пройдзеную дарогу, а потым толькі пераходзіць к ланцугу складаных заданьняў, к наступнаму зьвяну.

Ці вычэрпваюцца сказаным нашы заданьні? Не.

Словы Леніна: „павесьці за сабою ўсю масу працоўных і эксплёатуемых, а таксама ўсе мелкабуржуазныя слаі, на дарогу новага гаспадарчага будаўніцтва, на шлях збудаваньня новай грамадзкай сувязі, новай працоўнай дысцыпліны, новай організацыі працы“... пастарому ставяць перад намі неаглядна многа цяжкіх заданьняў, якія запраўды павінны, кажучы словамі Леніна, прывясьці пролетарыят к таму, штоб ён уяўляў і ажыцьцёўліваў „больш высокі тып організацыі працы ў параўнаньні з капіталізмам“.

Дабіцца гэтага працоўная кляса зможа толькі ў тым выпадку, калі яна пераможа някультурнасьць краю, узброіцца ўсёй тэхнікай, збудованай буржуазнай грамадою і разаўе яе. Вось чаму Ільліч у 1921 годзе на 2 зьезьдзе політпрасьветаў энэргічна падчоркваў аб неабходнасьці вучыцца—вучыцца організаваць і кіраваць, будаваць і гандляваць і г. д.—„Вы павінны прыйсьці к таму, штоб сказаць, што недавучыўшымся ў нас няма месца. Тады, калі будзе комунізм, тады вучэньне будзе лягчэй. Цяпер жа я кажу, што вучэньне ня можа ня быць суровым—пад страхам зьнішчэньня“.

---

[1]) „Вялікі пачын“

Заданьне ясна—трэба вучыцца і вучыцца, і не для таго, штоб „шчэгаляць сваімі ведамі“, а для таго, штоб багацьце тэорыі скарыстаць для барацьбы і працы. Хто ня ўявіць гэтае ісьціны, таго жыцьцё пакіне за аблаўкам (бартом).

Пролетарская моладзь, прызваная ў пролетарскія ВНУ, павінна гэта ведаць. Яна павінна ведаць і другое, ня менш важнае заданьне ў справе вучобы, якое тав. Крупская азначае так: „Наіўна думаць, што для таго, штоб стаць чырвоным спэцам, студэнту даволі проста, як вараняці, разяўляць рот і глытаць буржуазную навуку. Важна ня толькі глытаць усялякую буржуазную ежу, якую буржуазныя профэсары будуць шчыра ўкладаць у разяўленыя рты, неабходна яшчэ гэту ежу перавварыць сокам здаровае пролетарскае ідэолёгіі, узяць з гэтай ежы толькі патрэбнае пролетарыяту“. Запраўды, пролетарскае студэнцтва ўсе свае веды, якія яно бярэ ад профэсароў, у большасьці яшчэ чужых нам па сваёй ідэолёгіі, павінна праламіць праз прызму Ленінскай дыялектыкі. Тады толькі яно выйдзе ў рабоча-сялянскую сраду ва ўсеаружжы і апраўдае назву організатараў і кіраўнікоў савецкае краіны. Адказнасьць вялікая і заданьняў многа. Сваёю маладою ўпартасьцю і пролетарскай настойлівасьцю студэнцтва павінна ўзяць іх. Яно возьме ўсё гэта ў абыдзеннай практычнай працы, якую партыя высоўвае для падняцьця магутнасьці краю.

Пролетарскаму студэнцтву добра вядома, што пры ўсёй беднасьці нашага краю, паласа цяжкіх недахваткаў перажыта ўжо. Цяпер трэба йсьці далей.

У сялянскім краі—БССР—раней за ўсё трэба ставіць пры гэтым заданьне будаваньня вёскі, трэба, як пісаў Ільліч (т. XV стр. 599), ажыцьцёвіць справу, без якое вызваленьня працоўных быць ня можа... справу паступовага, аля няўхільнага пераходу ад дробных асабістых гаспадарстваў да грамадзянскай апрацоўкі зямлі“. Гэтаму непасрэднаму і асноўнаму заданьню папераджае многа—падняцьце культуры ў вёсцы, разьвіцьцё савецкай грамадзкасьці, падняцьце інтэнсіфікацыі сельскага гаспадарства з мэтай яго большага прыбытку, замацаваньне і ажыўленьне коопэрацыі і г. д. Ва ўсіх гэтых пытаньнях агульны напрамак працы дадзены. Праца пачата. Яе трэба прадоўжваць. Справу трэба пасоўваць далей адынай масавай працай. На гэту справу пролетарскае студэнцтва павінна аддаць усе свае сілы.

Проф. С. З. Кацэнбоген.

# Месца вышэйшае соцыяльна-экономічнае асьветы ў сыстэме савецкага будаўніцтва*).

Вышэйшая соцыяльна-экономічная асьвета займае асаблівае месца ў сыстэме савецкага будаўніцтва. Будаваць наша будучае ў краі з аграмадным процантам няпісьменных, з кепска разьвітою прамысловасьцю, пры адсутнасьці рацыянальных тэхнічных звычкаў—заданьне вельмі цяжкае, складанае, адпавядальнае.

Соцыялістычная эволюцыя патрабуе ўмацаваньня ў першую чаргу матар'яльных вытворчых сіл краю, іх пад'ему на самую большую вышыню. Разам з гэтым заўладаньне прамысловасьцю ў краі з шматміліённай сялянскай стыхіяй, ва ўражжым і імпэрыялістычным абкружэньні—робіць асабліва цяжкім і складаным заданьне ўкараненьня соцыялістычных элемэнтаў у народную гаспадарку краю.

Соцыяльна-політычнае будаўніцтва высоўвае шэраг зусім новых заданьняў, чужых капіталістычнай экономіцы. Інтарэсы аддзельных монопольных капіталістычных трэстаў уступаюць месца колектыўнаму інтарэсу ўсяго краю, усіх працоўных.

На першую чаргу высоўваецца пытаньне строгага падліку ўсіх гаспадарчых рэсурсаў, іх мэтазгоднае разьмяркаваньне і экономнае скарыстаньне, плянавая організацыя прамысловасьці ўсяго краю.

Політычныя інтарэсы пролетарыяту ўпарта патрабуюць удумлівага вырашэньня складнейшай экономічнай проблемы зьніштажэньня діспропорцыянальнасьці ў разьвіцьці аддзельных галін прамысловасьці і сельскае гаспадаркі.

Гэтыя заданьні могуць быць вырашаны толькі пры бязумоўнай актыўнасьці працоўных усяго краю. Абавязковаю папярэднюю ўмовай пры гэтым зьяўляецца культурны рост рабочых і сялян, шырокае разьвіцьцё асьветных органаў, барацьба з няпісьменнасьцю агульнай, тэхнічнай і політычнай.

Ня прыходзіцца дзеля гэтага дзівіцца тэй увазе, якую Савецкая ўлада звароч̆вае на справу народнае асьветы. Аднак, мэты, якія стаялі перад Савецкім Саюзам у напрамку асьветнае політыкі ў першы пэрыод рэволюцыі—у пэрыод „ваеннага комунізму“ і цяпер—некалькі іншыя.

Да 1920-21 г. г. школе—сярэдняй і вышэйшай, прад'яўлялася асноўнае патрабаваньне—зрабіць залежнымі ўсе свае інтарэсы, вучэбныя пляны, мэтоды выкладаньня і г. д., выключна ад аднае мэты—гаспадарчага адраджэньня краю, падрыхтоўкі кваліфікаванай працоўнай сілы, практычных працаўнікоў вузкай спэцыялізацыі. У сваім пісьме зьезду комстудэнцтва М. Н. Пакроўскі ў 1920 г. пісаў: „Неабходна звузіцца для большай сілы ўдару і найбольшага ўскарэньня атрымліваемага эфэкту“.

*) Даклад, прачытаны на ўрачыстым пасяджэньні Б. Д. У. 20 II. н г., у выпадку І-га выпуску студэнтаў Ф. Г. Н.

Гэтае заданьне далёка яшчэ ня зьдзейсьнена і захоўвае ўсё сваё значэньне. Але поруч з ім вызначыліся ўжо новыя мэты. Умацаваньне Савецкага Саюзу, эра мірнага будаўніцтва высунулі перад сярэднімі і асабліва перад Вышэйшымі Навуковымі Установамі, поруч з заданьнямі ўсямернай дапамогі ўмацаваньню прамысловасьці і сельскае гаспадаркі—заданьне апрацоўкі ў юнацтве ўсебаковага, шырокага тэорытычнага марксыцкага мірапогляду.

ВНУ-ы дарэволюцыйнай Расіі, запэўна, не маглі сабе ставіць падобныя мэты. Ваяўнічы матар'ялізм атрымаў бліскучыя пабеды ў шэрагу навуковых дысцыплін. Можна з поўным аснаваньнем у сучасны момант, успамінаючы словы Бэкона, і некалькі іх перафразіруючы, сказаць: Were scire est per materiascire!*) Апроч матар'яльнага мэтоду, як адзіна-навуковага, навукі няма, а ёсьць толькі, у крайнім выпадку, праддзьвер'е яе.

Старана, у галаве якое стаіць партыя навуковага соцыялізму, на сьцягох якое начэртаны заветы Маркса, Энгельса й Леніна, павінна быць глыбока ўзорана плугам рэволюцыйнага марксызму.

Матар'ялістычны мэтод для таго й зьяўляецца навуковым, што ён зьяўляецца адзіным, надзейным мэтодам пазнаньня сьвету. У вышэйшым сынтэзе ён аб'яднае тэорыю й практыку жыцьця. Верным компасам для яго зьяўляюцца ня словы Фіхтэ аб тым, што „філёзофнічаць азначае ня дзейнічаць, а дзейнічаць азначае не філёзофнічаць", а словы Маркса— „сьвет трэба ня толькі растлумачыць, а й перарабіць".

Выключную ўвагу на пытаньні асьветы, навукі зварочваў У. І. Ленін. „Без найноўшай тэхнікі,—казаў ён,—бяз новых навуковых вынаходак мы комунізму ня збудуем". „Адна добра працуючая лябораторыя вярней дзясятку нашых савецкіх устаноў".

„Перадавая рэволюцыйная партыя павінна быць узброена перадавой рэволюцыйнай тэорыяй".

Нязьмерна вялікая праца Леніна ў напрамку ўмацаваньня навукі й тэхнікі. Яму абавязана радыё-тэлеграфнае будаўніцтва, скарыстаньне гаручых лупнякоў, мэханізацыя дзеравяных загатовак, выраб у Расіі хімічных рэактываў, дасьледваньне Курскай магнітнай аномаліі, абвадненьне Муганьскіх галодных стэпаў, пабудова цеплавоза, Волхаўскае будаўніцтва, электрыфікацыя, устанаўленьне дзяржаўнага электра-тэхнічнага факультэту Маскоўскага тэхнічнага вучылішча, сельска-гаспадарчая выстаўка і г. д. Да рэволюцыі падрыхтоўка спэцыялістаў вышэйшай кваліфікацыі па розным галінам прамысловасьці, транспорту, сельскае гаспадаркі—падала на тэхнолёгічныя, політэхнічныя, сельска-гаспадарчыя і іншыя спэцыяльныя навуковыя ўстановы. Разам з узростам апрацоўчай прамысловасьці расьлі й політычныя інстытуты. Аднак ужо тады дзеячы народнае асьветы й комэрцыйныя дзеячы ўсьведамлялі, што запытаньні організацыі й кіраўніцтва фабрычна-заводзкімі ўстановамі, знаёмства з таварным рынкам, пытаньні экономічнай політыкі вышэй названых спэцыяльна-тэхнічных навуковых устаноў не здавальняюча.

На захадзе ўжо даўно існавалі розныя Hochhandelschule, коледжы, акадэміі, гатаваўшыя спэцыялістаў у напрамку фабрычна-заводзкіх адміністратараў таргоўых і банкавых спраў. Ідэя гэта з Амэрыкі—стараны практычных янкі, пранікла і ў Расію. У Амэрыцы ўся вышэйшая асьвета прасьледвала ў першую чаргу чыста уцілізатарскія мэты. У частковасьці іх вучэбныя пляны юрыдычных факультэтаў Чыкагскага й Нью-Ёркскага ўнівэрсытэтаў улучаюць вельмі нязначную частку агульна-тэорытычных дысцыплін. Сярод іх адсутнічае нават важная агульна-адукацыйная дысцыпліна, як політычная экономія. Па ініцыятыве ўліяючых таргова-

*) **Добра ведаць, значыць, ведаць, вывучаючы матэрыю.**

прамысловых колаў у Расіі былі збудованы ў Кіеве і ў Маскве комэрцыйныя Інстытуты з экономічным і комэрцыйна-тэхнічным аддзяленьнямі. Стаяўшыя ў галаве іх талентныя організатары—проф. Доўнар-Запольскі і Ноўгарадцаў мелі на ўвазе злучыць шырокую тэорэтычна-экономічную асьвету з высока організаванай спэцыялізацыяй.

На экономічных аддзяленьнях вывучаліся вельмі падрабязкова экономічныя дысцыпліны, юрыдычныя дысцыпліны, амаль у поўным аб'ёме юрыдычных факультэтаў, комэрцыйна-тэхнічныя навукі. Яны выпускалі кандыдатаў комэрцыйных навук. На комэрцыйна-тэхнічным аддзяленьні пераважвала ляборатарнае вывучэньне таваразнаўства і чыста тэхнічных дысцыплін, пры праходжаньні ніштаватай колькасьці экономічных і юрыдычных дысцыплін. Скончыўшыя атрымлівалі назву комэрцыйных інжынэраў. Падобныя навуковыя ўстановы былі пабудованы ў Адэсе, Харкаве й Петраградзе.

Некалькі іншы характар насіла экономічнае аддзяленьне Петраградзкага політэхнікуму, якое выпускала „чыстых экономістаў", зусім не падрыхтаваных к справе практычнага гаспадарчага будаўніцтва.

Сьледам ноўшасьці заданьня, пастаўленага сабе вышэйназванымі ВНУ-амі, навуковыя пляны іх шмат разоў перапрацоўваліся, маючы ўвесь час на ўвазе знайсьці правіловыя адносіны між чыста тэорытычнымі і соцыяльна-экономічнымі дысцыплінамі і навукамі прыкладнымі—комэрцыйнымі і таваразнаўчымі.

Мэта, якую ставілі сабе комэрцыйныя Ін-ты, захоўвалася ў тым, каб падрыхтаваць вучняў к практычнай дзейнасьці ў таргова-прамысловых установах, к грашова-тэхнічнай, дзяржаўнай, грамадзкай службе, а таксама к выкладаньню спэцыяльных прадметаў у комэрцыйных навуковых установах.

Аднак, усе гэтыя спэцыяльныя, соцыяльна-экономічныя й комэрцыйныя ВНУ-ы рыхтавалі гаспадарнікаў, прамыслоўцаў і адміністратараў для ўласнай капіталістычнай прамысловасьці.

Рэволюцыя высунула зусім іншыя новыя задачы.

Ні на захадзе, ні ў Расіі да рэволюцыі не магло быць такіх Вышэйшых Навуковых Установаў, якія-б гатавалі спэцыялістаў, умеючых разьбірацца ў соцыяльна-экономічных фактарах, датыкаючыхся ўсяго краю. Новыя гаспадарчыя формы патрабавалі перайначваньня вышэйшае прамысловае асьветы.

Ліквідацыя старога праўвога строю, будаўніцтва зусім новага тыпу дзяржавы—савецкага, патрабавала каранного перагляду і пытаньня аб вышэйшай юрыдычнай адукацыі. Старыя юрыдычныя факультэты, разьвіваўшыя ў студэнтаў выключна формальна-юрыдычнае мысьленьне і пры тым цалком прыстасованае да ўласна-гаспадарчых адносін і паліцэйскае дзяржавы, ні ў якім разе не здавальнялі пытаньням Савецкае Соцыялістычнае стараны.

Інтарэсы нармальнага дзяржаўнага будаўніцтва ў розных напрамках, рэчавістыя запытаньні новых экономічных адносін вымагалі неадкладна радыкальнае зьмены юрыдычнае адукацыі.

Было, аднак, зусім ясна, што як падрыхтоўка прамыслоўных адміністратараў, так і новых юрыстаў, павінна вытварацца на шырокай тэорытычнай рэволюцыйна-марксыцкай аснове.

Так, перад органамі народнае асьветы зусім выразна выявіліся тры асноўныя задачы ў напрамку Вышэйшае Соцыяльна-Экономічнае адукацыі.

1. Даць студэнтам шырокую тэорытычную матар'ялістычную адукацыю.

2. Падрыхтаваць кадры высока-кваліфікаваных практыкаў-экономістаў для ВСНГ, Цэнтрасаюзу, Наркамграшовых Спраў, Цэнтрастатбюро, Нар-

компрацы, Рабсялінспэкцыі і для адміністраваньня ў фабрычна-заводзкіх установах.

3. Падрыхтаваць дзеячоў у напрамку Савецкага суда і адміністрацыі, умеючых ужываць свае тэорытычныя веды на практыцы, добра вядомых з сыстэмамі судабудаўніцтва й судаводзтва.

Такім чынам, для здавальненьня ўказаных трох асноўных задач, былі ўтвораны факультэты грамадзянскіх навук. К вялікаму жалю, аднак, у працэсе ўтварэньня ФГН дзе-ні-дзе выявілася, бязумоўна, шкодная тэндэнцыя: некаторыя захацелі бачыць ў іх выключна храмы абстрактных тэорытычных навук, дзе благагавейна будуць праходзіцца ўсялякія гуманітарныя навукі-дысцыпліны.

Вось чаму першыя два гады свайго існаваньня ФГН-ы не адрозьніваліся выразнай асабістасьцью.

Да й самыя задачы ФГН у іх статуце былі формуляваны надзвычайна расплыўчыва й неазначана. Статут гласіў, што ФГН-ы павінны ствараць „кадры навукова падрыхтаваных практычных працаўнікоў соцыялістычнага будаўніцтва“.

Соцыялістычнае будаўніцтва ўключае ў сябе рашуча ўсе галіны дзяржаўнага і народнага жыцьця, аж да абароны народнага здароўя.

Некаторыя дзеячы вышэйшай школы зусім паважна даводзілі неабходнасьць аб'яднаньня соцыяльна-экономічнае й пэдагогічнае адукацыі.

Выходзячы зусім з правіловае думкі аб тым, што грані між аддзельнымі гуманітарнымі дысцыплінамі чыста ўмоўныя і што матар'ялістычны соцыяпогляд павінен сынтэтычна абхваціць усе праявы культурнага жыцьця грамадзкага чалавека, прыходзілі да зусім неправіловага вываду аб неабходнасьці аб'яднаньня выкладаньня экономікі, права, гісторыі, мастацтва, языка і г. д. Утвораны вясною 1919 г. Факультэт Грамадзянскіх Навук 1-га Маскоўскага Дзяржаўнага Унівэрсытэту састаяў з трох аддзяленьняў: юрыдычна-політычнага, экономічнага і гісторычнага. Пасьля зачыненьня ў 1924 г. філолёгічных факультэтаў у склад ФГН Маскоўскага Дзяржаўнага У-ту ўвайшлі наступныя 7 аддзяленьняў:

1) Экономічнае, 2) прававое, 3) грамадзянска-пэдагогічнае, 4) этнолёга-лінгвістычнае, 5) літаратурна-мастацкае, 6) Аддзяленьне замежных зносін і 7) статыстычнае, а пасьля зачыненьня архэолёгічных інстытутаў і аддзяленьне 8) архэолёгічнае.

Такім чынам рэорганізацыя вышэйшае асьветы прывяла к утварэньню шматфакультэтнага, штучна злучанага організму, бяз выразнай асабістасьці, з надзвычайна грамозднай і блытанай архітэктонікай.

ФГН-ы провінцыяльных унівэрсытэтаў хоць і ня мелі гэтулькі аддзяленьняў, аднак будаваліся па таму-ж тыпу.

Так, Факультэт Грамадзянскіх Навук Беларускага Дзяржаўнага У-ту ў 1921—22 г. састаяў з чатырох аддзяленьняў: Экономічнага, Прававога, Пэдагогічнага й Этнолёга-Лінгвістычнага.

Скора выявілася, што падобнае аб'яднаньне па сутнасьці зусім розных аддзяленьняў, з рознымі мэтамі ні ў якім разе не мэтазгодна.

Гэта неазначанасьць будовы ФГН-а, гэта забыцьцё пастаўленых перад ім рачавістым жыцьцём задач, утварыла зусім зразумелыя скэптычныя адносіны к яму з боку многіх самавітых савецкіх дзеячоў.

Паступова, аднак, будова ФГНаў (хоць і ня ўсюды) рабілася ўсё больш і больш выразнай. ФГН Беларускага Дзярж. У-ту, як і многія іншыя, у 1923 і 1924 г.г. ужо дзейнічаў у складзе двух аддзяленьняў: Экономічнага і Прававога.

Імкнучыся па магчымасьці шырэй здаволіць рачавістыя практычныя патрэбы й запытаньні савецкае дзяржавы, ФГН-ы не ўпушчалі з віду й

неабходнасьць даць кваліфікаванаму працаўніку соцыялістычнага будаўніцтва шырокую тэорытычную й соцыяльна-экономічную падрыхтоўку.

Адпаведна тром асноўным задачам і будаваліся навуковыя пляны ФГН-аў. Акрамя дысцыплін агульна-марксыцкіх (дыялектычны матар'ялізм, соцыолёгія, політычная экономія, гісторыя соцыялізму) і натуральна-навуковага мінімуму (асновы фізыкі, хімія, і біолёгія), дапамагаючых выпрацоўцы матар'ялістычнага сьветапогляду, на экономічным аддзяленьні выкладаецца шэраг тэорытычных і прыкладных экономічных, гісторычных, комэрцыйных і таваразнаўчых дысцыплін і неабходны мінімум юрыдычных навук; на прававым-жа, натуральна, пераважваюць юрыдычныя дысцыпліны.

Трэба зусім азначана сказаць, што вышэйшая соцыяльна-экономічная адукацыя ў Савецкім Союзе не атрымала дасюль канчатковай організацыі і аднатыповасьці.

Поруч з (ФГН-мі з якіх некаторыя ўжо ліквідаваны й перайначаны) у Маскве, Кіеве, Харкаве існуюць Інстытуты Народнае Гаспадаркі. Яны гэнэтычна зьвязаны з ужо даўно пабудаванымі комэрцыйнымі Інстытутамі й абсталёваны значна заможней і лябораторыямі, і іншымі навукова-дапамагаючымі ўстановамі, чым ФГН-ы. Іх асабістасьць больш строга абрысована, чым у ФГН-аў. Будучы родны ім па задачам, яны многа цясьней зьвязаны з навочнымі запытаньнямі гаспадарчага жыцьця краю. У іх навуковых занятках пераважнае месца займае лябораторнае прысваеньне дысцыплін, практыканцтва й стажыраваньне. У навуковых плянах вельмі значнае месца адводзіцца прыкладным комэрцыйным і таваразнаўчым дысцыплінам: комэрцыйныя вылікі, агульнае рахаўніцтва, грашовыя вылікі, фабрычна-заводзкае рахаўніцтва, сельска-гаспадарчае рахаўніцтва, тэхніка гандлярства, тэхніка банкавых спраў, банкавае рахаўніцтва, транспортная справа, хімічная тэхнолёгія, хімічнае таваразнаўства, сельска-гаспадарчае таваразнаўства, тэкстыльнае таваразнаўства, спэцыяльныя курсы таваразнаўства й г. д. У новых навуковых плянах прамысловых факультэтаў унесены некаторыя зьмены вытворчых і таваразнаўчых дысцыплін з групаваньнем трохі йначай: асновы фабрычна-заводзкай прамысловасьці, прамысловая энэргэціка, сельска-гаспадарчая прамысловасьць, таваразнаўства неорганічных продуктаў, таваразнаўства органічных продуктаў, энцыклёпэдыя мэханічнай прамысловасьці, тэхнічны лад фабрык і заводаў, спэцыяльныя галіны фабрычна-заводзкай прамысловасьці. І экономічныя аддзяленьні ФГН-а імкнуліся пабудаваць свае навуковыя пляны, зьвязаўшы тэорэтычна соцыяльна-экономічныя дысцыпліны са спэцыялізацыяй у азначаных галінах гаспадарчай дзейнасьці. Для гэтае мэты ўтвараліся спэцыяльныя цыклы: адміністрацыйна-прамысловы, банкава грашовы, коопэрацыйны і інш. І ўсё-ж будову экономічных аддзяленьняў ФГН-аў нельга лічыць скончанай. Яны павінны бліжэй стаць да вытворчасьці, павінны ўмацніць лябораторнае вывучэньне таваразнаўчых і комэрцыўных дысцыплін, павінны змагчы падрыхтаваць кваліфікаваных працаўнікоў, адміністратараў для кожнай галіны прамысловасьці.

Многа выразьней і менш складна намячаліся задачы прававых аддзяленьняў ФГН-аў. Іх мэта—падрыхтаваць упоўне компэтэнтных працаўнікоў савецкіх судоў і адміністрацыйных установ.

Для гэтага неабходна было зрабіць караны перагляд усёй сыстэме юрыдычнае адукацыі, адмовіўшыся ад такіх спэцыфічных прадметаў, як царкоўнае й поліцэйскае права і сыстэма рымскага права. У галаву навуковых плянаў належала паставіць сыстэматычнае лябораторнае вывучэньне асноўных галін існуючага права. Бяссумненна, што ўпоўне правіловая й адпавядаючая інтарэсам Савецкага будуўніцтва організація юрыдычнага выкладаньня патрабуе пільнай праверкі зьместу й мэтодаў юрыдычных дысцыплін.

Лекцыйная сыстэма й тут павінна будзе заняць падлеглае месца ў параўнаньні з практычнай, консэрваторнай апрацоўкай грамадзянскага права й процэсу, карнага права й процэсу, гандлёва-прамысловага права, адміністрацыйнага, зямельнага й г. д. Калі экономісты 2-га курсу павінны зьвязацца з адпавядаючымі гасп. органамі, то прававікі-студэнты павінны быць уцягнутымі ў працу органаў суда, прокуратуры, колегіі абаронцаў і. г. д. Надзвычайнае значэньне мае організацыя юрыдычных клінік. Гэткая юрыдычная клініка здавальняюча працуе пры юрыдычным факультэце К. У. П. Х. Яе мэты: 1) усебаковае вывучэньне асобы злачынца; 2) вывучэньне псыхолёгіі сьведкаў і судзьдзей; 3) паданьне радаў і заключэньняў па пытаньням існуючага права; 4) іншыя досьледы дзейнічага права, як соцыяльныя зьявы.

Задачы і будова прававога факультэту, альбо аддзяленьня, асабліва выразна формуляваны ў рэзолюцыі Першага Усеўкраінскага зьезду па асьвеце (Бюлетэнь Нар. Кам. Асьветы УССР, № 2 стар. 40—49): „Прававы Ф-т, кажа рэзолюцыя, у адпаведнасьці з усёй сыстэмай вышэйшае профэсыянальнае асьветы, мае сваёю мэтаю падрыхтоўку высока-кваліфікаваных практычных працаўнікоў права, з шырокім матар'ялістычным кола-глядам, асноўным веданьнем дзейнічаючага права і неабходнымі ў профэсыянальнай дзейнасьці звычкамі. У адзнаку ад дарэволюцыйнай сыстэмы асьветы, меўшай, пераважна, мэты агульнае адукацыі і адпаведна гэтаму адмяжоўваўшай навуковую тэорыю ад практычных запытаньняў жыцьця, прававы факультэт Савецкіх ВНУ-аў павінен будавацца на гармонічным злучэньні і ўзаемным папаўненьнем тэорытычных палажэньняў і іх практычных ужываньняў.

Адпаведна сваім практычным мэтам прававое аддзяленьне ФГН-а БДУ ўлучае ў сябе два спэцыяльных цыклы: адміністрацыйны і судовы. Бяссумненна, што задача рацыянальна організаваць юрыдычную адукацыю, роўна, урэшце, як і ўсякую гуманітарную адукацыю, цясьнейшым чынам зьвязана з пытаньнямі аб падборы марксыцка думаючых пэдагогаў права, экономікі й г. д.

У напрамку вышэйшае соцыяльна-экономічнае адукацыі мы маем дзьве канцавосна працівалежачыя ВНУ-ы: Спэцыяльна экономічныя ВНУ-ы з шырока пастаўленай спэцыялізацыяй, але затое з вельмі звужанай тэорытычнай марксыцкай базай і Ком. ВНУ-ы, вельмі аслабляючыя ў сваіх навуковых плянах спэцыялізацыю.

Неабходнасьць рэформы вышэйшае соцыяльна-экономічнае адукацыі ўсьведамляюцца ўсімі.

Але ў пытаньні аб мэтодах рэформаваньня намячаюцца розныя пункты погляду. Кіраўнікі нашай экономічнай політыкай нахільны абараняць соцыяльна-экономічныя ВНУ-ы з выключна практычным ухілам пры звужэньні выкладаньня агульна-тэорытычных дысцыплін. Гэтак, Наркамунутргандлю А. Ляжава („Красная Молодежь" № 4, 1924 ст. „Рэформа вышэйшае экономічнае адукацыі"), адзначаючы падвойную важнасьць у народна-гаспадарчым жыцьці краю пытаньняў унутранага тавараабароту, пытаньня абмену між горадам і вёскай, падкрэсьлівае, што запытаньням організацыі ўнутранага гандлю павінна раней усяго здавальняць наша вышэйшая школа.

„Істотнай задачай дня, па думцы Ляжавы, становіцца падрыхтоўка такога складу маладых сіл, і ў першую чаргу з рабоча-сялянскай моладзі, якія маглі-б стаць у галаве нашых шматлікавых дзяржаўных і коопэрацыйных гандлёвых установаў, маглі-б быць практычнымі кіраўнікамі нашага маладога і мацнеючага дзяржаўнага і коопэрацыйнага гандлю".

Ляжава бачыць заслугу ФГН-аў у тым, што яны „сталі шырокай школай марксыцкай тэорыі". Ён думае, аднак, што інтарэсы дзяржгандлю

й коопэрацыі патрабуюць у сучасны момант высоўваньня ў першую чаргу выкладаньня нетэорытычных дысцыплін, а практычных, прыкладных.

Наркамунутргандлю паставіў ва ўсю шырыню пытаньне аб спэцыяльнай вышэйшай комэрцыйнай адукацыі. У Маскве запытаньням організацыі гаспадаркі ў сучасны момант будуць служыць дзьве ВНУ-ы: Інстытут Народнае Гаспадаркі імя Пляханава, якому прыдаецца ўхіл у бок замежнага гандлю і Прамысловы Экономічны Інстытут, з ухілам у бок унутранага гандлю Застаецца, аднак, адчыненым пытаньне, у якой-жа навуковай установе будзе выкоўвацца марксыцкая ідэолёгія, якія ВНУ-ы будуць даваць шырокую тэорытычную соцыяльна-экономічную падрыхтоўку пры захаваньні ў той-жа час выстарчаючай спэцыяльнай падрыхтоўкі для працы ў аддзельных галінах Савецкага Соцыялістычнага будаўніцтва.

На гэта пытаньне стараюцца даць адказ аўторы стацьці „Вышэйшая Марксыцкая Школа Грамадзянскіх Навук", зьмешчанай у газэце „Праўда" —А. Крыцман, Д. Кузаўкаў, Н. Лукін, Е. Прэабражэнскі. А. Ціміразеў, Фрычэ. Яны думаюць, што ў адзнаку ад спэц. ВНУ, дзе марксыцкая шырокая соцыяльна-экономічная адукацыя разьведзена ў моры спэцыяльных дысцыплін і ў адзнаку ад Ком. ВНУ, спэцыяльнае значэньне якіх—гатаваць высокакваліфікаваных партпрацаўнікоў, павінна існаваць Вышэйшая Марксыцкая школа Грамадзянскіх Навук, у якой пры грунтоўнай, агульна тэорэтычнай падрыхтоўцы, на падставе марксыцкага сьветапогляду, павінна займаць віднае месца й спэцыялізацыя па розным галінам савецкага будаўніцтва.

У даказ правільнасьці сваёй ідэі аўторы стацьці ссылаюцца на зданьне т. т. Багданава (В. С. Н. Г.), Янсона (Н. К. У. Г.), Кржыжаноўскага, Шмідта, Пакроўскага. Усе яны згодна адзначаюць, што поруч з тыпам экономіста вузкай спэцыяльнасьці неабходзен экономіст з шырокай тэорытычнай падрыхтоўкай, лёгка разьбіраючыся ў агульных пытаньнях народнае гаспадаркі.

„Я баюся,—кажа Багданаў,—што наша сучаснае пакаленьне кінецца ў вузкую спэцыялізацыю і ня будзе падрыхтавана да шырокай задачы пляпаваньня".

У сутнасьці, супроць ідэі аўтораў стацьці ў асноўным пярэчыць нельга. Яны зусім відавочна хочуць умацаваць ФГН-ы, зрабіўшы магчыма больш аднолькавым соцыяльны склад іх студэнцтва пры ўмацаваньні спэцыялізацыі. У той-жа час бяссумненна, што яны далёка ня ўпаўне выразна ўяўляюць сабе мэты й заданьні свае вышэйшае марксыцкае школы Грамадзянскіх навук. Па іх разуменьню яна павінна абхватваць усе асноўныя аддзелы грамадзянскіх навук—экономіку, права, гісторыю, літаратуру, языказнаўства, мастацтвазнаўства й г. д.

Гэтым самым яны варочаюцца к таму пэрыоду, калі ФГН-ы састаялі з 8 (альбо менш) аддзяленьняў, органічна ня злучаных, маючых практычна зусім розныя мэты. Іх вышэйшая школа пры такім мэтодзе зноў ня будзе мець свае вызначанай, строга выражанай асабістасьці. Скарэй за ўсё яна так і застанецца конглёмэратам розных тэорытычных дысцыплін.

Інтарэсы дзяржаўнай прамысловасьці, коопэрацыі, унутранага й замежнага гандлю, роўна, як і інтарэсы самое вышэйшае школы, патрабуюць зусім выразнай іх будовы. Мы думаем, што соцыяльна-экономічныя ВНУ-ы павінны будавацца па ўзору Нар. Гасп. Інстытутаў пры двух асноўных факультэтах—экономічным і прававым і пры ўсебакова распрацованай сыстэме цыклаў стажыраваньня й практыканства на шырокай тэорытычнай марксыцкай аснове. Тып вузкае спэцыяльнае вышэйшае соцыяльна-экономічнае навуковае ўстановы па ўзору Нью-Ёркскае альбо Чыкагскае—нас здаволіць ня можа. Ня можам мы дазволіць сабе й пышнасьці абстрактнага тэорытызаваньня. Вышэйшая соцыяльна-экономічная адука-

цыя павінна даць злучнасьць шырока пастаўленае тэорэтычнае адукацыі з паглыбленай спэцыялізацыяй у пытаньнях народнае гаспадаркі і права.

У Нямеччыне, як і ў іншых краёх Захаду, узмацнёна абгаворваюць пытаньне рэформы вышэйшай школы.

Многія вельмі аўторытэтныя вучоныя лічаць, што далейшая спэцыялізацыя ў ВНУ шкодна, няўхільна прывядзе к зьяўленьню тыпу вучоных рутэнераў альбо дылетанцкі адукаваных рамесьнікаў.

Вядомы нямецкі социолёг Фэрдынанд Тэпніэс („Hochschulreform und Soziologie"—„Рэформа вышэйшай школы і соцыолёгія) кажа аб крайняй неабходнасьці даць юнацтву, акрамя спэцыяльнае, сынтэтычную адукацыю. Ен кажа: „Wir brauchen Synthese auf jedem Fachgebiet, Synthese unserer gesamten Wissenschaft"(нам неабходзен сынтэз кожнай галіны і сынтэз усіх нашых ведаў).

Проф. Бэкер („Cedanken zur Hochschulreform"—„Думкі аб рэформе вышэйшай школы") піша аб тым, што ВНУ-ы павінны, урэшце, падумаць аб тым, штоб выхоўваць у сваіх сьценах грамадзян. Навуковае выкладаньне ў ВНУ, па думцы Бэкера, павінна адвучаць ад індывідуалізму і партыкулярызму, павінна быць дарогаю „Zum staatsbúrgerlichen Charakter"—да ўтварэньня дзяржаўнага характару.

Аўтор прапануе, падобна вышэй памянутым аўторам стацьці аб вышэйшай школе грамадзянскіх навук, утварыць новы тып вышэйшае навуковае ўстановы—„Ecole libre de sciences politiques" (Свабодную школу палітычных навук).

Сучасная бурная соцыяльная эпоха патрабуе ўладна, умела злучаць выхаваньне грамадзяніна з падрыхтоўкай спэцыяліста.

Усё часьцей успамінаюцца словы О. Конта аб неабходнасьці дапасоўваньня спэцыялізацыі з сынтэтычнай адукацыяй: „Il faut foire une spécialité des generalité".

Адсюль і ўпартыя прапановы многіх нямецкіх вучоных шырэй паставіць у ВНУах выкладаньне соцыолёгіі, як тэорытычнай, так і прыкладнай.

Для гэтага зразумела, чаму проф. Бэкер адзначае, што: „Sociologische Lehrstuhle sind eine dringlude Notwenagkeit fùr alle Hochschulen"—вывучэньне соцыолёгіі ёсьць упартая неабходнасьць для ўсіх вышэйшых школ. Упарта робяцца прапановы й аб уводзе ў нямецкія ВНУ-ы выкладаньня т. зв. навуковай палітыкі („die wissenschaftliche Politik").

Савецкая Рэспубліка больш усякай другой дзяржавы непасрэдна зацікаўлена ў шырока й правільна пастаўленай соцыяльна-экономічнай адукацыі.

Меркаваньні экономіі народных грошай ў данным выпадку ня могуць мець места. Траты на ўсякую вышэйшую (як і на ніжэйшую й сярэднюю) адукацыю выкупляюцца ў стокраць. Тым больш высокай павінны быць рэнтабельнасьць соцыяльна-экономічных ВНУ-аў, пазваных абслугоўваць камандныя вышыні Савецкае Фэдарацыі.

Проф. Струмілін („Гаспадарчае значэньне народнае асьветы" стар. 31—45) шэрагам добра апрацаваных лічбінаў адзначае цясьнейшую залежнасьць кваліфікацыі фізычнае, а яшчэ больш разумовае працы ад адукацыі. Увод усеагульнага навучаньня па дзесяцёхгадоваму пляну рэформы патрабуе 1600 міліёнаў рублёў. Але ўражаньне гэтых тратаў за той-жа час павінна быць ацэнена ў 9 міліярдаў, г. з. у 43 разы вышэй.

„Адукацыйны цэнз, правільна адзначвае проф Струмілін, учыняе, як відаць, рашучае значэньне для пад'ему кваліфікацыі разумоваепрацы. Вышэйшая адукацыя дае прырост кваліфікацыі па меншай меры, у 2, 3, 8 разоў больш, чым адпавядаючы на працягу стаж". Разам з гэтым утрыманьне соцыяльна-экономічных ВНУ-аў каштуе Савецкай дзяржаве многа менш усіх іншых ВНУ-аў.

Гэтым мы канчаем даклад аб месцы вышэйшае соцыяльна-экономічнай асьветы ў сыстэме савецкага будаўніцтва.

# ЛЕНІНІЗМ.

Мік. Шапавалаў.

## Ленін і пролетарская культура.

„Толькі перарабіўшы яе (буржуазную культуру М. Ш.) магчыма будаваць пролетарскую культуру“.

„Разрыў між тэорыяй і практыкай— самая адмоўная рыса буржуазнай грамадзкасьці“. **(Ленін).**

I.

Рэволюцыйная барацьба—мастацтва, майстар гэтага мастацтва—Ленін. Ён пабудаваў пролетарскую дзяржаву на руінах старых буржуазна-памешчыцкіх падмуровак. Ён—мастацкі будаўнік—бачыў прагніўшую аснову й яшчэ здаровыя, але ўжо трухлеючыя сьцены буржуазнае дзяржаўнасьці. Ён руйнуе яе, закладвае новую аснову, умела адбірае цэлы, не падлягаючы трухленьню будаўнічы матар‘ял і будуе заместа зруйнованага новы будынак пролетарскай дзяржавы, з яе ўласным, новым кіраўніцтвам, традыцыямі, культурай.

1917 год палажыў пачатак пролетарскай дзяржаве, але ня скончыў яе будаўніцтва цалком. Гэта задача выпала на долю пасьлядоўных гадоў, якія досыць умацавалі закладзеную ў 1917 годзе аснову і ўзьвялі на ёй новы будынак—пролетарскую дзяржаву.

Далейшыя этапы ў яе будаўніцтве адзначаюцца экономічным і ідэолёгічным узмацаваньнем. Высоўваюцца на чаргу пытаньні ўнутранага распарадку, кіраваньня дзяржавай, пытаньні культуры і навукі, як зброі яе далейшага росквіту, дабрабыту і залогу перамогі ў барацьбе з капіталістычным сьветам, які так ці іначай пасягае на існаваньне адзінай у сьвеце пролетарскай дзяржавы.

Да пытаньняў культуры, пад якімі мы ўмовімся рязумець навуку і мастацтва, У. І. Ленін падыходзіць, як да неабходных элемэнтаў агульнага цэлага ў савецкім будаўніцтве.

Большая частка думак У. І. Леніна аб культуры адносіцца да 20-га і 21-га гадоў, і гэта зусім зразумела. Толькі 20-ы і 21-ы гады, калі СССР вызвалілася ад вайны, блёкады й гаспадарчага руйнаваньня, маглі высунуць на чаргу пытаньне аб культуры ў пролетарскай дзяржаве. Культура, па ступені вышыні якое мераюць дабрабыт таго ці іншага краю, ня можа быць створана з нічога адразу.

Стварэньне яе—вынік законамернага разьвіцьця тых запасаў ведаў, якія чалавецтва выпрацавала пад капіталістычнам уціскам.

У пераходныя эпохі, калі адбываецца „пераацэнка ўсіх каштоўнасьцяў“, ня могуць вырасьці адразу, як грыбы пасьля дажджу, новыя элемэнты культуры, новыя традыцыі, новыя формы мастацтва, адпавядаючыя духу новых грамадзкіх адносін.

Гэтыя грамадзкія адносіны носяць на сабе яшчэ шмат традыцыйнага старога, якое існуе да ўтварэньня сапраўды новага. Гэтае новае будуецца з старых, найбольш каштоўных, адпавядаючых клясавай сутнасьці данага грамадзкага ладу элемэнтаў.

Гісторыя дала нам шмат прыкладаў, падцьвярджаючых тое грунтоўнае палажэньне, якое гаворыць, што з нічога ня можа быць створана нічога.

*Буржуазная культура.* Буржуазная культура гэтак сама не звалілася на „грэшную“ зямлю з неба. Зьявіўшыся вынікам капіталістычнага ладу, яна вырасла з недраў адміраючых фэодальна-прыгонных адносін, і шляхам доўгага пэрыоду ачысткі, у які ад яе паступова адпадалі астаткі фэодальна-прыгонных элемэнтаў культуры—яна стала чыста буржуазнай культурай, маткаю культуры пролетарскай.

Буржуазная культура будавалася мазгамі інтэлігэнцыі за лік прыдатковай каштоўнасьці, якую атрымлівала буржуазія ад эксплёатацыі рабочых, г. зн. у канчатковым падліку, людзі спэцыялізуючыся ў той ці іншай галіне ідэолёгічнай дзейнасьці, утваралі буржуазную культуру за кошт рабочых. Наагул усе культуры, што існавалі да гэтага часу, былі культурамі пануючых клясаў і так ці інačай адбівалі іх нахіл і імкненьні, дзякуючы чаму ў руках кіруючых клясаў зьяўляліся зброяю прыгнечаньня другіх, ня прымаючых удзелу ў кіраваньні дзяржавай, клясаў.

Толькі вельмі малы лік прадстаўнікоў гэтых прыгнечаных клясаў, прадстаўнікоў, што страцілі клясавае пачуцьцё й далёка адышлі ад інтарэсаў тае клясы, з якое яны выйшлі, сталі адбіткамі і будаўнікамі буржуазнай культуры. Але іх лік вельмі малы, і рабіць на падставе гэтага факту якія небудзь вывады было-б памылкова.

Неабходна адзначыць, што кіруючыя клясы ўмела прываблівалі на службу сваім інтарэсам лепшых прадстаўнікоў іншых клясаў з тым, каб выцягнуць з іх найбольшую карысьць, перавыхаваць іх і праз іх палягчыць кіраваньне працоўнымі масамі.

Творцаў буржуазнай культуры вельмі малы лік. Тав. Прэабражэнскі пасьля зробленага ім падліку таленавітых і гэніальных людзей, пачынаючы з 13-га стагодзьдзя, налічвае іх толькі ўсяго 2000 чалавек. Бязумоўна, гэта найбольш выдатныя мысьліцелі. За імі ідзе рад менш выдатных і вядомых. Але ўсё-ж лік творцаў і ўдзельнікаў у будаваньні буржуазнай культуры нікчэмны, калі параўнаць яго з усім лікам жыхарства данага пэрыоду, і пакоіцца ён на вельмі вузкай клясавай праслойцы.

Зьяўляючыся культурай пануючае клясы, буржуазная культура абараняла інтарэсы гэтае клясы ад пасяганьня на яе іншых клясаў праз утварэньне цэлай сыстэмы правіл і норм павядзеньня, пачынаючы ад сямейнага ачагу і канчаючы грамадзкімі інстытутамі і ўстановамі капіталістычнага ладу.

Усё гэта па меры сіл і ўменьня тварцамі буржуазнай культуры прывадзілася ў „навуковую“ сыстэму й непарушна абаранялася сеткай прымусовых і моральных устаноў: судом, царквой, тэатрам, шырока растаўленымі на кожным кроку карчмамі і інш.

Але нішто на сьвеце ня вечна. Такі, здавалася-б, моцны капіталістычны лад, усё-ж такі, пад націскам працоўных мас, якіх сам-жа парадзіў, прымушаны быў рушыцца, а з ім рушыліся і шматлікія ўстановы, яго абараняючыя. Некаторыя з іх былі прыстасаваны для правядзеньня новых павеяў, адпавядаючых духу новых грамадзянскіх адносін (суд, тэатр і інш.).

*Пролетарская культура.* Капіталізм у сваім развіцьці хавае элемэнты соцыялізму. Ён утварае свайго магільшчыка—рабочую клясу, сваю зьмену. Зьяўляючыся клясаю, якая творыць каштоўнасьці, паразытычна растачаемыя заможнымі клясамі, пролетарыят разам з тым зьяўляецца не-

абходным падарожнікам капіталістычнага ладу, які, як казаў Герцэн, „калі зложыць свае рукі на грудзі, дык спыняецца ўсё жыцьцё“.

Зьяўляючыся незацікаўленым у захаваньні прыватнай уласнасьці, як сродкаў яго эксплёатацыі, пролетарыят у сваёй барацьбе за перабудаваньне грамады, выпрацоўвае свае традыцыі, культуру, ідэолёгію, якая гісторычна нараджаецца з соцыялістычных элемэнтаў буржуазна-капіталістычных адносін.

Аднак, было-б памылкова мысьліць, што для стварэньня пролетарскай культуры хопіць, у якасьці вопыту, адных толькі здабыткаў капіталізму. Гэтага мала. Для стварэньня пролетарскай культуры трэба пакласьці ў аснову вопыт дасягненьняў чалавецтва на ўсім шляху яго гісторычнага разьвіцьця, якое вядзе грамадзянства да зьнішчэньня аджываючых грамадзкіх інстытутаў буржуазна-капіталістычных адносін, да ўтварэньня замест іх новых грамадзянскіх адносін з новымі традыцыямі, з новай культурай. Гэтая культура, зарадзіўшыся ў гушчах капіталістычнага грамадзянства, яшчэ ня будзе пролетарскай, пакуль дзяржаўная організацыя ў поўнай меры экономічна не падначаліць сабе прадстаўнікоў буржуазнай культуры.

Як жа можна будаваць пролетарскую культуру? На гэта У. І. Ленін адказвае: „Бяз яснага разуменьня таго, што толькі праз дакладнае вывучэньне культуры, утворанай усім разьвіцьцём чалавецтва, толькі пераапрацоўкай яе магчыма будаваць пролетарскую культуру, без зразуменьня гэтага нам пастаўленай перад сабою задачы не разьвязаць“.

Аднак, перабудоўваючы буржуазную культуру, беручы ад яе карысныя для пролетарскае дзяржавы элемэнты, неабходна падыходзіць да іх крытычна. Трэба ўзяць ад яе найбольш каштоўнае, каб „абагаціць свой розум пазнаньнем тых фактаў, без якіх ня можа быць сучаснага адукаванага чалавека“.

Бескарысна праца, калі ў нашай сьвядомасьці застануцца веды, якія намі ўзяты ад буржуазнай культуры, не пераапрацованымі. Тады комунізм „абернецца ў пустое слова, у пустую вывеску, а комуніст будзе простым хвальком“—ня больш.

Як добры будаўнік, адбудоўваючы зруйнованы будынак, умее адабраць з будаўнічага матар'ялу найбольш моцныя, здаровыя, каштоўныя й не падлягаючыя трухленьню часткі, так і будаўнік пролетарскай культуры павінен узяць ад буржуазнай культуры і ўсвоіць элемэнты найбольш каштоўныя, карысныя пролетарскай дзяржаве ў яго будаўніцка-творчай працы.

Але як адшукаць у буржуазнай культуры элемэнты для пролетарскай дзяржавы найбольш каштоўныя ці карысныя, г. зн., чым зьмерыць іх каштоўнасьць, карыснасьць, ці шкоду. Іначай кажучы, што лічыць карысным і што шкодным?

Ня будзе памылкай сказаць, што ўсё тое, што дапамагае ўзмацаваньню і росту дабрабыту, росквіту пролетарскай дзяржавы, будзе для яго карысным і каштоўным і, наадварот, тое, што вядзе яго да заняпаду, да гаспадарчага і ідэолёгічнага распаду, будзе шкодным, памылковым, непатрэбным. Гэта трэба заўсёды памятаць. Двух думак у нас, марксыстаў, у гэтым пытаньні быць ня можа. Падыходзіць к вырашэньню гэтага пытаньня мы можам толькі з погляду карыснасьці таго ці іншага элемэнту культуры для грамадзянскай колектыўнай організацыі, якой зьяўляецца наша пролетарская дзяржава.

*Аб падставе культуры.* Пролетарская культура ня можа будавацца групай людзей; тварыць яе—справа усіх працоўных.

„Важна ня тое,—гаворыць Ленін,—што дае мастацтва некалькім сотням, нават некалькім тысячам агульнага ліку жыхарства, якое лічыцца

міліёнамі. Мастацтва належыць народу. Яно павінна ўваходзіць глыбокімі карэньнямі ў самыя гушчы шырокіх працоўных мас. Яно павінна быць зразумела гэтым масам і люба ім. Яно павінна аб'яднаць пачуцьцё, думкі й волю гэтых мас, падымаць іх. Яно павінна абуджаць у іх мастакоў і разьвіваць іх".

Толькі на пачатках колектыўнай творчасьці можа расьці, пашырацца і ўзмацняцца пролетарская культура. Гэта, бязумоўна, ня значыць, што нам не патрэбны будуць выразіцелі гэтай тварчасьці: профэсары, пісьменьнікі, мастакі і г. д. Яны зоймуць у агульнай масе належачае ім месца, але прымаць удзел у стварэньні новай пролетарскай культуры—справа кожнага рабочага й селяніна.

Якая-ж матар'яльная падстава і магчымасьці ў гэтым напрамку ўбудаўнікоў буржуазнай пролетарскай культуры? Як мы бачылі раней, буржуазная культура ўтвараецца за лік прыдатковай каштоўнасьці, якую буржуазія атрымлівае ад працы рабочага. Калі ня будзе гэтае прыдатковае каштоўнасьці—ня будзе й падставы для ўтварэньня культуры. Апрача таго, шырокаму разьвіцьцю буржуазнай культуры робяць перашкоды самыя ўмовы капіталістычнага вырабу, якія спыняюць далейшы культурны рост. Конкурэнцыя, бязупынная барацьба на рынку, войны, крызісы і інш. падрываюць матар'яльную базу, а разам з ёй і культуру.

У пролетарскай-жа дзяржаве база для пролетарскай культуры ўтвараецца самымі рабочымі. На іх куьтурныя, гаспадарчыя й іншыя патрэбы працуе плянава організаваная гаспадарка, на ўтварэньне гэтай культуры йдзе прыдатковая каштоўнасьць, а вольны час, які астаецца пасьля 8-мі гадзін працы ў дзень, дазваляе рабочым прымаць удзел у культурнатворчай працы, цалком сьвядома і актыўна. Як будаўніком пролетарскай дзяржавы і клясе кіруючай, гэты ўдзел нават неабходны, бо ён зьяўляецца сродкам узмацаваньня сіл рабочае клясы і залогам яе перамог на франтох экономічнай і ідэолёгічнай барацьбы.

*Тэорыя й практыка.* Ул. І. Ленін, падыходзячы да пытаньня культуры, як неабходнай часткі дзяржаўнага мэханізму, разглядаў каштоўнасьць тых ці іншых элемэнтаў культуры з погляду іх конкрэтнай карысьці для пролетарскай дзяржавы.

Аднак, было-б памылкова думаць, што У. І. Ленін ігнорырue тэорыю.

У сваіх шматтомных працах ён шмат разоў падкрэсьлівае значэньне дыялектычнага матар'ялізму — марксыцкай рэволюцыйнай тэорыі — для практычнай барацьбы. Разам з барацьбой экономічнай і політычнай ён высоўвае трэцюю форму барацьбы—барацьбу тэорытычную, бо яна зьяўляецца неабходнай зброяй пролетарыяту ў яго практычнай рэволюцыйнай барацьбе.

„Мышленьне, якое ўяўляецца быцьцём, у сваю чаргу зьяўляецца сілай неабходнай для далейшага разьвіцьця быцьця. І чым больш разьвіваецца быцьцё, чым вышэй тая стопень, на якую яна падымаецца ў сваім гісторычным руху, тым неабходней становіцца для яго далейшага разьвіцьця праз яго-ж уяўляемае мышленьне. Асабліва важнай стане роля ўяўляемага праз быцьцё мышленьня ў эпоху пераходу ад капіталізму к социялізму"[1]).

Толькі ў злучэньні тэорыі з практыкай магчыма правільнае беспамылковае вырашэньне высунутых на арэну політычнай, экономічнай і ідэолёгічнай барацьбы пытаньняў сучаснасьці.

І Ул. І. Ленін досыць выразна адзначае ўзаемаадносіны гэтых двух прэтэндуючых на першынство паняцьцяў.

[1]) Плеханов. „От обороны к нападению". Стр. 347.

„Бяз працы,—кажа ён,—без барацьбы, кніжнае вывучэньне комунізму з комуністычных брошур і твораў роўна нічога ня варта, бо яно ня зьнішчыла-б старога разрыву між тэорыяй і практыкай, той стары разрыў, які зьяўляецца самай адмоўнай адзнакай буржуазнай грамадзкасьці.

*Пытаньні культуры ў СССР і БССР.* На прыкладзе расійскай сапраўднасьці перажываемай намі эпохі досыць выразна падцьвердзілася тое грунтоўнае палажэньне марксызму, якое кажа: „Ход ідэй у грамадзтве ўяўляецца ходам рэчаў“.

І калі мы спрабуем перанесьці гэтае палажэньне ў плоскасьць сучасных разважаньняў аб культуры ў нашай Рэспубліцы, яно знойдзе сабе вачавіднае падцьверджаньне.

Эпоха вайсковага комунізму, грамадзянскай вайны й блёкады, здавалася, далёка адсунула культурнае разьвіцьцё СССР і БССР. Праходзіўшая перагрупоўка сіл, прымаючых удзел у барацьбе, формаваньне новых грамадзкіх адносін у процэсе заядлай барацьбы прымусілі нас часова забыць аб культуры і клапаціцца аб самых неабходных мерапрыёмствах, якія маглі-б забясьпечыць перамогу ў узброенай барацьбе. Зразумела, што ў пэрыод грамадзянскай вайны, у процэсе формаваньня новых грамадзкіх адносін не магла скласьціся цалком патрэбная, адпавядаючая рэволюцыйнаму пэрыоду культура. Яна ў працягу гэтага часу таксама перажывала сваю культурную рэволюцыю, якую можна лічыць яшчэ ня скончанаю.

Калі мы зьвернемся да зьместу культуры гэтай пераходнай эпохі, дык наўрад, ці ўбачым дзе і калі-б там ні было такую стракатасьць, якая была ў пэрыод формаваньня пролетарскае культуры, яе рэволюцыі. Нам можа нават паказацца, што культуры зусім ня было, бо зьмест яе ня мог задаволіць запатрабаваньняў пераходнага часу.

Але як і заўсёды, пасьля вялікіх узрушэньняў пачынаецца скоры пад'ём.

Таксама і ў нас пасьля перажытай вайны і культурнага крызісу мы бачым культурны рост і разьвіцьцё, абумоўленае ўсебаковым узмацаваньнем нашай дзяржавы і ў першую чаргу нашай гаспадаркі.

Аднак неправільна было-б казаць, што вышыня нашай культуры поўнасьцю адпавядае запатрабаваньням нашага часу.

Пераходная эпоха, у якую адбудоўваецца на руінах старога капіталістычнага ладу новая пролетарская дзяржава, сапраўджаецца шпаркім будаўніцтвам ва ўсіх галінах жыцьця. Скоры тэмп яе разьвіцьця і шматграннасьць гэтага будаўнічага процэсу не дазваляе зразу злавіць ніць культурных запатрабаваньняў краю, іначай кажучы, адбіць характэрныя асаблівасьці перажываемай эпохі.

Тады, як і ў сучасны перажываемы намі момант, у некаторых галінах культуры насьпявае крызіс.

Гэты крызіс перажывае ўжо другі год наша сучасная літаратура, якая дарэмна сіліцца адбіць шматграннасьць гэтага праходзячага процэсу.

Ён павінен высунуць для адбіцьця гэтае шматграннасьці асабліва чулых, вышаўшых з працоўных мас натур—гэніяў, што сумяшчаюць у сабе творчыя здольнасьці з пролетарска-клясавым самапачуцьцём, гэніяў якіх так мала яшчэ ў перажываемую намі эпоху, бо:

...только тот, кто в сердце емком
зажег рабочие огни,
лишь тот сумеет наши дни
живыми передать потомкам.

І мы ўпэўнены, што працоўныя масы, скінуўшыя ланцугі капіталізму, дадуць сучаснай літаратуры гэтых творцаў—гэніяў.

Датыкаючыся культурнага жыцьця СССР і БССР, неабходна адзначыць, што поле для прыстасаваньня культуры ў нас зараз вялікае. Земляробскі характар краю, слабае разьвіцьцё індустрыйнай прамысловасьці, значны лік няпісьменнага жыхарства, якога ў Беларусі на 1000 чалавек прыпадае 386 чал. у гарадох і 722 чал. у вёсках—вось тыя прычыны, якія ставілі і ставяць перашкоды нашаму гаспадарчаму разьвіцьцю.

Зразумела, што калі мы хочам адраджаць сваю гаспадарку на грунце культурных дасягненьняў, нам неабходна пачынаць будаваньне культуры з азоў.

Уладзімір Ільліч Ленін наконт гэтага кажа: „Трэба дасягнуць таго, каб уменьне чытаць і пісаць служыла падвышэньню культуры, каб селянін атрымаў магчымасьць прыстасоўваць гэта ўменьне чытаць і пісаць да палепшаньня сваёй гаспадаркі і сваёй дзяржавы“, і далей: „Перамогі пры няпісьменнасьці нельга ўявіць. Вы павінны памятаць, што перамагчы народам няпісьменным, што перамагчы народам някультурным немагчыма“. Адгэтуль цалком актуальным становіцца пытаньне аб тых кадрах культурнікаў, якія будуць выконваць і ўжо выконваюць гэту неабходную задачу—ліквідацыі няпісьменнасьці сярод жыхарства СССР і БССР. Ім даручае Рэспубліка справу выхаваньня й падрыхтаваньня да будучай барацьбы і творчай працы міліёнаў працоўных мас.

Не падлягае сумненьню, што гэтыя кадры культурнікаў-настаўнікаў павінны быць ідэолёгічна блізкімі Компартыі і Савецкай уладзе. Толькі цалком савецкая маса настаўнікаў—насіцеляў пролетарскай культуры, зможа апраўдаць ускладзеныя на яе чаканьні.

„Народны настаўнік,—гаворыць Ул. І. Ленін,—павінен быць у нас пастаўлен на такую вышыню, на якой ён ніколі не стаяў, не стаіць і ня можа стаяць у буржуазным грамадзтве. Гэта—ісьціна, не вымагаючая довадаў“.

К гэтаму мы павінны йсьці сыстэматычнай, няўхільнай, упартай працай і над яго культурным пад'ёмам і над яго ўсебаковай падрыхтоўкай да гэтага высокага званьня, і галоўнае, — трэба палепшыць яго матар'яльнае становішча.

І партыя, верная заветам Ільліча, выпаўніць вышэйпамянены завет. Першы зьезд настаўнікаў палажыў цьвёрды пачатак разьвіцьцю творчай працы настаўніцкіх мас над культурным адраджэньнем краю.

Гэта культурнае адраджэньне павінна ў першую чаргу зачапіць сучасную беларускую вёску. Яе культурныя ўстановы: хаты-чытальні, нардамы й клюбы павінны стаць асяродкамі пролетарскай культуры. Вёска прачынаецца, у ёй усё выразьней і ясьней расьце барацьба социяльных груповак, палітычная актыўнасьць. Як казалі на 13-м партзьездзе, яна стаіць сапраўды на раздарожжы. Яна перажывае новы пэрыод сваёй гісторыі й вялічэзны рост культурных затрачваньняў, якія павінны быць здавольнены горадам.

Маючаяся ў Беларусі сетка палітасьветных устаноў вёскі, уключае да 400 дзяржаўных організацый: хат-чытальняў, клюбаў, нардамоў, лікпунктаў і інш. Поруч з пашырэньнем гэтае сеткі ў параўнаньні з леташнім годам, узрастае і ініцыятыва вёскі ў гэтым напрамку. У некаторых акругах лік прыватных, існуючых на сродкі сялян палітасьветных устаноў дасягае паловы дзяржаўных.

Адначасна з павялічэньнем ліку палітасьветных устаноў на вёсцы ўзмацняецца і ўнутраная іх праца, якая, аднак, прымушае яшчэ жадаць шмат лепшага.

Ня гледзячы на ўсе дасягненьні апошніх гадоў у галіне прасоўваньня культуры на вёску, зараз мы маем толькі пачатак яе культурнага ўздыму. Гэта можна заключыць хоць бы з таго факту, што на агульны лік жыхароў у 4-ы міліёны чалавек у нас распаўсюджваецца штодзённа па Беларусі каля 55-ці тысяч газэт, г. зн. у сярэднім адна газэта на 73 чалавекі; гэты лік яшчэ больш павялічыцца, калі возьмем пад увагу тое, што галоўным падпішчыкам на друк зьяўляецца горад.

Необходным мерапрыёмствам па падняцьцю культурнай вышыні нашага краю зьяўляецца разьвіцьцё кіносправы на Беларусі. „З усіх мастацтваў, гаворыць У. І. Ленін,—для нас самае лепшае—кіно“. Трэба дабіцца, каб яно шырока распаўсюджвалася на вёсцы і апраўдала сябе на практыцы.

Нельга таксама не адзначыць, што фактарам, дапамагаючым бязумоўнаму культурнаму разьвіцьцю нашага краю, у беларускіх умовах зьяўляецца правільнае правядзеньне нацыянальнай палітыкі.

*Новы культурны чалавек.* Калі ў буржуазным грамадзтве стымулам да ўсялякага культурнага і гаспадарчага росту зьяўляецца стымул індывідуалістычны—пабольш ад грамады „ўзяць“, паставіць сваёй мэтай вызначаныя рамкі і на гэтым застанавіцца, дык у грамадзтве соцыялістычным гэты стымул павінен быць заменены іншым: раней усяго па сілах і здольнасьцях грамадзтву „даць“.

Да гэтага мы павінны ісьці ўсебаковай упартай працай і накіроўваць сваю палітыку да ажыцьцяўленьня гэтай мэты.

Праўда, шляхі да гэтай мэты ў нас, у краі са слабаю прамысловасьцю, у краі „нецывілізаваным“—цяжкія. Калі лічыць, што культура, а з ёй і культурныя навыкі ўтвараюцца працай, дык і тады мы стаім не на вышыні свайго палажэньня. Часта даводзіцца чуць, што няма чалавека, які-б так шмат працаваў, як расійскі. Гэта зацьвярджэньне настолькі правільнае, наколькі і няверная. Можна сьмела сказаць, што няма таксама чалавека, які-б так шмат не адпачываў, як расійскі. Калі мы, напр., возьмем час прыпару, лета, час збору ўраджаю, дык рабочы дзень у сельскай гаспадарцы наўрад ці можна ўмясьціць у рамкі 18-ці гадзін. Зімою-ж селянін аддае працы ў сваёй гаспадарцы ня больш 3—4 гадзін у дзень, тады як эўропэйскі рабочы ўвесь год працуе з значна большаю продукцыйнасьцю па 8-мі гадзін у дзень.

Не застанаўліваючыся на гэтым падрабязна, усё-ж такі прыходзіцца адзначыць, што пры параўнаньні сярэдняга расійскага тыпу з заходняэўропейскім і амэрыканскім мы павінны прыйсьці да вываду, што апошнія лепш нас прыстасоўваюць сябе да ўсялякай працы, якая разам з гэтым у іх лепш организавана і актыўна.

Мы павінны выпрацаваць сваімі выхаваўчымі мерапрыёмствамі і сваёй штодзённай практычнай дзейнасьцю гэткага-ж тыпу—цалком прыстасаванага да сучаснасьці.

Для пераапрацоўкі нашага сучаснага тыпу ў больш дасканалы, мы павінны імкнуцца к таму, каб зрабіць яго некаторым унівэрсалам.

Трэба выпрацаваць чалавека здольнага ў дасканальнасьці ўладаць акружаючымі яго на першы погляд бяскрыўднымі прадметамі, як нажом, молатам, сякерай, алоўкам і інш. Ён павінен стаць артыстам гэтых прылад і навучыцца іх ужываць у практычнай дзейнасьці. Гэтак сама трэба здолець прышчапіць яму навык да максымальнага практычнага прыстасаваньня сваіх нязначных, атрыманых на школьнай лаўцы ведаў.

Ён, бязумоўна павінен быць максымальна прыстасаваны як да фізычнае, так і да разумовае працы, а таксама цьвёрда ўсвоіць і любіць культурныя навыкі, накіраваныя к дасягненьню гэтага дасканальства: спорт, пачатковыя правілы гігіены, мастацтва і інш , бо да аднаго толькі „ўсхваленьня працы і чалавека, мэтазгодна прыстасаванага да працы,—кажа т. Луначарскі,—наша культура... зьвясьціся ня можа“.

...Ёй „павінна быць уласьціва шырыня сусьветных горызонтаў, агнявы энтузыязм, які запаляецца ад датыканьня з вялікімі ідэямі соцыялізму, зацікаўленасьць нават да самых тонкіх рухаў навуковай думкі і асабліва навуковай тэхнікі“.

І калі мы ўсвоім гэтую культуру і дасягнём тэй дасканальнасьці, якое мы ў цяперашні час пазбаўлены, нам ня будзе страшнаю барацьба са старым аджываючым сьветам.

Тады адбудзецца жыцьцё, якое мы цяпер нявыразна ўяўляем, але да якога імкнёмся.

---

**А. Тамаркін.**

# Клясавыя супярэчнасьці перад Кастрычнікавай рэволюцыяй.

Кожную жыцьцёвую зьяву магчыма споўна ўразумець і ўявіць тады, калі яна дасягнула вышэйшай стопені свайго разьвіцьця. Толькі тады разрозьненыя падрабязковасьці яе робяцца даступнымі пэўнаму аналізу і ўразуменьню. Гэты закон асабліва можа быць прыложан да зьяваў клясавай барацьбы. Сапраўдныя мэты і імкненьні розных клясаў, прымаючых удзел у клясавай барацьбе, іх сілы і магчымасьці поўнасьцьцю выяўляюцца перад шырокімі грамадзянскімі масамі толькі тады, калі гэта барацьба дасягнула вышэйшай стопені сваёй напруджанасьці—рэволюцыі. „Рэволюцыя,—кажа т. Ленін,—ёсьць самая вострая, шалёная, беспардонная клясавая барацьба і грамадзянская вайна“. Рэволюцыя азначае круты пераломом у жыцьці шматлікай народнай грамады. На гэтым пераломе, на гэтым найвышэйшым пункце развірачваньня клясавай барацьбы масы пераконваюцца ў сапраўдных мэтах і задачах кожнае клясы, у яе соцыолёгічнай сутнасьці. Рэволюцыя ў кароткі тэрмін навучае масы таму, чаму-б яны не навучыліся-б на працягу цэлых пэрыодаў ціхага, мірнага жыцьця.— Расійская рэволюцыя, бязумоўна, не зьяўляецца выключэньнем з гэтага правіла. Пасьля зьнішчэньня царызму агульным націскам, не буржуазіі, зразумела, а рабочых, сялян і салдат дзяржаўная ўлада перайшла к тымчасоваму ўраду („Временное правительство“), які складаўся—з прадстаўнікоў буржуазіі, з капіталістых, з каторымі аб‘ядналася й панства. Галоўнай партыяй у часовым урадзе былі кадэты—прадстаўнікі пануючай клясы, клясы капіталістых. Трэба заўважыць, што буржуазія заўжды і ўсёды ў сваёй барацьбе з дваранска-фэодальнымі парадкамі пільна сачыць за рабочымі кварталамі і ў час, калі перад ёй рэальна ўстае пагроза развірачваньня пролетарскага руху, яна ўтварае супроць пролетарыяту адзіны фронт з самымі чарнасоценнымі рэакцыйнымі элемэнтамі. Расійскай буржуазіі такая тактыка была больш свойскай, чымсі якой іншай. Незадарма кажуць, што чым далей на ўсход, тым больш подла буржуазія. Зараз-жа пасьля рэволюцыі да капіталістых і іх партыі—кадэтаў далучыліся ўсе мікалаеўскія монархічныя сілы. Гэта было ярка выражана на выбарах, у друку і г. д. Тым ня менш, капіталістыя атрымалі ўсю ўладу, бо на іх баку былі: сіла, багацьце, організацыі й сьвядомасьці. У працягу часу з 1905 г. гэтая кляса зрабіла асабліва многа ў справе сваёй організацыі. Скора супярэчнасьці, якія ўтварыла рэволюцыя, сталі ўва ўвесь свой рост (ува ўсю сваю велічыню). Атрымаўшы Дзяржаўную ўладу, кадэты парываліся затрымаць паступовы рух рэволюцыі. Першай мэтай новага ўраду быў працяг пачатай царом на аснове таемных дагавораў імпэрыялістычнай вайны, вайны дзеля таго, каб атрымаць Константынопаль, Эрзэрум, Галіцыю і г. д. Усе патрабаваньні грамады аб ажыцьцяўленьні асноўных пачаткаў рэволюцыі сустракалі тольк

абяцанкі й адмоўленьні; здавальненьне іх адкладвалася да ўстаноўчага сойму, час згуканьня якога не вызначаўся. Прыблізна першыя чатыры месяцы пасьля рэволюцыі міжпартыйная барацьба працякала ў Расіі больш-менш свабодна. Дзякуючы гэтай свабодзе, народ пачаў арганізоўвацца самастойна. Формай гэтае арганізацыі былі саветы, якія ўжо ў час Лютаўскай рэволюцыі мелі значнае распаўсюджваньне ў народных масах. Саветы павінны былі ўзяць уладу ў свае рукі. Толькі ў гэтым выпадку рэволюцыя магла даць выпраўданьне чаканьням грамады, магла, замест працягу драпежніцкай вайны, даць магчымасьць загаіць раны, нанесеныя папярэднімі гадамі крывавай бойні; замест улады капіталістых даць працоўным масам запраўдную свабоду. Але рэволюцыйныя прадстаўнікі працоўнае клясы—бальшавікі, стаяўшыя за перадачу ўлады саветам, складалі ў гэтых саветах толькі мізэрную меншасьць.

Падаўляючая большасьць была на баку партыі меншавікоў і эсэраў, якім народ верыў.

Разумеючы Лютаўскую рэволюцыю як буржуазную і рашыўшы, што яе паступовае разварачваньне пагібельна для Расіі. эсэры й меншавікі хацелі затрымаць пролетарыят і сялянства ў межах дасягненьня Лютага і падтрымаць буржуазію, утварыйшы з ёю хаўрус. Гэта згодніцкая політыка праводзілася ў розных формах з самага канца Лютага. Тымчасовы Ўрад („Временное правітельство") капіталістых улучыў у свой склад тав. старшыню Петраградзкага савету Керанскага, выдаваўшага сябе за соцыяліста, прадстаўніка партыі эсэраў. Дзякуючы такому становішчу, капіталістыя пастараліся прывязаць да сябе савет, меншавіцка-эсэраўская большасьць якога пайшла з імі на згоду. Дзеля найлепшай сувязі з ўладай капіталістых савет утварыў асобую „кантактную" камісію, якая й вяла з ёй заўсёдышнія перагаворы. Улада ўсімі сіламі імкнулася працягнуць вайну і затармазіць рэволюцыю, організоўваючы супроць рабочых фабрыкантаў і прамыслоўцаў, якія для больш моцнага ўдару пачалі падрыхтоўваць спыненьне вырабу, чакаючы для гэтага падхадзячага моманту. Масы пачалі разумець, што ўрад і яго саюзьнікі капіталістыя зьяўляюцца ворагамі народу й рэволюцыі, што апошняя будзе канчаткова раздушана, калі толькі ўрад ня будзе адабраны ад кіруючай клясы. Народнае нездаваленьне й злосьць нарастала і ўрэшце прарвалася 20—21 красавіка. Рух загарэўся навальна і быў так рэзка нарыхтован супроць ураду, што адзін узброены полк прышоў, каб арыштаваць урад. Саветы маглі і павінны былі захапіць уладу ў свае рукі бяз усякага сапраціўленьня. Але эсэры і меншавікі падтрымлівалі гінучы ўрад, працягваючы згодніцкую політыку.

Як мы ўжо адзначалі спачатку, рэволюцыя надта скора вучыць усе клясы і падказвае ім іх запраўдныя крокі. Як найбольш дасьведчаная кляса, капіталістыя атрымалі адукацыю хутчэй за другіх. Ужо бачучы сваю пагібель, яны адважыліся на адзін спосаб, праўда ўжо ня новы ў гісторыі, які забясьпечыў ім далейшае панаваньне. Гэты прыём быў—утварэньне так званага коаліцыйнага ўраду з капіталістых і здраднікаў соцыялізму. Меншавікі згадзіліся на гэта й 6-га траўня (мая) супольна з Чарновым, Цэрэтэльлі і ім падобным быў утворан коаліцыйны ўрад. Буржуазія сьвяткавала сваю перамогу, разумеючы, што ў асобах прадстаўнікоў саветаў яны маюць шырму, за якой можна прадоўжваць вайну й прыгнечаньне народу. Там, дзе сама буржуазія не магла дзеяць непасрэдна супроць рэволюцыі, у гэтым ёй дапамагалі прадстаўнікі меншавікоў і эсэраў, напрыклад, у барацьбе з рэволюцыйным Краншталтам, альбо на фронце, дзе агітацыю за працяг вайны вёў Керанскі. Капіталісты пад абаронай меншавікоў і эсэраў яшчэ больш умацаваліся. Але нездавальненьне і злосьць масаў расьлі. Каб прыдаць гэтай нездавольненасьці

організацыйны характар, бальшавікі пачалі 9-го чэрвеня падрыхтоўваць дэмонстрацыю ў Піцеры. Меншавікі і эсэры ўчулі, што іх уплыў на масы памяншаецца. Яны цясьней зблізіліся з кадэтамі, і ў выніку іх згодніцкай палітыкі паварот дробна буржуазных масаў да капіталістых адзначыўся вельмі выразна. Бальшавікі адмянілі дэмонстрацыю, але кадэты, меншавікі й эсэры з мэтай затрымаць за сабой хоць астачу ўплыву на масы, назначылі дэмонстрацыю на 18-га чэрвеня.

Гэты дзень выдатны пабедай бальшавіцкіх лёзунгаў сярод пролетарскіх масаў. У гэты-ж дзень з мэтай накіраваць агульную ўвагу ў другі бок было ўрачыста абвешчана аб наступленьні на фронце.

Злосьць масаў супроць вайны пераходзіла ўсякія межы і ўрэшце, 3-га—4-га ліпеня выбухнула абурэньне. Меншавікі й эсэры, прыкаваныя ланцугом да капіталістых, згадзіліся на ўвод рэакцыйных войск супроць Піцера, аднаўленьне кары сьмерці, зачыненьне газэт, арышты, прасьледваньні і г. д., даходзячы да апошняй стопені здрадніцтва народным масам.

Як жа ўтварылася тая абстаноўка, што народныя грамады спачатку рэволюцыі даверыліся меншавіком і эсэрам. Гэты факт можна растлумачыць вынікам экономічнага становішча дробнай буржуазіі. Пры панаваньні капіталізму становішча дробна-буржуазных працоўных масаў ня цьвёрда. Барацьба дробнага й буйнага вырабу (продукцыі) вядзе к пролетарызацыі дробнай буржуазіі. Але дробна буржуазны гаспадар парываецца „выйсьці ў людзі“, стаць побач з буйным буржуа. Тое самае мы бачым і ў палітычнай галіне. Дробная буржуазія ў асобах сваіх правадыроў імкнецца да буйнай, да хаўрусу з капіталістымі. Іх правадыры часам выпрошваюць для вышэйшых слаёў дробнай буржуазіі мізэрныя ўступкі, у аснове нічога значнага не дасягаючы. У гэтым сэнсе Расійская рэволюцыя дала працоўным вельмі каштоўны ўрок, што дзеля абароны ад вайны, насоўваючагася голаду, прыгнечаньня, ім неабходна канчаткова парваць з эсэрамі і меншавікамі, адмовіцца ад уселякай згоды з буржуазіяй і перайсьці на бок рэволюцыйнага авангарду рабочых—партыі бальшавікоў. Але скінуць буржуазію рабочая кляса сумее толькі пры актыўнай дапамозе сялянства. Толькі пры дапамозе сялян пролетарыяту магчыма выпаўніць іх патрабаваньні, якія былі выстаўлены зараз жа пасьля лютаўскай рэволюцыі 1917 г.

Гэтыя патрабаваньні былі высьветлены ў 242-х наказах, дастаўленых мясцовымі дэпутатамі на 1 Усерасійскі зьезд сялянскіх дэпутатаў у Ленінградзе, у 1917 годзе. Падрабязных апублікованых матар'ялаў наконт гэтых наказаў мы ня маем, але ў эсэраўскім органе „Известия Всероссийского Совета Крестьянских Депутатов“ ад 19 жніўня 17 г. быў надрукаваны артыкул пад загалоўкам: „Примерный наказ, составленный на основе 242-х наказов, доставленных местными депутатами на с'езд“. Аналіз гэтага артыкулу дазваляе зрабіць некаторыя палітычныя вывады аб адносінах паміж сялянамі й рабочымі. Першая частка гэтага „примерного наказа“ была прысьвечана агульна-палітычным патрабаваньням, патрабаваньням палітычнай дэмократыі, другая—патрабаваньням зямлі. У § 16 першай часткі выстаўляюцца патрабаваньні выбарнасьці ўсіх пасадзкіх асоб, у § 11—зьнішчэньне заўсёдышняй арміі па сканчэньні вайны. Да гэтых патрабаваньняў, як мы ведаем, бліжэй усяго падходзіла палітычная програма бальшавікоў. Меншавікі й эсэры вялі супроць іх барацьбу. Патрабаваньні сялян па зямельнаму пытаньню складаліся з адмены прыватнай уласнасьці на зямлю ўсіх відаў уключна да сялянскай, перадачы дзяржаве, або таварыствам кавалкаў з высока культурнай гаспадаркай, конфіскацыі жывых і няжывых манаткаў з памешчыцкіх земляў, забароны наёмнай працы, параўначага падзелу зямлі паміж працоўнымі і пэрыодычнымі перадзеламі ў якасьці мерапрыёмстваў пераходнага часу да згу-

каньня ўстаноўчага сойму (Учр. собр.). Сяляне патрабуюць зараз-жа выдаць законы, забараняючыя куплю-прадажу зямлі, выдзяленьне з тавырыстваў, аховы лясоў і г. д.

Гэтыя патрабаваньні павінны былі пераканаць масы ў поўнай немагчымасьці іх ажыцьцяўленьня пры політыцы эсэраў і меншавікоў. Конфіскацыя ўсіх прыватна-ўласніцкіх земляў азначае конфіскацыю банкавых капіталаў, якія ўложаны ў гэтыя землі. Такое мерапрыёмства можа выканаць толькі пролетарыят, рэволюцыйным шляхам, скінуўшы панаваньне буржуазіі. Перадача дзяржаве высока культурных гаспадарак на карысьць працоўных патрабуе прысутнасьці запраўднае ўлады працоўных. Конфіскацыя манаткаў—крок к соцыялістычнаму землякарыстаньню, зрабіць які немагчыма пры панаваньні капіталу. Забарона наёмнае працы азначае рашучы ўдар па ўсёй капіталістычнай прамысловасьці. Адгэтуль масы павінны былі зразумець неабходнасьць поўнага разрыву са згоднікамі і саюзу з рэволюцыйнай партыяй бальшавікоў, якая, узяўшы ўладу, спыніць вайну, адменіць прыватнае земляўладаньне, установіць рабочы контроль над вырабам, спажываньнем і г. д.

У контр-рэволюцыйным стане ўсе політычныя напрамкі сходзіліся на тым, што бальшавікі, папершае, не адважацца ўзяць дзяржаўную ўладу ў свае рукі і нават, калі адважацца, то пратрымаюцца самы кароткі час. Першая частка гэтага палажэньня, г. з., што бальшавікі не адважацца ўзяць уладу ў свае рукі, для больш-менш разьбіраючыхся ў політычных варунках людзей зусім ня варта ўвагі; паколькі бальшавікі зьяўляюцца партыяй азначанае клясы, а кожная партыя ня можа ня імкнуцца к захапленьню дзяржаўнай ўлады. Трэба, аднак, заўважыць, што ў той самы час пытаньне аб захапленьні ўлады бальшавікамі было ня толькі рэальным, але стаяла на чарзе бліжэйшых дзён. Аб ім загаварылі ўсе органы розных політычных напрамкаў ад кадэцкай „Речи“ і да «Новой жизни“. Кадэцкая „Реч“ ад 16-га верасьня асыпае бальшавікоў струменьнямі лаянкі. Эсэраўскі орган „Дело народа“ ад 21 верасьня таксама. Некаторыя довады выставіла „Новая жизнь“ ад 23-га верасьня. Гэтыя довады вось якія: 1) „Пролетарыят ізаляваны ад іншых клясаў краіны“; 2) Ён „ізаляван ад сапраўдных жывых сіл дэмократыі“; 3) Ён „тэхнічна ня сумее заўладаць дзяржаўным апаратам“; 4) Ён „ня зможа пусьціць у ход гэты апарат“; 5) „Абстаноўка выключна складаная“; 6) Ён „ня здатны будзе ўтрымацца перад тым напорам варожай сілы, якая зьмяце ня толькі дыктатуру пролетарыяту, але разам з ёй і ўсю рэволюцыю“. Вось тыя довады, якія давала „Новая жизнь“, згодна якім, як ёй здаецца, бальшавікі ня возьмуць улады.

Мы тут ня будзем зьняпраўджваць гэты пункт погляду меншавікоў, эсэраў, кадэтаў і другіх груп розных політычных напрамкаў, бо гэта не зьяўляецца нашай непасрэднай задачай, а спынімся толькі крышку на першых двох пунктах каб колькі-небудзь уявіць сабе, у якім становішчы тады сапраўды былі бальшавікі адносна „другіх клясаў краіны і сілаў дэмократыі“, перад Кастрычнікавай рэволюцыяй. Што датычыцца 1-га доваду, што пролетарыят быў ізаляваны ад іншых клясаў краіны, то тут пад словамі „іншыя клясы“ мы павінны разумець—дробную буржуазію галоўным чынам сялянства, бо ў капіталістычнай грамадзе мы знаем і буйную і дробную буржуазію і потым яшчэ пролетарыят. Аб ізаляванасьці пролетарыяту ад буйнай буржуазіі бязумоўна й гаварыць нечага, паскольні ўся справа ў тым, каб яе скінуць. З другога боку цэлы шэраг фактаў, як, напрыклад: галасаваньне за і супроць коаліцыі з буржуазіяй паказвае, што пролетарыят быў далёка не ізаляваны ад сялянства. Што-ж датычыцца другога доваду, то тут пад „жывымі сіламі дэмократыі“ „Новажызьненцы“, відаць, разумелі правае крыло эсэраў і меншавікоў, якое амаль

што нічым не адрозьнівалася ад кадэтаў. Усе астатнія довады характарызуюць сабой перапуджанасьць дробнага буржуа, якімі па сваёй прыродзе зьяўляліся прадстаўнікі гэтых партый.

У заключэньне разгледзім яшчэ аб чым сьведчыла падача галасоў на выбарах у ўстаноўчы сойм (Учред. собр.). У зборніку эсэраў „Год русской революции 1917—1918 г.г.“, зьмешчан артыкул нейкага Сьвяціцкага „Итоги выборов во Всероссийское Учредительное Собрание“. Усяго было падана 36.262.560 галасоў. З іх эсэры ўсіх нацый атрымалі 58 проц., меншавікі—4,6 проц., бальшавікі—24,8 проц., паны і буржуазная партыі—12,6 проц. У працягу ўсяго пэрыоду з лютага да кастрычніка эсэры й меншавікі ішлі ў блёку, утвараючы ў сутнасьці дробна буржуазную дэмократыю. Па аддзельных краінах мы маем такія лічбы, напр.:

| | За эсэраў расійскіх | За бальшавікоў | За кадэтаў |
|---|---|---|---|
| Паўночная . . . | 38% | 40% | 13% |
| Цэнтр. прамысловая . | 38% | 44% | 10% |
| Паволск.-Чорназемная . | 70% | 16% | 4% |
| Заходняя . . . | 43% | 44% | 2% |
| Сібірская . . . | 75% | 10% | 3% |
| Украіна . . . | 25% | 10% | 4% |
| Армія і флёт . . | 43% | 38% | 1% |

З гэтых даных відаць, што бальшавікі зьяўляліся партыяй пролетарыяту, эсэры—сялянства.

Так, у чыста сялянскіх раёнах (Сібір, Паволск-Чорназ.) вялізную большасьць галасоў атрымалі эсэры, у прамысловых цэнтрах—бальшавікі. З губэрняў цэнтральна-прамысловых—Маскоўская дала: за бальшавікоў—56 проц., за эсэраў—25 проц; Цьверская—за бальшавікоў—54 проц., за эсэраў—39 проц; Уладзімірская—56 проц. і 32 проц. галасоў. Усё гэта супярэчыць таму погляду, што бальшавікі мелі за сабой меншасьць народу. Чаму-ж бальшавікі перамаглі? Прычына ў тым, што яны мелі за сабой вялізную большасьць пролетарыяту і ў ёй самы сьвядомы рэволюцыйны авангард. Возьмем сталіцы—Петраград і Маскву: эсэры там атрымалі 218 тысяч, бальшавікі—837 тысяч, кадэты — 515 тысяч галасоў. Сталіцы, альбо наогул найбольшыя гандлёва-прамысловыя цэнтры пры дапамозе з боку мясцовых вясковых сіл у значнай меры рашаюць політычны лёс народу. Горад у цяперашніх гісторычных умовах ня можа быць прымеркаваны да вёскі. Апошняя заўсёды йдзе за горадам. Пытаньне толькі ў тым, якая кляса гораду можа кіраваць вёскай і якія формы прыме гэты кірунак. І вось мы бачым, што ў сталіцах бальшавікі атрымалі ў чатыры разы больш галасоў, чым эсэры. Неабходна таксама спыніцца на арміі. У той самы час, як соцыял-шовіністыя і ім падобныя прадстаўнікі здрадніцкага II інтэрнацыяналу стараліся замацаваць падлегласьць арміі імпэрыялістычным драпежнікам, рэволюцыйны авангард пролетарыяту з жніўня 1914 г. стараўся падрыхтаваць, рэволюцыянізаваць армію з мэтай скарыстаньня яе дзеля замены рабаўніцкай вайны ў грамадзянскую вайну, працоўных супроць эксплёататараў. У гэты час здраднікі соцыялізму крычалі аб тым, што бальшавікі разбураюць армію. Прасачым за некаторымі вынікамі галасаваньня ў арміі.

| | За эсэраў | За бальшавікоў | За кадэтаў |
|---|---|---|---|
| Паўночн. фронт . . | 240 тыс. | 480 тыс. | — |
| Заходні . . . | 180,6 тыс. | 653,4 „ | 16,7 т. |
| Паўдн.-Заходн. . . | 402,9 „ | 300,1 „ | 13,7 „ |
| Румынск. . . . | 679,4 „ | 167 „ | 91,4 „ |
| Каўкаскі . . . | 360 „ | 60 „ | — |
| Балтыцкі флёт. . . | — | 120 „ | — |
| Чорнаморскі флёт . . | 22,2 „ | 10,8 „ | — |

Усяго за бальшавікоў галасавала 1.791,3 тыс., за эсэраў 1.885,1 тыс. Армія к Кастрычніку была напалавіну бальшавіцкай. На франтох бліжэйшых к сталіцам вельмі значная перавага была на баку бальшавікоў і, значыць, армія зьяўлялася ўжо сілай, якую ў рашучы момант ужо можна было скарыстаць. Такім чынам, на аснове аналізу выбараў мы маем тры ўмовы для пабеды бальшавікоў, якія мелі за сабой: 1) абсолютную большасьць пролетарыяту; 2) амаль што палавіну арміі і 3) перавагу сіл у галоўных мясцох у рашаючы момант, а іменна, у сталіцах і на франтох армій, блізкіх к сталіцам. Але адны гэтыя ўмовы маглі даць толькі вельмі нятрывалую перамогу, каб бальшавікі ня сумелі перацягнуць на свой бок большасьць непролетарскіх працоўных мас. Дробна-буржуазныя дэмократы не разумеюць таго, што „Дзяржаўная ўлада ў руках аднае клясы можа й павінна стаць прыладай прынаджваньня к пролетарыяту непролетарскіх працоўных мас, прыладай адваяваньня гэтых мас у буржуазных і дробна-буржуазных партый“. (Ленін). Дзяржаўная ўлада—прылада трымаючай яе клясы і служачая яе клясавым інтарэсам. Пролетарыят карыстаецца дзяржаўнаю ўладаю для: 1) прыдушэньня супраціўленьняў буржуазіі; 2) прыцягваньне к сабе непролетарскіх працоўных элемэнтаў, організацыя буйнага машыннага вырабу з адабраных у буржуазіі спосабаў продукцыі і, ўрэшце, дзеля організацыі соцыялізму. Опортуністы кажуць, што пролетарыят павінен наперад заваяваць большасьць народу, а тады браць у рукі дзяржаўны ўрад, а пролетарыят кажа: раней трэба заваяваць дзяржаўны ўрад, а потым зрабіць яго снасьцю перацягваньня на свой бок усіх працоўных мас,—па першае, утварэньнем новага дзяржаўнага апарату, прыладжанага да дыктатуры пролетарыяту; гэты апарат, навальна вырасшы з клясавай барацьбы—савецкая ўлада. Падругое, здавальненьнем іх найбольш неабходных матар'яльных патрэбаў за рахунак буржуазіі. Але, разумеецца, усё гэта магчыма толькі пры значнай вышыні капіталістычнага разьвіцьця. Але зьдзяйсьненьня савецкага строю і здавальненьня экономічных патрэбаў большасьці працоўных не хапае дзеля поўнай і канчатковай перамогі пролетарыяту. Толькі дробна-буржуазныя згоднікі могуць думаць, што ўсе працоўныя могуць адразу рашыць, за якой клясай ім ісьці. Буржуазія заўсёды карыстаецца, і не магла не карыстацца, вялізным апаратам духоўнага атупленьня, запуджваньня і ашуканства народных мас. Вынікі дзейнасьці гэтага апарату не маглі не сказацца. І вырашэньне дробна-буржуазнымі працоўнымі масамі пытаньня аб тым, за якой клясай ім ісьці, за пролетарыятам, ці за буржуазіяй ня можа быць вытвараным зразу. Няўхільны многія віханьні, патрэбны практычны досьлед, які-б дазволіў ім зрабіць памеркаваньне паміж кіраўніцтвам буржуазіі і пролетарыяту. Такія пытаньні лепш усяго вырашае грамадзянская вайна, якае дае ўсім працоўным непролетарскім масам досьлед і магчымасьць параўнаньня між уладай буржуазіі і ўладай пролетарыяту. Выбары ў устаноўчы сойм і пэрыод грамадзянскай вайны даюць вельмі яркае

падцьверджаньне гэтага. Найменш бальшавіцкімі аказаліся раёны з дробна-буржуазным, сялянскім характарам. (Пав.-Чорназ., Сібір, Украіна). У тых раёнах, дзе бальшавікі мелі ў час выбараў найменшы посьпех, нашоў сабе грунт контр-рэволюцыйны рух. Тут трымаліся Калчак і Дзянікін. Калі-ж бальшавікі далі сялянам зямлю, дробна-буржуазная жыхарства гэтых мясцовасьцяў, дзе ўплыў пролетарыяту быў самы меншы, стала пераходзіць на бок бальшавікоў. Калі бальшавікі ў найбольш пладародных месцах абвясьцілі, што намерваюцца ўзяць лішку, дробна-буржуазныя масы сталі на бок Калчака й Дзянікіна. Паспытаўшы сутнасьць дыктатуры гэтых апошніх, яны адхіліліся ад іх назад. Такім чынам працякае цяжкая барацьба і досьлед. Згоднікі не разумеюць, што й заваяваўшы дзяржаўную ўладу, пролетар'ят ня спыняе сваёй клясавай барацьбы, а прадоўжвае яе ў іншай форме другімі мэтодамі. „Дыктатура пролетарыяту ёсьць клясавая барацьба пролетарыяту з дапамогай такой прылады, як дзяржаўны ўрад" (*Ленін*). Масы цэлым шэрагам практычных узораў і спробаў павінны вырашаць пытаньне аб тым, у бок якое клясы ім патрэбна пайсьці. Але за ўсімі гэтымі доўгімі спробамі, за гэтым шэрагам практычных і балючых узораў, пролетарская рэволюцыя знайшла сваю перамогу.

---

# НАВУКОВЫ АДДЗЕЛ.

Проф. М. Б. Кроль.

## Біолёгічныя асновы характару.

Пад характарам мы падразумяваем злучнасьць усіх рэакцый, якія магчымы з боку данае асобы на *раздражненьне* надворнай срады. У значнай меры, рэакцыі прызначаны прыраджонымі будоўнымі асаблівасьцямі, у частковасьці нэрвовай сыстэмы. Аднак яны, апрача таго, знаходзяцца ў значнай залежнасьці ад умоў срады, дзе прыходзіцца жыць і дзейнічаць. Пры гэтым умовы срады пакідаюць сваю адзнаку як на характары так і на будове організму, на конституцыі. Вельмі інтымная сувязь паміж рэакцыямі організму, другімі словамі—яго характарам і яго біолёгічнымі асаблівасьцямі так кідаюцца ў вочы, што ўжо здаўна робяцца спробы пранікнуць у сутнасьць гэтых залежнасьцяй. Пытаньне гэта мае, між іншым, вялізарную практычную каштоўнасьць. Яго разьвязваньне дае паказаньні лекару й жывёлаводу, політыку й пэдагогу, соцыяльнаму гігіеністу й організатару. Юлі Цэзар Шэкспіра кажа: „Абкружэце мяне тоўстымі, лысымі людзьмі, не пакутуючых бяссоніцаю. У Касія падазроны погляд, ён вельмі многа думае. Гэткія людзі небясьпечны". Атэло кажа Дэздэмоне: „рука твая цёплая—гэта азначае ўрадлівасьць, шчодрасьць". Але пытаньне аб сувязі паміж целаскладам і характарам прадстаўляецца прынадным для кожнага чалавека. Пранікаваньне ў поцемкі чужое душы прадстаўляе зусім выключны інтарэс. Вывучэньне сувязі паміж надворным образам і душэўнымі якасьцямі, калі і не ў магчымасьці аканчальна зьніштожыць містычны вялён, абкружаючы комплекс, які называюць душой, то, быць можа, у значнай меры яе разрэдзіць. У канцы 18 і пачатку 19 стагодзьдзя Гал збудаваў цэлую навуку—фрэнолёгію, пры дапамозе якой можна было-б па пабудове чэрапу разважаць аб здольнасьцях чалавека. Па Галу—разьвіцьцё якой небудзь здольнасьці чалавека вядзе к павялічэньню азначнае часткі мозгу, а гэта ў сваю чаргу выклікае павялічэньне належнай часткі чэрапу. Гэты прымытыўны, зусім не адпавядаючы запраўднасьці, пункт погляду, ня гледзячы на сваю памылковасьць, паслужыў, як гэта часта бывае, повадам для вынаходкі першага мазгавога ўмяшчэньня—асяродка мовы. Зьвязаць знадворную будову з характарам стараліся ў далейшым многалікавыя досьледы, з якіх упамяну толькі аб Ламбразо, для якога злачынец быў зусім азначаны фізычны тып. Аб фізіогноміцы Лафатэра мы скажам яшчэ ў далейшым.

У аснове поглядаў ранейшых аўтораў, і ў значнай меры і сучасных досьледаў адносна сувязі паміж конституцыяй ляжала прадстаўленьне аб тым, што конституцыя й характар зьяўляюцца чымсь-то прызначаным, не адхіляным для данае асобы, знаход ячайся ўсе жыцьцё пад уладай гэтага

запраўды нязрушнага лёсу. Досьледы многіх аўтораў, асабліва Kretschmer'a, Hoffmann'a, Ewald'a і інш. запраўды ўстанавілі азначаныя ўзаемаадносіны паміж целаскладам і характарам. Па Kretschmer'y пікнічны целасклад: нязграбнае цела з адлажэньнем тлустасьці, аб'емістыя дуціны цела, нізкая грудзінная клетка, кароткая шыя адпавядае азначанаму характару—супольны, дабрадушны, ласкавы, уютны. Наадварот, астэнічнаму целаскладу адпавядае замкнуты, нясупольны, сухі характар з дзіўнасьцямі. Крэчмэраўскі падзел не зьяўляецца агульна прызнаным. Існуе думка, што яго вывады датычаць пераважна азначанага антраполёгічнага тыпу, характэрнага для азначанай паласы Нямеччыны. Тым ня менш, у значнай меры фізычны тып Крэчмера адпавядае азначанаму псыхічнаму тыпу, азначанаму характару. Але тут узьнікае пытаньне, як сабе ўявіць гэту залежнасьць. Ці залежаць рэакцыі організму ад яго целаскладу, ці наадварот—яго целасклад зьяўляецца вынікам яго рэакцый на раздражненьне вакольнай срады, альбо, урэшце, ці не стаяць як характар, так і целасклад у азначанай залежнасьці ад трэцяга фактару, зьмены якога аднолькава зьмяняюць як характар, так і целасклад.

Нам вядомы дзьве рэгуляторныя сыстэмы організму, якія стаяць у бліжэйшай узаемнай залежнасьці адна ад другое, і ад правідловае працы якіх залежаць нормальныя функцыі організму. Да гэтых функцый, між іншым, адносяцца й рэакцыі організму, а таксама й рост яго ў цэлым і аддзельных яго частак, іншымі словамі—целасклад. Гэтымі сыстэмамі зьяўляюцца нэрвовая сыстэма й сыстэма залоз унутранай сэкрэцыі. Апошнія выдзяляюць асаблівыя хімічныя продукты, якія ідуць у кроў у самых найменшых колькасьцях. Частка гэтых хімічных матэрыяў, якія носяць назву гормоны, атрымана штучна, як напр.: адрэналін, гормон, які вылучаецца надпочачнікамі. Нам вядомы шматліковыя прыклады нарушэньня працы гэтых залоз, напр.: шчытавіднай залозы, прыдатку мозгу, радавых залоз, надпочачнікавай, вілачкаабразнай залозы і іншых, з якіх, напэўна, ня ўсе яшчэ нам вядомы. Пры гэтым, апроч розных іншых патолёгічных праяваў, часам атрымліваецца адыход ад нормальнага росту і ад нормальных будоўных асаблівасьцяй організму. Так, нам вядома, што пры опухах мазгавога прыдатку ў некаторых выпадках атрымліваецца волатавы рост усяго цела, альбо павялічэньне аддзельных яго частак. У другіх выпадках разьвіваецца наадварот карлікавы рост больш ці менш суразьмерны, а часам і зусім не суразьмерны, з нормальнаю даўжынёю тулава і не адпаведна кароткімі рукамі й нагамі. Такі-ж уплыў на касьцяк твару і чэрапу мае хвароба шчытавіднай залозы. З другога боку нам вельмі добра вядома, што захварэньне тэй ці іншай з пералічаных залоз вядзе да рэзкіх зьменаў псыхікі асобы, яе характару, яе рэакцый на знадворную сраду. Так, пры азначаных захварэньнях шчытавіднае залозы разьвіваецца цяжкі крэтынізм з ідыётыяй, поўная апатычнасьць і малярухомасьць. Некаторыя душэўныя станы, напр. страх альбо ўзбурэньне, радасьць ці гора адбываюцца з азначанымі фізычнымі сымптомамі, у аснове якіх таксама ляжыць растройства функцый залоз унутранай сэкрэцыі. Каму невядома, што ад страху вочы вялікія, г. зн. пашыраюцца зрэнкі, вочныя яблыкі выходзяць з орбіт, дубеюць канцовасьці, язык прыліпае к паднябеньню, у роце сохне, зьяўляецца мыт, спыняецца сэрца, іншымі словамі—наступае сымптомакомплекс, які бяз рэшты ўкладаецца ў азначаныя, добра нам вядомыя, сымптомы, выкліканыя зьменамі залоз унутранай сэкрэцыі. Аднак тыя-ж сымптомы атрымліваюцца пры штучным, напр. электрычным, раздражненьні азначаных нэрвовых прылад. Можна дапусьціць, што ў значнай меры гормоны вытвараюць сваё дзеяньне праз нэрвовую сыстэму. Але, акрамя таго, праца залоз унутранай сэкрэцыі знаходзіцца пад непасрэдным уплывам нэрвовой сыстэмы. Але само дзеяньне нэрвовай сыстэмы на

органы вынікае, як відаць, такім чынам, што пад уплывам нэрвовага імпульсу зьмяняецца хімізм тканін і органаў. Якім чынам зьмена хімізму мае уплыў на функцыі органаў, ва ўсіх падрабязках нам невядома; аднак існуе многа паказаньняў на карысьць таго, што хімізм робіць уплыў на большую ці меншую ўзбуджальнасьць аддзельных органаў. Узбуджальнасьць тканін мяняецца пры ўводзе ў організм ня толькі азначанае хімічнае матэр'і, выкрабляемае залозамі ўнутранай сэкрэцыі, але таксама пры ўводзе азначаных солей, галоўным чынам кальцыевых і каліевых. Быць можа ўсе функцыі зходзяць к зьменам узаемаадносін кальцыевых і каліевых іёнаў. Паколькі пераплятаюцца дзеі нэрвовай сыстэмы і хімічныя процэсы ў організме, паказваюць апошнія працы Грацкага фармаколёга Löwi. Пры раздражненьні блукальнага нэрву, ідучага к сэрцу, палучаецца замаруджаньне пульсу, пры раздражненьні сымпатычнага нэрва сэрца палучаецца, як вядома, ускарэньне пульсу. Löwi паказаў, што калі раздражненьнем блукальнага нэрву выклікаць замаруджаньне пульсу, то кроў, абежнічаючая ў сэрцы даннае жывёлы, будучы ўведзенай у сэрца другое жывёлы таксама вядзе к замаруджаньню пульсу другое жывёлы. Гэта спроба з відавочнасьцю паказвае, што ў аснове дзеяньня нэрвовай сыстэмы ляжаць азначаныя хімічныя зьмены. Факты, выяўленыя ў адносінах да сэрца, у такой-жа меры датычацца і да іншых органаў і іх дзейнасьці. Іншымі словамі, усе рэакцыі організму, злучнасьць якіх састаўляе характар, залежаць ад працы нэрвовай сыстэмы і ад тых хімічных працэсаў, якія рэгулююцца дзейнасьцю залоз унутранай сэкрэцыі і нэрвовай сыстэмы. Цікавейшай ілюстрацыяй зьяўляюцца нядаўнія працы братоў Іaensch у Марбургу. Гэтыя працы асабліва тым цікавы, што яны адносяцца к псыхічнай сфэры і даюць магчымасьць зьвязаць азначаныя псыхічныя тыпы з біохімічнымі асаблівасьцямі. Існуюць азначаныя асобы, якія ўладаюць здольнасьцю надзвычайна жвава ўяўляць тое, што яны перажылі ў працягу дня. Пры гэтым часам успрыняты прадмет ізноў узьнікае са ўсёй цялеснасьцю й жвавасьцю. Гэткія людзі ў магчымасьці часам самавольна зноў выклікаць перажытыя глядзельныя ці слухавыя образы, мала чым адрозьніваючыяся па жвавасьці ад рачавістых праобразаў. У другіх выпадах образ узьнікае толькі ў образе цені. W. Іaensch паказаў, што ў аснове гэтых асаблівасьцяў ляжыць азначаны стан хімізму тканіны. У некаторых выпадках прамова йдзе аб дэфэктах каля, так званых, наўколшчытавідных залоз, у другіх выпадках аб захварэньні шчытавіднае залозы. У аснове гэтае душэўнае асаблівасьці ляжаць асабліва зьмены кальцыевага абмену. Уводам гэтых солей удаецца відазьмяняць гэтыя зьявішчы. Асабліва часты яны ў дзяцей, асабліва ў рахітычных, дзе кальцыевы абмен таксама пакутуе. Магчыма, што начныя страхі ў дзяцей, часта незьясняльныя крыкі іх выклікаюцца тым, што ўсплываюць тыя ці іншыя образы з пераажытага ў працягу дня. Жвавасьць успрыманьня, памяці й рэпродукцыі зьяўляецца самым важным элемэнтам у нашых рэакцыях на раздражненьні знадворнай срады.

Гэтых фактаў даволі, штоб уявіць сабе з поўным азначэньнем, што у аснове нашых рэакцый, г. зн. у аснове нашага характару ляжаць упоўне азначаныя будоўныя й хімічныя асаблівасьці нашага організму. К гэтаму можна яшчэ дадаць два словы адносна тэмпу рэакцый, які адпавядае, па Ewald'у, таму, што мы разумеем пад тэмпэрамэнтам. Апошні, відавочна, залежыць ад абмену матэрыяў кожнай каморкі, ад хуткасьці асіміляцыйных і дысіміляцыйных процэсаў. І тут у астатнім ліку размова йдзе аб хімічных зьявішчах, зноў такі рэгулюемых апаратамі, аб якіх размова была вышэй.

Такім чынам, нам прыходзіцца спыніцца на тым, што як будова організму, так і яго рэакцыі залежаць у значнай меры ад нашых рэгуля-

торных апаратаў, ад нэрвовай сыстэмы й ад залоз унутранай сэкрэцыі. Аднак, пры бліжэйшым разборы ня цяжка бачыць, што гэты вывад разьвязвае пытаньне толькі напалову. Запраўды, будова цела, целасклад і характар залежаць ад нэрвовай сыстэмы, ад залоз унутранай сэкрэцыі, іншымі словамі—яны прыводзяцца ў залежнасьць ад будовы нэрвовай сыстэмы альбо залоз унутранай сэкрэцыі. Але гэта не разьвязваньне пытаньня, а толькі перанясеньне яго ў другую роўніцу. Мы павінны яго цяпер формуляваць так: Якія біолёгічныя асновы будовы нэрвовай сыстэмы і залоз унутранай сэкрэцыі? Ці можна растлумачыць асабістыя розьніцы ў будове нэрвовай сыстэмы ў розных асоб? Тут мы сьпіхаемся з пытаньнямі, цесна зьвязанымі з асноўнай проблемай констытуцыі, з пытаньнямі насьледнай перадачы адзнакаў. Да апошняга часу ў літаратуры панаваў, як ужо гаварылася раней, погляд, па якому констытуцыя зьяўляецца выключна функцыяй насьледных умоў. Па гэтаму погляду зьмены, якім падлягае організм у працягу жыцьця, ня могуць перадавацца патомству. Уплывы, якім падлягалі індывідуумы нават у працягу стагодзьдзяў, ня робяць уплыву на констытуцыю патомства. Як прыклады, прыводзяць абрэзаньне ў жыдоў і ў магомэтан. Сюды-ж адносяць і абрэзаньне хвастоў у жывёлы і г. д. Аднак з другога боку маецца бязьлікавая колькасьць фактаў, пасьведчаючых аб тым, што ўмовы срады вытвараюць вельмі істотныя зьмены як у целаскладе, констытуцыі, будове організму, так і ў яго характары, у яго рэакцыях на надворнае раздражненьне. Сюды адносяць уплывы гэографічныя й кліматычныя. Патомкі, якія выбраліся ў Амэрыку, ужо ў першым пакаленьні набываюць рысы, адрозьніваючыя іх ад бацькоў. Уплыў клімату і гэографічных умоў на констытуцыю і на характар так відавочны, што нельга не згадзіцца з тымі гісторыкамі, якія яму вылучаюць значнае месца. Для нас асабліва цікавы выдатныя досьледы голяндзкага анатома Bolk'а, які ўстанавіў, што больш дарослае насельніцтва Голяндыі жыве на ўрадлівай глебе альлювія, а на дзілювіяльнай глебе жыве больш нізкарослае насельніцтва. У 1821-1858 г. г. сярэдні рост рэкрутаў у Паўночнай Голяндыі ўсё падаў, і разам з тым зьніжалася й духоўная энэргія насельніцтва. У 50 гадох дзяржава была блізкай к банкруцтву. З 1865 году крызіс, як відаць, мінаваў: ажыла дзяржава й сярэдні рост за 50 гадоў павялічыўся на 13 см. Паміма кліматычных умоў констытуцыя, характар і тэмпэрамант залежаць і ад характару заняткаў, а можа і ад бытавых умоў. Жыхары гарадоў звычайна вышэй жыхароў вёскі. Дзеці рабочых, па нямецкім статыстыкам, у сярэднім ніжэй дзяцей асоб, не займаючыхся фізычнаю працаю. Значэньне тут, як відаць, мае большая рухомасьць, якая вядзе к зьмяншэньню росту. Спробы д-ра Хазанава паказалі, як праца на шкляных заводах некалькіх пакаленьняў зрабіла ўплыў на рост у сэнсе яго зьмяншэньня. Што праца аказвае аграмадны ўплыў на рост, на констытуцыю, даказваецца тым, што ў працуючае жывёлы павялічваецца ня толькі мышачная сыстэма, але й вага пячонкі, почак, лёгкіх. Урэшце, характар кармленьня, напр., зьмяшчэньне ў ядзе асаблівае матэрыі вітамінаў, так сама вельмі значна робіць уплыў на целасклад. Такім чынам констытуцыя не павінна быць разглядаема, як нешта нярухомае, жорсткае. Таксама й характар бяссумненна падлягае відазьменам пад уплывам знадворнай срады, клімату, профэсіі, кармленьня, соцыяльных умоў. Мы ведаем аб уплыве вясны на павялічэньне колькасьці самагубэтваў, сэксуальных злачынстваў, душэўных захварэньняў. Пад зваротнікам адпаведнае павялічэньне падае таксама на вясну, па часу не супадаючай з нашай. Відавочна, што зьмена констытуцыі, будовы вядзе к зьменам і характару. Але няма сумненьня, што й душэўныя перажываньні, рэакцыі організму ў свой чарод робяць уплыў і на будову, і на констытуцыю. Вядома вялічэзная колькасьць спыненьня месячных у

жанчын ад страху і ўзбурэньня, выкліканых вайною. У часе вайны пры адкрыцьці знаходзілі пагалоўна рэзкае зьмяшчэньне надпочачнікаў. Аднолькавыя пераживаньні, аднолькавыя рэакцыі вядуць к таму, што вырабляюцца агульныя тыпы, характарныя аблічча, па якім часта можна ўстанавіць прыналежнасьць к тэй ці іншай профэсіі. Так, зусім азначана аблічча ксяндза, актора, спортсмэна і інш. Так, доўга жывучыя сумесна супругі становяцца падобны адзін на другога і па віду, і па свайму почарку, і па свайму руху. Навука фізыогноміка, якую ў свой час стварыў чыста эмпірычна Lawater і якую ў сучасны момант некаторыя стараюцца аднавіць, аснована на тым, што душэўныя перажываньні чалавека ў значнай меры адбываюцца з выразным рухам. Найбольш істотнае з гэтых рухаў адносіцца к мове й выразам твару, г. зн. ігра мышцаў, разьмяркованых наўкол органаў мовы, і зьяўляецца эмоцыянальнай часткай мовы. Ня дзіўна, што мімічныя рухі пакідаюць азначаны сьлед на твары ў відзе азначаных характарных складак, зморшчак, і нават у відзе зьменаў касьцяных абрысаў тваравага й чэрапнога касьцяка. У сувязі з гэтым цікава адмеціць, што рыскі на далонях, па якім таксама, як і па рысках твару, пытаюцца пазнаць характар , лёс чалавека, рэзка адлічаюцца ад складак на твары тым, што яны вельмі мала зьмяняюцца ў залежнасьці ад знадворнай срады і ўмоваў жыцьця. Як паказалі зусім нядаўныя досьледы Poll'a, з усіх насьледных і прыраджоных адзнакаў найбольш тыпычнымі і сталымі, г. зн., якія ня зьмяняюцца ў працягу жыцьця, зьяўляюцца малюнкі рысак пальцавых канцоў, так званыя дакцілёграмы. Пры гэтым выявілася бяссумненная корреляцыя паміж тыпам малюнка і прадразьмяркаваньнем к тэй ці іншай душэўнай хваробе. Выявілася таксама бяссумненная сувязь паміж дакцілёграмай і расай. Па крайняй меры тып малюнка ў жыдоў зусім азначаны. Дакцілёграма зьяўляецца, такім чынам, найбольш чыстым прадстаўніком насьледна перадаваемых адзнакаў, мала, альбо зусім не мяняючыхся ў працягу жыцьця. Наадварот, аблічча, хаця й носіць рыскі, насьледныя ад дзядоў (Габзбурская губа), тым ня менш у значна большай меры атрымоўвае асаблівы адбітак у сувязі с профэсыяй, кліматам, перажываньнямі і г. д. Разбор прычын гэтых розьніцаў прыводзіць нас к асноўнаму пытаньню аб біолёгічных фактарах, якія робяць уплыў на характар.

Досьледы апошніх гадоў, асабліва ў адносінах фізыолёгіі мазгоў, параўнаўчай анатоміі мазгоў, а таксама экспэрымэнтальныя лябараторныя спробы над штучна ахоўваемымі, па-за організмам жывучымі й растучымі культурамі нэрвовай тканіны, выявілі вельмі цікавыя й важныя факты. Швэцкі нэўрапатолёг Swen Jngvar у лябараторыі англійскага фізыолёга Harrison'a паказаў, што зьяўленьне найменшага току (да біліённай часткі ампэру) робіць уплыў упоўне азначаным чынам на напрамак і характар росту адросткаў зародкавай нэрвовай тканіны. Гэтае зьявішча вядома пад назвай гальванатаксіса. Яго праца над растучай зародкавай тканінай падцьвердзіла вывады голяндзкага анатома Kappers'a, што ўзбуджэньне, зьявіўшаеся ў азначаным месцы цэнтральнай нэрвовай сыстэмы і характарызуючаеся бяссумненна зьяўленьнем электрычных токаў, прываблівае к цэнтру ўзбуджэньня нэрвовыя каморкі, якія знаходзяцца таксама ў стане ўзбуджэньня. Такім чынам устанаўляюцца новыя сувязі між дзьвюма каморкамі ў тым выпадку, калі функцыя іх супадае па часу, альбо калі дзеяньне аднэй з іх наступае больш ці менш хутка за дзеяньнем другой. Адсюль ясна, што калі знадворная срада выклікае тыя ці іншыя рэакцыі організму, пры даволі частых паўтарэньнях падобных рэакцый могуць усталяцца новыя сувязі паміж азначанымі каморачнымі групамі, паміж азначанымі краінамі мозгу. Такім чынам узьнікаюць новыя і відазьмяняюцца старыя рухавічныя аўтоматызмы, устанаўляюцца „пры-

вычныя“, характарныя для кожнага рэактыўныя комплексы. Гэтыя факты растлумачваюць досыць праканаўча, якім чынам функцыя, альбо рэакцыя на знадворную сраду, можа вясьці к будоўным зьменам. Тэорыя Kappers'a аб нэйробіотаксісе, г. зн. аб прываблen ьні к цэнтру ўзбуджэньня камо-рак, якія знаходзяцца таксама ў стане ўзбуджэньня, пабудована на вывучэньні параўнаўчай анатоміі рознае жывёлы і падцьвярджаецца вывучэньнем мазгоў чалавечых зародкаў, якія знаходзяцца ў розных стадыях разьвіцьця. У тых выпадках, калі некалькі раздражненьняў супадае па часу не з бязумоўнай сталасьцю, а толькі больш ці меньш „выпадкова“, можа вырабіцца часовая сувязь паміж адпаведнымі элемэнтамі нэрвовай сыстэмы. Так, напр.: від азначанае мясцовасьці можа супадаць з адчуваньнем млоснага паху і ванітаваньня. У далейшым, даведваньне гэтай мясцовасьці можа выклікаць ванітаваньне нават пры адсутнасьці ўсялякага паху. Гэткія „выпадковыя“ рэдкія супадзеньні не вядуць к усталяваньню моцных сувязей і к зьяўленьню сталых рэакцый. Яны адносяцца к краіне ўмоўных рэкфлексаў Паўлава. Яны іграюць значную ролю ў асабістым жыцьці кожнага, і нярэдка даюць повад к зьяўленьню тых ці іншых патолёгічных, большай часткай істэрычных сымптомаў. Ясна, што толькі ў тых выпадках могуць зьявіцца моцныя новыя сувязі, калі размова йдзе аб раздражненьнях і рэакцыях, маючых важнае жыцьцёвае значэньне для організму. Але ясна таксама, што толькі тыя ўплывы знадворнай срады могуць выклікаць за сабою зьмены ў будове нэрвовай сыстэмы, якія выклікаюць адказныя рэакцыі організму. Толькі ў гэтым выпадку зьяўляецца ў нэрвавой сыстэме некалькі асяродкаў узбуджэньня, уступаючых адзін за другім, па закону нэйробіотаксіса, ва ўзаемную сувязь. Тады ўтвараюцца новыя, рэфлекторныя рэакцыйныя мэханізмы, якія часткова дзейнічаюць аўтоматычна.

Пасьля гэтага зразумела, чаму вакольная срада пакідае значны сьлед на рысках твару чалавека, на яго фізыономіі, і амаль зусім ня робіць уплыву на малюнак пальцавых рысак, на дакцілёграму. Запраўды, большая частка рэакцый організму на раздражненьні знадворнай срады адбываецца выразным альбо мімічным рухам, які пры частым паўтарэньні вядзе к будоўным зьменам, к устанаўленьню некаторых новых сувязей і рэакцыйных аўтоматызмаў. Малюнак скуры канцоў пальцаў запэўна не зьмяняецца, бо на раздражненьні вакольнай срады гэты орган ніяк не рэагуе. Цяпер таксама ясна, чаму дзея абрэзаньня, хаця й паўтараецца ў працягу многіх стагодзьдзяў, не пакідае ніякіх сьлядоў у будове організму. Ніякіх новых сувязей не ўтвараецца, ніякіх рэакцыяў організму на гэтае ўменшваньне ня бывае. Далей таксама некалькі выяўляецца мэханізм уплыву кліматычных, географічных, профэсыянальных, соцыяльных і інш фактораў. Яны ў працягу ўсяго жыцьця выклікаюць больш ці менш аднастайныя рэакцыі з боку розных частак організму, з боку яго нэрвова-мышачнай сыстэмы, судзіна-рухавой і залозістай сыстэм, у частковасьці—залоз унутранай сэкрэцыі. Кожная рэакцыя організму на знадворнае раздражненьне не адмяжоўваецца адным рухам, але саправаджаецца цэлым шэрагам вельмі тонкіх зьмен з боку самых розных органаў, ведаючых кроведастаўкаю, хімізмам, абменам матэры і адпаведных рухавых органаў, а таксама іншых частак організму, якія нават толькі ўкосна, а не беспасрэдна прымаюць удзел у данай рэакцыі. Асабліва трэба тут заўважыць значэньне тых фактораў знадворнай срады, якія не вядуць беспасрэдна к рухавым рэакцыям, але тым ня менш учыняюць вельмі глыбокі ўплыў на організм. Мы ўжо гаварылі аб тых уплывах, якія маюць на функцыі залоз унутранай сэкрэцыі душэўныя перажываньні: узбурэньне, прыкрасьць, радасьць і г. д. Часам гэтыя зьмены бываюць у выглядзе рэзка кідаючыхся ў вочы сымптомаў, у аграмаднай-жа большасьці выпад-

каў яны бываюць чуць прыкметны і значэньне іх праяўляецца толькі пасьля сумаваньня бязьлікавых колькасьцяй розных, няпрыкметных аддзельных узбуджэньняў. Гэтым тлумачацца зьмены характараў, якія мы наглядаем у асоб у сувязі з узростам, з пераменай абстаноўкі, кармленьнем і г. д. К гэтаму патрэбна дадаць уплыў цэлага шэрагу таксама чуць прыкметных і мала вывучаных яшчэ фактораў у відзе паступленьня ў організм розных хімічных матэрый тых ці іншых найменшых колькасьцяй солей, уплыў складу паветры, напр., яго электрычнасьць, альбо сьвет, як ультрафіолетавыя праменьні, уплыў хімічных продуктаў, якія ўтвараюцца ў самым організьме і ў розных выпадках выдзяляюцца ў рознай вазе. Уплыў залоз унутранай сэкрэцыі таксама абмяжоўваюцца пераважна ўплывам на хімізм. Напомню тут яшчэ раз аб эндэмічным крэтынізьме, аб розніцы ў характары паўднёвага і паўночнага жыхарства, марака і вяскоўца, мэталіста і гандляра і г. д, і г. д.

Мы прыходзім к таму вываду, што таму ці іншаму характару, тым ці іншым рэакцыям на знадворнае раздражненьне, таму ці іншаму тэмпэрамэнту, г. з тэмпу гэтых рэакцый, адпавядаюць упоўне азначаныя будоўныя і хімічныя асаблівасьці організму, у частковасьці яго нэрвовай сыстэмы і залоз унутраной сэкрэцыі. Гэтыя будоўныя і хімічныя асаблівасьці ў значнай меры залежаць ад фактораў, ляжачых па-за ўмовамі асабістага жыцьця. Яны маюць карэньні ў фактарах, рабіўшых уплыў на бесканцовы шэраг дзядоў дадае асобы. Гэта—насьледныя элэмэнты сярод біолёгічных фактораў характару. Аднак мы бачым, што апошні не зьяўляецца чымсь то нярухомым і жорсткім, але наадварот пад уплывам абкружаючай срады ў значнай меры нахільным да заменаў. У аснове гэтых зьменаў ляжаць біолёгічныя процэсы ў організьме, якія ў значнай меры тлумачацца законам нэйробіотаксіса, усталяваным Kappers'ом. З тых будоўных зьменаў, якія ўзьнікаюць у асабістым жыцьці чалавека, бязумоўна азначаная частка ў сваю чаргу можа перадавацца й па насьледзтву. На карысьць гэтага гавораць шматлікавыя прыклады, з якіх толькі нязначную частку падалі мы вышэй. З гэтымі стаяць у некаторай працівалегласьці лябораторныя спробы, бо дасюль у лябораторыях не ўдавалася выклікаць у організьме такія зьмены, якія передаваліся-б і па насьледзтву. Праўда, у апошнія часы спробамі з уплывам на організм рэнтгэнаўскіх праменьняў удавалася выклікаць некаторыя зьмены і ў патомстцьве гэтых спробных жывёл. У самы апошні час Паўлаву ўдалося паказаць, што пры вядомай пастанове спробы магчыма і ў лябораторыі выклікаць перадачу набытых здольнасьцяў патомству. Так, у мышэй удалося дабіцца азначаных умоўных рэфлексаў на кармленьне пасьля азначанага ліку паўтарэньняў вядомых сукладаньняў. Калі ў першым пакаленьні ўмоўныя рэфлексы выраблялісія ўжо пасьля вялікага ліку паўтарэньняў, то ў наступных пакаленьняў яны выраблялісія ўжо пасьля значна меншага ліку паўтарэньняў. І гэты факт зьяўляецца для нас пасьля ўсяго вышэйсказанага зусім зразумелым. Калі ў аснове зьмены характараў ляжыць утварэньне больш ці менш новых сталых сувязей у організьме, то толькі тыя знадворныя фактары могуць пры гэтым іграць ролю, якія маюць азначанае біолёгічнае значэньне для організму. Лябораторныя ўмовы толькі ў рэдкіх выпадках здавальняюць гэым умовам. І як раз у пастанове Паўлаўскіх спробаў пераважным фактарам, робячым уплыў на зьмены рэакцый, зьяўляецца такі важны біолёгічны агэнт, як яда. Мы павінны прызнаць такім чынам, што організм сумесна з абкружаючай срадой састаўляе адну адзіную непадзельную сыстэму, дзе аддзельныя элемэнты знаходзяцца ў сталым узаемадзеяньні стала робячы ўплыў адзін на другога, і відазьмяняючы і відазьмяняючыся упоўне азначаным законамерным чынам. Будова кожнага ў дакладнасьці адпавядае ўсёй гэтай складанай абстанове, і характар кожнага ў дакладнасьці адпавядае будове.

М. П. Макараў.

# Аб новым поглядзе на тэхніку працы ў сельскай гаспадарцы.

У сваёй гаспадарчай дзейнасьці чалавек ужывае цэлы шэраг тэхнічных прылад, пры дапамозе якіх ён эксплёатуе сілы прыроды і дабывае неабходныя для сябе прадметы. Паміж чалавекам і прыродай існуе як-бы праслойка, састаячая з відазьмененай штучнай прыроды і працы чалавека, прайшоўшага і сучаснага. Праслойка гэта мае назву тэхнікі. У залежнасьці ад культурнага становішча чалавека яна бывае большай ці меншай таўшчыні. Чым культурней чалавек, тым складней яго тэхніка, тым большым відазьменам падлягае натуральная прырода. Уся тэхніка першабытнага чалавека знаходзілася ў тым камені альбо суку дзерава, якім ён забіваў уцякаючую ад яго яду, альбо адзежу, калупаў зямлю, дабываў карэньні. Тэхніка сучаснага чалавека вялізарна, і яна з усіх бакоў абкружвае яго, робячы, з аднаго боку, усё больш і больш магутным, а з другога—няможным. Заўладаўшы парам і электрычнасьцю, чалавек пры дапамозе ўсялякіх вынаходак пабяждае прасторы, рушыць горы, будуе нязломныя гарады і г. д., але яго ўласны організм як бы аддаляецца ад прыроды і фізычна слабее. Ён набывае прывычкі і густы, уласьцівыя ўмовам абкружаючай яго штучнай абстаноўкі, збудаванай тэхнікай. Нутро сучаснага чалавека не ў магчымасьці пераварыць сырое мяса, звычайную яду першабытнага чалавека—дзікара; цела патрабуе большага цяпла знутры, большага догляду і г. д. Для нас не састаўляе ніякае ўцехі ўскочыць на неаседланага каня і ляцець, як мага. Гэта імкненьне хуткай язды мы здавальняем спакойнай паездкай на мэталічных прыладах, прыводзімых у рух мускуламі ног, альбо сілай нафты, бэнзіну, пару альбо электрычнасьці. Такія параўнаньні могуць быць бясконца. Усюды тэхнічная праслойка паміж чалавекам і прыродай, усюды снасьці і штучныя прылады, абысьціся без якіх чалавек ужо ня можа. Не бескарысна лішні раз напомніць выраз Франкліна, азначыўшага чалавека, як жывёлу, робячую снасьці, прылады. Вялікі амэрыканец змог падгледзяць гэту характарную асаблівасьць. Яго азначэньне з пункту погляду марксызму больш істотна, чым данае Арыстоцелем (чалавек—грамадзянская жывёла), альбо Кантам (чалавек—разумная жывёла). Азначэньне Франкліна датычыцца тае матар'яльнае асновы, на якой трымаецца ўсякі грамадзкі лад і разьвіваецца інтэлект.

Як указвалася вышэй, разьмер і складнасьць тэхнічнай праслойкі не аднолькавы пры розным культурным становішчы чалавечай грамады. Але апроч гэтага, тэхніка розна і ў розных частках гаспадарчай дзейнасьці чалавека ў межах аднае і тае-ж грамады. Тэхнічнасьць розных відаў народнае гаспадаркі розна. У апрацоўчай прамысловасьці мы заўважаем адно разьвіцьцё тэхнікі, самае моцнае; у здабываючай—другое, у сельскай гаспадарцы—трэцяе. На кожным відзе гаспадарчай дзейнасьці адбіліся яго асаблівасьці і ў тым ліку яго блізасьць, альбо аддаленасьць ад прыроды. Адмячаючы апошнюю адзнаку, можна з дастарчаючай праўдападобнасьцю сказаць, што чым бліжэй гаспадарчая дзейнасьць к прыродзе, тым прасьцей тэхніка. Выражаючыся матэматычна, гэта можна формуля-

ваць так: тоўстасьць тэхнічнай праслойкі прама пропорцыянальна адлегласьці ад натуральнай прыроды. Само сабою зразумела, што тут маецца на ўвазе няфізычная блізасьць, а тая колькасьць і складнасьць прылад і іншых сродкаў працы, якія ўжываюцца ў вытворчасьці. З трох відаў прамысловасьці найменш разьвітым у тэхнічным напрамку лічыцца сельская гаспадарка, пры гэтым пад тэхнікай звычайна разумеюць толькі мэханічныя сродкі працы. З гэтага пункту погляду сельская гаспадарка запраўды ўладае менш разьвітай тэхнікай, чым астатняя прамысловасьць. Але затое ў сельскай гаспадарцы мы сустракаемся з асаблівымі машынамі, немэханічнымі—няжывімі, а біолёгічнымі жывымі—з культурнымі расьлінамі і жывёламі. Гэтыя жывыя апараты зьяўляюцца ў поўным сэнсе сродкамі працы, прыладамі вытворчасьці. Яны відазьменены чалавекам, а затым прадстаўляюць вынік прайшоўшае працы і служаць для далейшае вытворчасьці. Культурная расьліна, даючая зярня, гародніну, плады і г. д., зьяўляецца складаным апаратам, у сярэдзіне якога адбываецца процэс вытворчасьці органічнай масы з розных складаных частак літо—гідро—і атмосфэр. Жывёла, выра6ляючая малако, шэрсьць, сала, мяса і інш. з матэрыяў, запраўдную сутнасьць якіх поўнасьцю яшчэ не зразумеў чалавек, ня менш складная машына сельска-гаспадарчай вытворчасьці. Тыя й другія даюць нам магчымасьць атрымліваць самыя неабходныя продукты і матар'ялы, без якіх бяссэнсава жыцьцё. Чалавек патрабляе расьліны і жывёлы для таго, штоб скарыстаць сілы прыроды і з гэтаю мэтаю прыкладае сваю працу. З гэтай-жа мэтай чалавек карыстаецца і мэханічнымі сродкамі працы. З паказанага пункту погляду няма прынцыповых розьніц між абедзьвюма формамі тэхнікі, але на гэтай схэматычнай тоесамасьці так розных па сваёй прыродзе сродкаў вытворчасьці і варта спыніцца ў іх параўнаньні. Глыбіня конструкцыйных розьніц мэханічных і жывых машын, неаднолькавая роля чалавека ў збудаваньні іх і інш. асаблівасьці завельмі вялікі, штоб прадоўжваць анолёгію далей.

Такім чынам, усе сродкі сельска-гаспадарчае вытворчасьці можна падзяліць: 1) на мэханічныя, няжывыя і 2) біолёгічныя, жывыя апараты. Калі мы прасьледзім увесь процэс сельска-гаспадарчае вытворчасьці, то заўважым, што мэханічныя прылады й біолёгічныя апараты знаходзяцца ў зусім розным становішчы. Розным ня толькі па форме, але й па сутнасьці, прынцыпова. Мэханічныя прылады вытворчасьці—усяцэла пад уладай чалавека. Ён збудаваў іх спачатку да канца й карыстаецца па меры патрэбнасьці. У любы момант ён можа пусьціць іх у працу, і ў любы момант спыніць па свайму жаданьню. Па-за воляю чалавека мэханічныя прылады не вытвараюць і ня могуць рабіць ніякае працы. Біолёгічныя апараты, расьліны й жывёлы, наадварот, вытвараюць асноўную працу— утварэньня і перайначваньня органічных матэрый самастойна. Чалавек ня можа падуладзіць гэты процэс сваёй волі. Раз пачаты, ён будзе прадоўжвацца да свайго натуральнага канца. Чалавек мае адзіны спосаб спыніць органічны процэс—гэта зруйнаваць самую машыну. Пазбавіць яе магчымасьці працаваць, перавярнуўшы ў няжывое цела. Ён так і робіць, калі гэта патрэбна, але пры гэтым пазбаўляецца самае машыны. Пры жывых машынах чалавек мае ролю не распарадчыка, а як бы абслугоўваючага пэрсоналу. Для яго, сьмелага пабудоўцы вялізарных тэхнічных цудаў, тут прыходзіцца зьмяняць сваю тактыку і асьцярожна падыходзіць к пакуль яшчэ загадкавым машынам. Праца іх вядома, запатрабаваньні больш ці менш вывучаны, але сакрэт утварэньня іх застаецца сакрэтам, і для распаўсюджваньня расьлін і жывёл чалавек прымушан карыстацца тым мэтодам, які дала яму першапачатковая прырода. Удзел жывых машын у сельскай гаспадарцы і састаўляе яго галоўную асаблівасьць. У канцы канцоў ўся сельска-гаспадарчая вытворчасьць павінна быць прадстаўлена,

як організацыя працы, асноўнай задачай якое зьяўляецца атрыманьне органічных матэрый пры дапамозе біолёгічных машын. Значыцца, каля іх, як асноўнага асяродку, і разам з імі разьвіваецца ўвесь процэс вытворчасьці. Разглядаючы гэты процэс з пункту погляду ўдзелу і ўплыву чалавека, мы можам падзяліць яго на чатыры розныя катэгорыі працы: 1) утварэньне абстаноўкі і ўмоваў для працы жывых апаратаў; 2) самая праца іх; 3) збор і атрыманьне вынікаў працы і 4) першапачатковая апрацоўка атрыманых продуктаў.

К першай катэгорыі адносіцца ўся падрыхтоўчая праца к росту і пачатку дзейнасьці расьлін і жывёл. Сюды адносяцца: апрацоўка палёў, утвареньне будынін для жывёлы, загатоўка і дача яды расьлінам (угнаеньне) і жывёлам, ачыстка паравых паляў і жывёльных двароў і г.д. Уся гэта праца робіцца да пачатку дзеі жывых машын—насеньне не пачало прарастаць, а жывёла яшчэ ня есьць, альбо яна адсутнічае. Тут процэс працы ня зьвязан прысутнічаньнем жывых машын і чалавек зусім свабодны ў выбары мэханічнай тэхнікі. Увесь процэс спачатку й да канца пад яго ўладай.

Зусім іншае мы наглядваем у другой катэгорыі працы, калі ўжо пасеяна насеньне й яда аддана. Пачаўся процэс вытворчасьці органічных матэрый расьлінамі й жывёламі. Чалавек ня прымае ўдзелу ў самым процэсе, а толькі палягчае яго шляхам уходу за працуючымі жывымі машынамі. Ён вытварае разрэжваньне расьлін, поле іх, акутвае, матыкуе, палівае й г. д.; у адносінах жывёлы—стараецца аб іх выгадзе, спакоі й інш. Уся гэта праца зьяўляецца знадворнаю ў адносінах да самага процэсу ўтварэньня органічных матэрый, які вынікае ў неразгаданых патаемнях жывых організмаў. Чалавек зразумеў толькі мэханізм гэтае працы, але не зразумеў усяго процэсу настолькі, каб утварыць самы апарат, альбо замяніць яго другім. Па гэтаму, абмяжоўваючыся ўходам за расьлінамі і жывёламі, ён павінен прыстасоўвацца к іх патрабаваньням, надзвычайна асьцярожна зьмяняючы апошнія ў пажаданым для сябе сэнсе. Задачы чалавека ў гэтай катэгорыі знаходзяцца ў тым, каб палягчыць, ускорыць процэс, не нарушаючы цэльнасьці жывых машын і іх організму.

Трэцяя катэгорыя працы—збор і атрыманьне вынікаў органічнага процэсу. Сюды варта аднесьці прыборку дасягнуўшых неабходнай сьпеласьці расьлін і іх пладоў, даеньне кароў, падстрыганьне авец, забіваньне жывёл і інш. Тут чалавек зьбірае ўтворанае расьлінамі й жывёламі, але гэты збор, з пункту погляду тэхнікі, зусім розны і бывае двоякага роду: 1) Зьбіраюцца продукты дзейнасьці органічных машын разам з самым целам машыны, як, напрыклад: пасьпеўшыя хлябы, выкармленая жывёла й г. д. і 2) зьбіраюцца толькі продукты, як напр.: плады шматгадовых дрэваў, некаторая гароднiна, малако, шэрсьць і інш. Першы збор характарызуе сьмерць, заніштажэньне органічнае машыны, якая сама робіцца продуктам. Цела машыны ў працягу аднаго процэсу вытворчасьці пераходзіць у продукт. Збор другога роду па сутнасьці нічым не адрозьніваецца ад атрыманьня продуктаў працы ад звычайных мэханічных машын, якія служаць вытворчасьці ў працягу некалькіх процэсаў, паступова зьмяншаючыся ў каштоўнасьці. Пры гэтым зборы жывая машына застаецца для далейшай працы й ня спыняе сваё дзейнасьці. Карова прадоўжвае выраблець малако й пасьля даеньня, авечка нарошчвае шэрсьць і пасьля падстрыганьня, пладовыя дрэвы растуць пасьля зьніманьня пладоў і г. д. Такім чынам, пры выпаўненьні працы другога роду (трэцяй катэгорыі) чалавек зьвязан неабходнасьцю берагчы самыя машыны і ашчэдна карыстацца імі і іх выпрацоўкай, бо органічны процэс, які ён эксплёатуе, ня спыняецца. Адпаведна гэтаму, тут таксама, як і пры працы другой катэгорыі (па ўходу), чалавек зьвязан у выбары прыёмаў мэханічнай

тэхнікі. Пры зборы першага роду ён адчувае сябе свабадней у гэтым напрамку, што і адбіваецца на пабудове працы й яе мэханізацыі.

Чацьвертая катэгорыя працы—першапачатковая апрацоўка продуктаў, куды можна аднесьці малацьбу, пераапрацоўку малака, мыцьцё шэрсьці, мачэньне ільну і трэпаньне яго і інш.—мае яшчэ больш мэханічны характар і па сутнасьці сваёй можа вытварацца па-за сельска-гаспадарчай вытворчасьцю. Яна найбольш пухка зьвязана з астатнім сельска-гаспадарчым процэсам. Некаторыя віды гэтае катэгорыі вырасьлі ўжо ў самастойныя складаныя ўстановы. Сюды можна аднесьці розныя вырабы па тэхнічнай пераапрацоўцы сельска-гаспадарчых продуктаў, як напрыклад: картапляна-крухмальнае, браварніцкае, бурачна-цукровае, маслабойнае, масладзельнае, па пераапрацоўцы садовіны, гародніны й інш. Адны з гэтых вырабаў адарваліся ўжо ад сельска-гаспадарчага процэсу, другія на шляху да гэтага, трэція не зьвязваюцца з сельскай гаспадаркай тэрыторыяльна, грамоздкасьцю сыравіны й адкідваньняў. Наогул у чацьвертай катэгорыі працы, таксама, як і ў першай—падрыхтоўчай, чалавек не зьвязан нiякімі, паміма яго робячыміся, процэсамі. Ён мае справу з мёртвай прыродай, а затым зусім свабодны ў адносінах тэхнікі працы. Тут няма неабходнасьці клапаціцца аб біолёгічнай цэльнасьці жывых машын, як гэта мы бачылі ў другіх катэгорыях сельска-гаспадарчае працы.

Такім чынам, разглядзеўшы ўдзел і ўплыў чалавека ў сельска-гаспадарчым процэсе, мы бачым, што ён розны пры рознай працы і ў розныя моманты вырабу. Пры аднэй працы чалавек больш самастойны, пры другой ён зьвязан органічным процэсам, заўладаць якім яму не ўдалося. Гэта акалічнасьць робіць магутны ўплыў на організацыю працы й разьвіцьцё машыннай тэхнікі ў сельскай гаспадарцы. Як розны ўдзел чалавека ў сельска-гаспадарчым вырабе, так разнастайна і тэхніка яго працы. У адных катэгорыях працы яна больш ці менш закончана, у другіх праз меру простая. Пры гэтым, як паказана вышэй, заўважваецца гэткая залежнасьць: чым свабадней чалавек у сваіх дзеях, г. зн., чым далей ён ад органічнага процэсу, тым складаней мэханічная тэхніка й наадварот, чым сьціснёней яго становішча,—тым яна первястковей.

Калі мы паглядзім, з гэтага пункту погляду, ня толькі на аддзельныя катэгорыі працы ў межах аднае гаспадаркі, але й на цэлыя гаспадаркі, то ўбачым, што машынная тэхніка складаней у такіх формах, дзе самы большы процант агульнай працы падае на падрыхтоўчыя й заключныя дзеі. Пры спаўненьні іх мэханічная тэхніка, ня рызыкуючы папсаваць жывыя машыны, можа ўжывацца без абмежаваньня. К гэткім формам гаспадаркі трэба аднесьці, у першую чаргу, зернявыя гаспадаркі, у якіх праца па ўходу за расьлінамі зьведзена да мінімуму. Тыповых прадстаўнікоў гэтых форм гаспадаркі мы сустракаем у Паўночнай Амэрыцы, на поўдні нашага Саюзу і г. д., дзе яны носяць назву зернявых фабрык. Назва фабрык к гэтакім гаспадаркам ужываема ня толькі па запраўдна вялізарнай колькасьці выпускаемых зярнят, але й па развіцьцю машыннай тэхнікі, з адпаведнай організацыяй працы, напамінаючай фабрычную. У працы зернявой фабрыкі больш, чым у іншых формах сельскае гаспадаркі, сустракаюцца моманты масавае працы аднэй катэгорыі, утвараючыя так званую музыку працы, так звычайную для вялікай індустрыяльнай фабрыкі. Калі вы ўваходзіце ў памяшканьне фабрыкі, вас зьдзіўляе бязладзьдзе гукаў, у якіх кепска што-небудзь разабраць. Сьвіст, шыпеньне, лёскат, сьвідраваньне, шорах перадач, плыннае качаньне пасоў і інш.,—усё ўтварае гукі, зьліваючыяся ў аднастайны па першаму ўражаньню шум. Потым уважліва прыслухаўшыся да гэтага хаосу, вы пачынаеце разьбіраць аддзельныя гукі, групы гукаў, тоны й г. д. Хаос пачынае перайначвацца ў асаблівую музыку працы, захопліваючую сваім рытмам. Псыхолёгічная дзея гэ-

тае музыкі надзвычайна вялікая і на яе долю выпадае значная частка посьпеху колектыўнае працы. У процэсе працы яна прымушае адчуваць сябе часткаю вялікага, цэлага, агульнага. Нараджае і разьвівае імкненьне працаваць у такт агульнай музыкі і тым самым утварае гармонію між унутраным становішчам працуючага й знадворнымі ўмовамі працы. Вось гэткая гармонія, гэткая музыка працы, лёгка адчуваемая на звычайнай фабрыцы, цяжка пранікае ў сьвядомасьць працуючага ў сельска-гаспадарчым вырабе. Штоб адчуваць яе, трэба сумець абняць у думках увесь выраб у цэлым. Тады толькі будуць зразумелымі ўсе ўзаемаадносіны працы, учыняемае хоць і адначасова, але раскіданае па розных месцах сельска-гаспадарчае тэрыторыі. Шляхам-жа звычайных зрокавых ці слухавых адчуваньняў тут можна адчуць музыку працы толькі ў некаторыя моманты вырабу. Вось гэтых-то момантаў у пшанічнай фабрыцы больш, чым у іншых формах сельскае гаспадаркі, напрыклад, у жывёлаводных гаспадарках. Пшанічная фабрыка раскідваецца па аграмаднай тэрыторыі. І вось уявеце сабе маштаб і малюнак сэзонавае палявое працы, калі цэлыя абозы розных машын і прылад накіроўваюцца к месту працы, становяцца ў шэраг і пачынаюць працу. У пэрыод узорваньня сотня плугоў, пад уладаю сілы мертвых ці жывых рухавікоў, магутна ўрэзваецца ў пашчыльнеўшую глебу, пакідаючы ззаду сябе прыгожую йстужку шырокіх пластоў. Павольна, але плынна пасоўваюцца машыны, утвараючы музыку працы й прадоўжваючы ўдасканаленым спосабам тую справу, якую пачаў першабытны чалавек голымі рукамі. Тут тэхніка машынная перамагла тэхніку голых рук. Тое самае мы бачым пры сяўбе й прыборцы хлябоў у гэтых зернявых фабрыках. Асабліва-ж адчуваецца рытм музыкі працы пры малацьбе, альбо „гармане“, як завуць гэты пэрыод у нас на поўдні. У адчыненым стэпу, альбо на адлёту сялібы, пад палючымі праменьнямі ліпнёўскага сонца, утварае праца сымфонію гэтай работы. Складаную дроб выбівае малатарня, утвараючы мерны тон і падуладаючы сабе рух усіх працуючых каля яе людзей, машын і коняй. Ненасытны барабан глытае грамадныя кучы хлябоў, няспынна выкідаючы ў адзін бок салому, у другі зярняты. Поруч растуць неабхватныя стагі саломы—праца падуладнага агульнаму руху элеватору. Па другі бок на цэпкіх тормазох рвецца магутны паравік, пакачваючыся з натугі. З лёгкім сьвістам пакачваецца наканіфолены пас махавіка. Як пасоўваючыяся горы, павольна й плынна падходзяць аграмадныя фуры (мажары), хутка разгружаюцца й жывою чарадою ідуць назад у палеткі. Чыстая, сухая пшаніца, звонячы як мэталь, напаўняе мяшкі, і поўныя вазы адзін за другім цягнуцца к сялібе. У паветры разьліта сьпека, і плаваюць дробныя часткі саломы, мякіны. Усё ў правільным руху, утвараючым рытм, музыку, захапляючую струменем агульнага ўдзелу, агульнае працы.

Іншы малюнак мы наглядваем у такіх гаспадарках, дзе большы процант састаўляе праца па ўходу за расьлінамі й жывёламі, г. зн. працы другога тыпу. Яны характарызуюцца первястковай тэхнікай, пераходзячай у тэхніку голых рук. Тут неабходны асабісты падход к жывым апаратам. Сюды можна аднесьці, як ужо паказвалася вышэй, жывёлаводчыя гаспадаркі, гародныя й г. д. У такіх гаспадарках, пры меншым разьвіцьці машыннае тэхнікі, іншыя формы носіць і праца. Музыка, утвараемая ёю таксама іншага тону. Яна больш асабіста і патрабуе высокай сьвядомасьці для зразуменьня агульнасьці працы, тады як першую можна назваць мэханічнай колектыўнай музыкай. У гаспадарках з малым разьвіцьцём мэханічнай тэхнікі рэдзей сустракаюцца моманты агульнае працы каля аднае работы; тут машына ня зьвязвае працу людзей каля сябе. Задача навуковай тэхнікі—узмацніць тэхнічнасьць гэтае працы наколькі магчыма бяз страт для самога вырабу.

М. Сандамірскі.

# Навуковы выбар профэсіі [1]).

Для занятку кожнай профэсіяй неабходна ўладаць некаторымі ведамі і звычкамі—з аднаго боку і спэцыфічнымі здольнасьцямі для гэтай профэсіі— з другога боку.

Статыстычныя даныя паказваюць, што людзі ў большай частцы зьмяняюць сваю профэсію некалькі разоў раней, чым застановяцца на тэй працы, якая, галоўным чынам, здавальняе самога працаўніка.

Апрача асабістага нездавальненьня, у зьмене профэсіі значную ролю грае той момант, калі працаўнік ня выпраўдвае сябе на гэтай працы.

Выходзячы з гэтага моманту, амэрыканскія капіталістыя ў першы раз, яшчэ да імпэрыялістычнай вайны, прыбеглі к дапамозе навукі для больш беспамылковага адбору кваліфікацыйных рабочых.

У першы раз гэтым пытаньнем заняўся псыхолёг Монстэрбэрг. Яго праца хутка знайшла сабе прыстасаваньне.

Шмат буйных прадпрыёмстваў прымалі рабочых ня інакш, як пасьля агляду іх з погляду прыгоднасьці для працы на прадпрыёмстве.

Пасьля вайны псыхотэхнічная праца пачалася і ў Эўропе, асабліва ў Нямеччыне. Цяпер у гэтых краёх абсталёваны лябараторыі, дзе псыхолёгі, пры дапамозе розных удасканаленых прылад, азначаюць прыгоднасьць кандыдатаў на прэтэндуемую імі працу.

Мы гэтак сама павінны быць зацікаўлены тым, каб кожны працаўнік, г. з. аддзельная клетачка організму СССР была-б пастаўлена на сваё месца.

Гэткім чынам і мы павінны стаць на шлях псыхотэхнікі.

Аднак мы павінны вытвараць не адбор, але падбор профэсіяў для іх. Больш усяго гэта датычыць нашай падрастаючай моладзі.

Пры нашай беднасьці нам ня прыходзіцца марыць аб добра абсталёваных лябараторыях з удасканаленымі прыладамі, якія маюцца ў Амэрыцы і іншых краёх. Але й нескладовая дасьледчая праца ў вобразу псыхопрофэсыйных консультацый можа прынясьці бязумоўна вялізную карысьць.

Пры дапамозе гэтых консультацыйных бюро ўдасца нам укомплектаваць профтэхшколы, тэхнікумы і, галоўным чынам, ВНУ.

Я падкрэсьліваю ВНУ затым, што правіловы падбор профэсій, патрабуючых вышэйшую адукацыю, заслугоўвае асаблівай увагі.

Вывучэньне ў вышэйшай школе працягваецца доўга і мае вялікія траты з боку дзяржавы, а загэтым пажадана загадзя ведаць ці не дарэмна трацяцца намі сродкі ў тэй ці іншай галіне будаўніцтва.

Гэтым і тлумачыцца аграмадны прыліў студэнцтва ў лябараторыі, працуючыя па профэсыянальнаму падбору.

---

1) Рэдакцыя просіць т. т. студэнтаў выказацца па пытаньням псыхотэхнікі і ў частковасьці па пастаноўцы гэтага пытаньня аўторам стацьці.

Па статыстыцы маскоўскіх лябораторыяў амаль што $^2/_3$ усіх даведвальнікаў—рабфакаўцы і студэнты ВНУ. Прывяду яшчэ маленькі тутэйшы прыклад. 1-га сакавіка для студэнтаў-мэдыкаў быў прачытан даклад на тэму: „Выбар спэцыяльнасьці і індывідуальныя здольнасьці доктара і студэнта“. Гэта тэма прывабіла асабліва шмат слухачоў. Не папаўшыя на даклад здавальняліся распытаньнямі аб тэме.

Пасьля дакладу адчыніліся спрэчкі, у якіх прымала ўдзел многа студэнтаў, і нарэшце было прапанована факкому, каб у хуткім часе паставіць цэлы шэраг дакладаў па гэтаму пытаньню.

Усё гэта сьведчыць аб тым, што пытаньне аб псыхопрофэсыянальных консультацыях ужо досыць высьпела. Гэткае консультацыйнае бюро павінна было ўтварыцца ў першую чаргу пры БДУ.

На першым пачатку функцыі гэткага бюро павінны зысьці к радам для самаахвотна зьвяртаючыхся студэнтаў.

У гэтым бюро павінны быць прадстаўлены як профэсары-псыхолёгі, так і прадстаўнікі ад НОП. Праца ў гэтым напрамку, умацаваўшыся знойдзе практычнае прыстасаваньне ў нашых умовах будаўніцтва.

---

# ЛІТАРАТУРА.

Рыгор Сапун.

## Бяз Леніна.

Год цэлы
змаганьня,
Год цэлы
вучобы...
Вучобы ідэй
тваіх,
Слаўны
Ільліч!
Ідэй
гартаваных,
Гранітных,
сталёвых,
Якія
маланкай
Нясуцца
к працоўным,
І водгукам
поўны,
Іх кліч!
Кліч
Зьбірацца,
Аб'яднацца,
Змагацца...
Зьбірацца
У кучу
мільёны
Мільёнаў
людзей.
А ў гэту
хвіліну
Із моцных
працоўных
Грудзей
нясецца
Маланкай
іх кліч—
І л ь л і ч.
Каб шчыра
і моцна
За працу
узяцца,
І гэтакім
чынам
З няпраўдай
і крыўдай
Растацца.
І здолеўшы
Думку
тваю
Дарагую
яе занясом,
Занясом
мы у сьвет.
У мяккую
глебу,—
Каб кветкі
Свабоды
Квятнелі,
гарэлі
Ад краю,
да краю!...
Харошым,
Прыгожым
Прыбралі.
Ляжыш ты
спакойна,
Ад працы
спачыў...
Нам думку
пакінуў,
Што сам
ты насіў.
Яна
пашырае
Твой
Ленінскі рух.
Агонь
разьдзімае,
Каб ён
не затух.
Ён болей
і болей

Абшар
 захапляе...
Будынак
 старэнькі
Магутна
 палае.
А іскры
 па сьвеце
Зусім
 на расьсьвеце
Ляцяць,
 трашчаць,
І нішчаць
 старое,
Гнілое.

Я. С.

## Песьняром Беларусі.

Песьняры! Вы ліраю сваёю
Абудзілі ў працоўных пачуцьцё
Змагацца з крыўдаю, змагацца з цемнатою,
Каб будаваць мужыцкае жыцьцё.
 У творах вашых, бы ў люстэрцы,
 Мы бачым як жылі,—ажно ўспомніць страх...
 Дык грайце-ж, каб весялей на сэрцы!
 Бо люд працоўны йдзе, ідзе на новы шлях!
Цяпер-жа, песьняры, сьпявайце марш вясёлы,
Каб ваш прызыўны кліч быў чуцен век вякоў
Тым, хто пакутваў, жывы ляжаў у трунах,
І тым, хто вырваўся з гэтых ланцугоў.
 Няхай-жа знае наша пакаленьне
 Як мы змагаліся, змагаліся да пары!
 Але ўжо вышлі мы, як сонейка з зацьменьня
 У чырвоны сьвет пяці-раговае зары!

Ал. Дарашэвіч.

## К а с е ц.

Прысьвячаю М. Чароту.

Вольны, шчасьліваю думкай заняты
На лузе шырокім—не знае нуды,
Песьні пяе на прывольлі заўзята,
Рэжучы трауку касец малады.
 Гукі тых песень нясуцца далёка,
 Вольныя гукі ў нявольны той край,
 Сэрцы там раняць людзкія глыбока...
 Эх, брат касец, дык мацней-жа сьпявай!
Плёхайся, плёхайся ў сонечным сьмеху.
Шчасьце ты бачыш сваё не ўва сьне;
Сіл набірайся сабе на пацеху,
Гімны складай, брат, шчасьлівай вясьне.
 Вольнае жыцьце, радасьць бясконца,
 Хто-ж тут заплача, хто возьме дзе сьлёз?
 Глянь навакол,—усьміхаецца сонца,
 Вецер шалёны ўсе хмары разьнёс.

А. Руднянскі.

# Дняпро.

Стужкай зьмяістаю, стужкай блакітнаю
Прыбраны рамай зялёна-ракітнаю
Ты у сваіх берагох.
Бурнымі то разьбяжышся струменьнямі,
Скачаш і круціш вякі над каменьнямі,
То папаўзеш у пяскох.
То, як ў люстэрак бліскучы, крышталявы
Неба глядзіцца у твар твой амалявы,
Сонца купае прамень.
То навалой-непагодай напруджаны
Хвалі ўздымаеш ты пеннымі грудзямі,
Кідаеш сумную цень...
Ў час надвячорку, як сонца хаваецца,
Ў час, калі захад агнём распаляецца
Зорка нясьмела мігне.
Ноч над табой сваё крыльле туманамі,
Быццам з паветры і дыму сатканымі,
Ўдоўж без канца расьцягне.
І, як праз сон, тады ночкаю летняю
Плешчаш ты, кажаш прамову сталетнюю,
Сьведка былога жывы.
Кажаш аб тым, як нормана праворнага
Нёс аж да самага мора да Чорнага
Вал твой магутны, сівы.
Кажаш, як нашы далёкія родзічы,
Ў нетрах лясістых, балоцістых ходзячы,
На твой шырокі прастор
Першыя з роду людзей любаваліся,
І на тваіх берагох заснаваліся,
Пабудаваўшы шацёр.
Помніш ты й Кіева славу мінуўшую,
Ў хвалях часоў без сьляда патануўшую,
Нашых далёкіх дзядоў.
Як за народам народы мяняліся,
Як яны ў бойцы сьмяротнай спрачаліся—
Тысячы помніш гадоў.
Ўсё ты цячэш і цячэш ня спыняючы,
Новыя воды у мора ганяючы
Цэлы свой век малады.
Колькі з тых часаў кален пазьмянілася,
Колькі ў тваіх берагох пракацілася
Чыстай крыштальнай вады!

Янка Сапун.

# Рабфак.

Рабфак—гэта новая сіла—
На зьмену старому ідзе,
Капае буржуям магілу
І к новаму люд свой вядзе.
Рабфак—гэта сьветач народу—
З сівых і зрэбных сярмяг,
Які, атрымаўшы свабоду,
Моцна трымае свой сьцяг.
Рабфак—гэта кузьніца сьпецаў,
Дзе вучаць жыцьцё будаваць,
Каб з сьветлай навукаю дзеці
Пачатае йшлі выпаўняць.
Старое! Прэч ўжо з дарогі!
Ня вам народ вывясьці з цьмы!
Ня трэба нам вашай падмогі,
Народ свой выведзем—*мы!*
Глядзеце! нас ўжо многа—
Усюды цьвіцём, нібы мак!
Чаго-ж вы стаіце? Дарогу!
На зьмену прышоў вам Рабфак!

Рабфакавец Янка Сапун.

Новай школе—кузьні пролетарскай культуры, Рабфаку БДУ прысьвячаю.

# Сын.

I

Быў цяжкі год. Тады краіна
Уся зруйнована была,
І Маці-Беларусь да сына
Такую гутарку вяла:

— Мой сын! Прачніся і навокал
Глядзі,—ты бачыш там маяк?
Ляці скарэй, як вольны сокал,
Туды, дзе сьвеціць гэты знак!..

Тут цьма—там сонца сьвеціць гожа,
Тут гразь,—а там шлях, нібы шкло!
Ідзі... Ляцець цяпер ты можаш,
Туды, дзе вольна і сьвятло!..

Ідзі... З табою пойдуць людзі
Усе тыя, ў цемры што жывуць.
— Прашу, сынок, што там здабудзеш
Ты прынясі мне, не забудзь.

Калі-ж мець будзеш яшчэ сілу,—
Туды вярніся, скуль прышоў.
Калі-ж дзе ляжаш у магілу—
Адзнач то месца, дзе ты йшоў.

II

Прачнууся сын. Працёр ён вочы
І пільна стаў глядзець ўпярод.
І бачыць ён, што сярод ночы
Заняўся полымем усход.

Ага... Гарыць... Пара зьбірацца!
Пара ісьці ўжо на пажар!
Пара! Няма чаго туляцца
Ў той час, як трэба ўсім змагацца—
Нам асьвяціць трэ' весь абшар!..

III

Надзеўшы сьвітку даматкану,
Пад паху хлеба ў торбу ўзяў,
Туды, дзе бачыў бляск пажару,
Сын шпаркім крокам шалыгаў.

Ідзе... А вецер, як шалёны,
Яму перашкаджае пуць.
Яго паслалі міліёны
І маці з словам—не забудзь.

IV

А над пажарам чорны хмары
Зышліся ў кучу, бы на сход,—
Перасякае іх маланка
З паўдня, з усходу на заход.

Ўздрыгаюць хмары. Лбы наморшчаць,
Як і жылі, так хочуць жыць.
Пажар яскравы яны хочуць
Зьмясьці з зямлі і... патушыць.

V

Прышоў наш сын ад цемры ночы
І бачыць многа там людзей.
І вось хто сьмелы, хто ахвочы
Хапае сонца і скарэй

Бяжыць ізноў кудысь у цемру,
Агонь губляе па шляху,—
Яго яскравыя праменьні
Усю цемру ночы ўскалыхнулі.

А людзі там, нібы зладзеі,
Агонь хапаюць назнарок
І йдуць з вялікаю надзеяй
Разганяць астатні змрок.

Яны ідуць... А ў небе зоры
Пабедны правяць карагод.
І тое, што было ўчора,
То сёньня ўсе наадварот.

VI

Пачаў хватаць агонь гарачы
Пасланы сын ад цемнаты,
І нёс яго туды, дзе плачуць,
Дзе ўлада цемры, беднаты.

Сярод пажарышч, галавешак
Забыўшы аб мінулым сьне,
Ідзе наш сын, і са ўсіх сьцежак
Крык чуцен: „Дай-жа сонца мне!

Дзе ты знайшоў яго, прызнайся,
Скажы нам, добры чалавек.
— Часьцей заходзь к нам, ня цурайся,—
Цябе мы помніць будзем век!“

——

І гэты край было то месца,
Дзе ён радзіўся, дзе ўзрос,
Адкуль паслала яго Маці...
Каб лепей з цемраю змагацца...
Навуку сьветлую ён нёс.

Янка Паўлоўскі.

# Мотывы адраджэньня ў творах Янкі Купалы.

1905 год параджае некаторую свабоду друку, пісьма, тэатру. Цэлы шэраг зьявіўшыхся ў сьвет навуковых прац аб Беларусі выяўляе нацыянальную сьвядомасьць, у першую чаргу сярод беларускай інтэлігэнцыі, вышаўшай з дробнай беларускай шляхты.

Нацыянальная самасьвядомасьць і нацыянальны рух парадзіў сваіх ідэолёгаў—нашых пісьменьнікаў.

Наша мэта—прасачыць, як адбіліся нацыянальныя мотывы ў вершах Янкі Купалы, як аднаго з найтыповых ідэолёгаў эпохі адраджэньня.

Бацька яго паходзіў з дробнай засьценкавай шляхты, выгнанай з сваёй зямлі нейкім важным польскім панам, што вельмі тыпова для беларускай дробнай шляхты.

Янка Купала адразу спаткаўся з нераўнапраўем ня толькі мужыка, але й такога „пана“, як ён.

Дзе я ні кінуўся з песьняй—ні вылету,
Выхаду, сьцежкі няма...
. . . . . . . . . . . . . . .
Куды ісьці? За што ўчапіцца?
Якім багом паклоны біць?

Вось як ён сам адбівае ўсе зачыненыя шляхі беларускай інтэлігэнцыі. Усё гэта праз расійскага чыноўніка, польскага пана. Ён усё гэта выразна бачыў. Ён бачыў, што ў такім і нават горшым становішчы жыве й беларускі селянін.

Ці ня разам ім пайсьці да вызваленьня?
Поэта гэта зразумеў.

Трэба было толькі даць магчымасьць беларускаму селяніну зразумець сваё становішча. І гэтую частку поэта выпаўняе добра. Праз лірычны напеў сваіх вершаў ён у згушчаных фарбах адбівае жыцьцё беларускага селяніна.

Добра малюе поэта жыцьцё селяніна, але падход у яго зьверху і асьцярожны.

Не дасьце веры, што вам
Жыцца лепей будзе.
Вы ня зломкі, вы ня зноскі,
Вы народ магучы;
Ваша панства—вашы вёскі,
Пан ваш—труд жывучы;
Ваша слава не ў палацы,
Не ў князеўскай мітры,
А на роднай ніве ў працы
Карыснай, няхітрай.

Вось аб чым сьпявае поэта беларускаму селяніну.

У другім месцы поэта кажа:

Вучыся, нябожа, вучэньне паможа
Змагацца з нядоляй, з няволяй...
Што муча сягоньня, што думкі трывожа,—
Зьбяжыць і ня прыдзе ніколі.

Ці не знайшоў поэта лепшых пажаданьняў для барацьбы з „нядоляй“.
Поэта нават і не гаворыць ясна адкуль гэтая нядоля, як ее пазбавіцца.
Ён толькі славы жадае нашай старонцы. Праз зьвяртаньне да сонца кажа:

Аднаві славу нашай старонцы,
Аднаві яе, сумны народ!

Часта вяртаецца поэта да мінулага слаўнага жыцьця на Беларусі. Вось праз ціха бягучыя хвалі Нёману поэта говорыць:

„Край, дзе жыцьцё я сваё пачынаю,
Шмат весялей прыглядаўся на сьвет,
Песьні і казкі іншыя баіў,
Шчасьце цьвіло ў ім, як макавы цьвет“.
. . . . . . . . . . . . . . .
„Панам быў дома і слаўны за домам
Мой патаптаны сягоньня народ“.

Ці то поэта ня ведае якое „шчасьце цьвіло“ ў гэтым краі. Ці ня здаўна ўжо былі „лепшыя і подлыя“ людзі. Адны і тады панавалі, другія былі прыгнечаны. Гісторык Ігнатоўскі кажа: „Паміж двумя клясамі жыхароў старажытнай Полаччыны праз увесь гісторычны першы пэрыод Беларусі ішло змаганьне“. Панам быў ня ўвесь народ, але частка яго—князі.

А што нам поэта пяе аб клясавай барацьбе:

Кінь сваркі і звадкі, аднэй дзеці маткі—
Мы злучаны думкай аднэй.

Тут яскрава відаць, як нацыянальныя мотывы забіваюць, затуманьваюць соцыяльнае неравенства і клясавую барацьбу.

Гэта і ёсьць адзін з найвялікшых адмоўных бакоў нашага поэты. Гэта мы бачым ува ўсіх яго творах Ён кліча да нацыянальнага вызваленьня—гэта добра, але ён праглядзіў, што пасьля нацыянальнага адраджэньня зноў прыдзецца змагацца *са сваімі* беларускімі панамі і чыноўнікамі.

А вось як поэта бачыў Беларусь пасьля адраджэньня:

Зацьвіце яна, як сонца
Пасьля непагоды,
У роўнай волі, у роўным стане
Між усіх народаў.

Уся слава, уся будучына—быць роўнай між усіх народаў. Аб сусьветным становішчы гэтых народаў поэта ня кажа. Мы толькі самі ведаем, што цэлы шэраг тых народаў, як польскі, латыскі, літоўскі і іншыя, яшчэ ня вольныя, бо яны пад экономічным уціскам сваёй буржуазіі.

Поэта добра маляваў жыцьцё селяніна. Клікаў „да зор, да сонца", але беларускі селянін ад гэтых песьняў мала варушыўся. Ён хоча чуць у словах сьпеваў больш конкрэтнага, яскравага.

Інакшыя вынікі будуць, аб якіх сам-жа Я. Купала і кажа:

Сьпеў пясьняр. Глянуў, угледзіў:
Хата пустая была.

---

# Б Ы Т.

Цэп.

## З а м о р к і н.

I

Гэта ня было ў Менску... Ня было гэта і ў 1925 годзе, бо, як вядома, студэнты былі і раней гэтага году...

Т. Заморкін ужо пад поўнач сядзеў за сталом у сваёй кватэры. Электрычная лямпачка вісела і сьвяціла насупроць яго носу. Вялізарны, пузаты портфэль ляжаў перад ім, такі бліскучы і тлусты, нібы адкормленае, высмажанае парасё, і здавалася вось гэтак і крыкне на ўсю хату, вуліцу, цэлы сьвет, што ў ім ляжыць шмат вельмі патрэбных дзялоў у паперах, што ён ад гэтых папер ня вытрымае і калі іх хоць крыху ня вымуць, то ён.. лопне. А Заморкін сядзеў... Насупроць стала, каля дзьвярэй на гвазду, вісела яго бякеша. Смушкі, толькі ня „сізыя з марозцам“, як у Івана Іванавіча, а белыя, як сьнег, весела пазіралі з пад чорнага сукна, нібы пахваляючыся, што яны гэткія белыя, умытыя. Смушкі гэтак пільна пазіралі, гэткая ў іх была зайздрасьць, што здавалася вось зараз і пачнуць расхвальвацца каго яны апранаюць. Здавалася, яны і шапацяць, што гэта не Антось, які калісь ганяў іх і пасьвіў па полю, а што гэта чалавек далікатны, пісьменны, а галоўней усяго, што ён актывісты, і актывісты не абы дзе, а сярод студэнцтва. А гэта, як вядома, справа надта й надта цяжкая. Пры гэтым Заморкін займаў адказную пасаду да ў дадатак меў больш дваццацёх адказных абавязкаў. Цяпер ня будзе дзівам, што т. Заморкін атрымліваў каля шасьцёх чырвонцаў. Аб гэтым сьведчыў і портфэль пузаты на стале.

А Заморкін усё сядзеў і нібы-то што думаў, нібы-то спаў, падпершыся рукамі, закрыўшы імі свой твар...

Але вось ён неяк раптам ачуняў, паглядзеў, вылупіўшы, вочы навакол сябе, і рука міжвольна пацягнулася да портфэля. Не пасьпела яна й дакрануцца да яго, як адгэтуль палезьлі: прамова, справаздача, НОП, гурткі, хоз. камісія, студэнцкая сталоўка, хлеў, парасяты, афіцыянткі, рэдколегія, міскі, тэлефон і інш., і інш... Усе адно перад адным выпіраліся з портфэля, жаласьліва шуркаючы, нібы просячыся, каб іх скарэй выпусьцілі з гэтага пекла на волю. Заморкіну вельмі прыкра зрабілася, забачыўшы гэтыя паперы, ад якіх яму кожын дзень ня было як дыхнуць. Без усялякай пашаны пачаў ён іх піхаць назад, але гэта ня так легка было зрабіць: яны шурцелі, шкрыгацелі, ламаліся, згіналіся ўпарта, не згаджаючыся заставацца ў гэткай цясноце. У сваю чаргу й Заморкін гэтак-жа ўпарта, з неяк аж дзікай злосьцю, ламаў, круціў, драў іх, піхаючы ў портфель пакуль не зачыніў яго, ушчаміўшы паміж створак некаторых з іх. Гэтак яны і засталіся тырчэць, гатовыя закрычаць „ратуйце“, каб іх хоць крыху адпусьціў хто, а то, дык зусім духі зацяло гаротным.

Потым Заморкін, кінуўшы асалавелымі вачыма ў розныя бакі, застанавіўся на „Краевічу“, разгорнутым на стале. Легкая дрыгота прайшла па ўсяму яго целу. Мабыць нешта ўспомніў... Кніга мусіць даўгі час ляжала разгорнутай, бо на яе старонках асела досыць пылу. Заморкін перакінуў некалькі лістоў, уткнуўся ў кнігу. Вусны яго пачалі скоранька мітусіцца й шапацець. Па ўсяму відаць было, што Заморкін пачаў чытаць. Але ня доўга ён чытаў. Радкі кнігі сталі скакаць і бегаць у вачох Заморкіна. Скора шэпат, гэткі шчыры спачатку, стаў заціхаць, а далей і зусім сьціх. Вусны яго зрабіліся, нібы мерцьвячыя. Урэшце погляд яго двойчы прабег кнігу зверху ўніз і знізу ўверх, адарваўся ад яе, стаў блытацца па кватэры з аднаго кутка ў другі, з аднэй рэчы да другой, покі не застанавіўся на тых небараках паперах, якія былі ўшчэмляны паміж створак портфэля. Заморкін уперыўся ў іх, але бачыць іх ня бачыў... Твар яго нічога ня выказваў. Гэтак ён сядзеў некалькі хвілін, потым устаў. „Трэба заўтра наведацца кудысь... трэ' будзе адпусьціць некалькі парасят дзеля сталовай, глядзі ўжо падрасьлі“, прагаварыў ён.

За гэтым Заморкін прайшоў некалькі крокаў па кватэры, застанавіўся перад люстэркам і, убачыўшы свой твар, сказаў: „Трэ' будзе зайсьці і ў цырульню, а то за гэтай працай некалі і аб сабе паклапаціцца. Бач, аброс, на каго хочаш падобен, толькі не на сябе“.

Прайшоў яшчэ некалькі крокаў уздоўж кватэры, пазяхнуў разоў са двойчы і дадаў: „Пара спаць... годзі“... Разьдзеўся, закруціў сьвятло і лег адпачываць.

II

Назаўтра... У студэнцкай цырульні, як і ва ўсіх студэнцкіх установах, чуўся гоман, сыпаліся жарты, дым „слупам стаяў“ ад курэньня. Пераважна гутарка адбывалася на расійскай і жыдоўскай мовах. Цырульнікі ня вельма спрытна ўвіхаліся каля сваіх гасьцей. Па чарзе выгукваліся прозьвішчы: Комлік, Каптур, Чапяла і інш.

Увайшоў Заморкін. Раптам усе майстры, як адзін, спынілі працу і наперабой пачалі здароўкацца з ім. Заморкін, нібы з лянотай, нібы з заморанасьцю, адказваў на гэтую прорву прывітаньняў, якія пасыпаліся да яго, бо к майстром прыяднаді свае „як жывяце т. Заморкін“, некалькі прысутных студэнтаў. Вядома, т. Заморкін быў добры таварыш, усім вядомы, к гэтаму ён яшчэ кіраваў хоз. камісіяй. Цырульнікі пачалі ўвіхацца каля яго, „як чорт каля паганай бабы“. Урэшце аднаму з іх выпала шчасьце заняцца асобай Заморкіна. Яго вельмі далікатна, як нікога, папрасілі сесьці, зразумела, не ў чаргу, і пачалося яго „амалажваньне“.

Прайшло шмат хвілін. Другія крэслы апаражніліся разоў па трычатыры, а Заморкін усё сядзеў. Каля яго гутарка ня спынялася ні на момант. Паслухмяны, далікатны цырульнік разважаў яго, не даваў яму сумаваць, а Заморкін, ня гледзячы на гэта, усё пазяхаў і пазяхаў. Вось ён пацягнуўся ўсім целам, адчыніў рот яшчэ раз, калі з яго ўжо сьцíралі рушнічком апошнія плямы пудры і сказаў: „Ну, мо' ўжо досыць“. Устаў...

Цырульня была поўна, як і раней. У вачох Заморкіна так і сачылась думка: „Гэ, колькі вас тут, колькі вы дарам часу траціце ў гэтых чаргах: тут, у сталоўцы і інш. Мабыць яго шмат маеце, а мне, як гаворыць, і носу ўцерці некалі. Чуць ababраў хвіліну, каб бараду зьняць, дый вось і спазьніўся. Зараз жа трэба пасьпяшаць на пасяджэньне па разьмяркаваньню месц у дом адпачынку. Шчасьлівыя ёсьць людзі“... Заморкін кінуў вокам на гадзіньнік, адзеў паліто, галёшы і вышаў.

III

Пасьля двох тыдняў Заморкін вярнуўся з дому адпачынку. Было важнае пасяджэньне. Ен, як заўсёды, быў абабраны старшынёю прэзыдыуму. На абвесцы дню стаялі пытаньні:

1. Аб уцягненьні шырокіх колаў студэнцтва ў політычна-грамадзкую працу.

2. Організацыя шэфскага бюро. Па першаму пытаньню прамова была Заморкіна. Ён гаварыў блізка каля часу. Чаго ён толькі не сказаў: „Трэба ўсіх студэнтаў цягнуць да працы. Недавер'е к студэнцтву адышло ў мінуўшчыну. Наша студэнцтва цяпер амаль што аднастойна—рабочыя й сяляне... Грамадзкая праца сярод нас мае шмат памылак і недарэчнасьці... Усё ад таго, што шмат студэнцтва стаіць покі ў старонцы і зусім не затым, што яно ня хоча працаваць. Толькі меншая частка яго закідана гэтай працай, што далей і некуды. Гэтыя т. т. зьяўляюцца „монополістымі", „незаменнымі" працаўнікамі"... „Няма чаго граха таіць", казаў далей Заморкін. „Мы чысьцім студэнта, што ня прымае ўдзелу ў грамадзкай працы. А калі-б нам задаць пытаньне, што ў гэтым напрамку намі зроблена, дык нам не застнецца нічога сказаць, як толькі—што „нічога", а ў лепшым выпадку амаль што „нічога"... А ўжо пара"... У гэткім напрамку гаварыў Заморкін і далей. Добра гаварыў. Усе згаджаліся...

Па другому пытаньню было заслухана некалькі прамоў. Урэшце, Заморкін быў абабраны адказным загадчыкам бюро. Па скончэньні пасяджэньня ён атрымаў усе матар'ялы па апошняму пытаньню і палажыў іх у портфэль.

**М. Ціхан.**

# Як мы жывем.

З пачатку гэтага вучэбнага году жыцьцё аднаго з агульных памяшканьняў студэнтаў Менскага Інстытуту Сельскае і Лясное Гаспадаркі было вельмі дрэннае.

У халодныя асеньнія ночы ў кватэрах без пячэй, з пабітымі вокнамі, бяз сьвету, туліліся па куткох студэнты.

Пэўнага памяшканьня ня мелі і пераганялі з аднаго месца на другое.

Такое становішча адбівалася на ўсім жыцьці студэнта, на яго посьпехах, на яго ўдзеле ў грамадзкай працы.

Цяпер зусім другое.

Агульнае памяшканьне па вуліцы Энгэльса № 36, занова адрэмантаванае, зьмяшчае ў сабе 45 чалавек, па 2—4—6—10 у пакоі.

Пакоі сьветлыя і чыстыя, добра абсталяваныя. За чыстатою глядзіць дэжурны чалавек. Ад 8-ае гадзіны раніцы да другое гадзіны ночы заўсёды ёсьць гарачая гарбата.

Адным словам, усё зроблена, як найлепей. Так, забясьпека дае поўную магчымасьць аддацца вучобе, глыбей заняцца спэцыяльнымі дысцыплінамі, усяму студэнцтву ўвайсьці ў грамадзкую працу і выказваць больш ініцыятывы і самадзейнасьці.

Сярод самых студэнтаў значная згоднасьць і таварыства.

Большасьць жыве колектыўна, агульным жыцьцём, якое часткова выяўляецца ў колектыўным харчаваньні, у групавых занятках па азначанай дысцыпліне, у бяссупрэчным выпаўненьні загадаў агульнае пастановы, у масавым чытаньні выпісваемае літаратуры і г. д.

Бываюць выпадкі нетактычнага трыманьня некаторых таварышоў, але болей вытрыманыя чыняць на іх уплыў. Комсамольцы тут праяўляюць сваю ініцыятыву і ў некаторых адносінах зьяўляюцца прыкладнымі.

У лютым месяцы на іх прыходзілася 80 проц. выпісваемае літаратуры, а на сакавік перайшлі на колектыўную падпіску цэлымі пакоямі.

Комсамольская рухомасьць прыкметна. Вечарам за гарбатаю вядуцца размовы на тэмы дня, як палітычнага, так эканомічнага і бытавога характару. Помніцца, праз усю нядзелю працэсу Лапіцкага вяліся спрэчкі аб тым, якую кару павінны мець падсудныя. Папрыходзіўшы вечарам з навуковай лекцыі, хто з сходу або дакладу, пачынаюць дзяліцца ўражаньнямі. Тут у доўгіх прамовах і спрэчках вырашаюцца зьявіўшыяся пытаньні.

Для большых і лепшых зносін паміж студэнтамі будзе ў асобным пакоі ўладжана харчэўня, дзе ў гутарках і чытках газэт прыме ўдзел больш значная частка студэнтаў і гэта будзе цікавіць іншых, і уцягваць у агульныя пытаньні жыцьця.

Апрача гэтага яшчэ павялічыцца чыстата, бо ўсе харчовыя прылады і продукты будуць у харчэўні, а ў пакоях толькі заняткі ды адпачынак.

Вось у агульных рысках абразок нашага палепшанага жыцьця.

Што далей, то ўсё лепей. Трэба толькі самым падтрымліваць гэту палепшанасьць і супольна працаваць у гэтым напрамку.

* * *

Міхалевіч.

Ня гледзячы на тое, што агульнае памяшканьне студэнтаў інстытуту вельмі далёка, аж саўсім па другі бок месца, на самым краю (Комунальная, 36), студэнты ўсё-ж такі яго ня цураюцца і ў 8 пакоях, якія там маюцца, усе месцы заняты.

Гэткую зьяву можна з аднаго боку растлумачыць тым, што чырвонаму студэнту цяпер прыватная кватэра не па кішэні. З другога-ж боку гэта тлумачыцца тым, што становішча агульнага жыцьця мала ў чым горшае, як на прыватнай кватэры.

Перш-на-перш, у пакоях ніколі ня бывае такога холаду, каб трэба было сядзець апрануўшыся, на што можна было-б скардзіцца, а заўсёды цёпла.

Сьвету зноў колька хочаш, хоць усю ноч чытай. Пакоі маюць прыемны выгляд, ня гледзячы на тое, што ў некаторых жыве па 12 чалавек. Падлога ў пакоях мыецца кожную нядзелю. Дзеля кожнага студэнта жалезны ложак, які бывае ў дзень заўсёды прыбраны. Сталы ў пакоях засланы цыратаю, дзеля кожнага табурэтка. На сьценах вісяць портрэты Леніна, Калініна і інш. Так што паглядзеўшы з гэтага боку, дык відаць, што праўленьне інстытуту і студэнцкія організацыі паклапаціліся ў гэтым напрамку.

Студэнты-ж, якія жывуць у агульным памяшканьні, з свайго боку хоць трохі і качаюць, але ўсё-ж такі падцягнуліся і ўстанавілі дысцыпліну дзеля падтрымліваньня цішыны і парадку, якая ў сваю чаргу падтрымліваецца экономаддзелам і якая дае магчымасьць вясьці свае заняткі кожнаму студэнту, які толькі хоча вучыцца.

Зьм. Белы

## Як жывуць мэдфакаўцы БДУ.

*(Малюнкі быту)*

Неяк раскінуўся мэдфак па ўсяму Менску ад вакзалу (Пастэраўскі Інстытут) і да Камароўкі (востра-заразная больніца). Шырокая, Ленінская, Комунальная і яшчэ шмат вуліц, па якіх заўсёды сустрэнем мэдыка з халатам пад пахай. Цэлы дзень яны снуюць з аднаго месца на другое: з аналітычкі ў анатомку, з пастэраўскага на амбуляторны прыём, з патолёгічкі на абход і г. д.

Анатомка...

Цэлы шэраг сталоў, на якіх ляжаць мерцьвякі з распоратымі жыватамі, з адвёрнутай скурай, без нагі, без галавы. Як пчолы гудуць студэнты, як жукі капаюцца яны ланцэтамі і пінцэтамі ў чалавечым мясе. А бываюць гадзіны, калі ляцяць і пінцэты, і ланцэты і іх месца займаюць пальцы... простыя студэнцкія пальцы; яны як бы лепш ланцэтаў знаходзяць тое, што патрэбна.

А там, каля печкі, кучка студэнтаў. У іх на каленях рука—„У Articulacio cubici маюцца такія сувязкі"... І пасыпаліся латыньскія тэрміны.

— Гэта памойму нэрв,—крычыць студэнт, трымаючы кусок фасцыі.

—Ды не, гэта фасцыя. І каля гэтага пытаньня распаляецца спрэчка, пакуль які-небудзь з супярэчнікаў ня прывядзе доктара, і той ня вырашыць іх пытаньня.

Доўга працуюць яны ў гэтай пахучай паветры, ня бачаць, як ляцяць гадзіны. Толькі моцны голас добра вядомага мэдыкам Язэпа—„канчай працу" вяртае іх да настаяшчага жыцьця. Мыюць рукі, сьпяшаюцца—хто куды... Гурткі, пасяджэньні, сходы... Аналітычка, ці „Злахім", як яе завуць студэнты...

Тут ўжо прабіркі, бутэлькі з рознымі кісьлямі, амоньнямі і інш... Тут заўсёды ідзе газавая вайна.

— Ура! Рэнтвіт, рэнтвіт знайшла,—крычыць сярод дыму студэнтка.

Пераліваюць з аднэй пасудзіны ў другую, цэдзяць, глядзяць на свет, нюхаюць, пробуюць сьпяваць, але едкі амоні, палючая „царская водка", серьная кісьля, азотовая, усім памятны $H_2S$—лезуць у рот.

Ня вельмі то засьпяваеш!

А вось і пастэраўка...

Тут неяк чысьцей... Тут ужо мікроскопы...

— Што ў цябе відаць?

— Сібірскую язву знайшоў! Яны яе так проста язвай і завуць. Тут ужо ня газы, а мікробы. Звычайныя мікробы... і халера, і тыфус, і сухоты, і многа іншых. Вось кроліку ўпырснулі тры дні таму назад. Здох і не скрануўся, як хвароба забрала...

— А ці можна заразіцца?—пытае студэнт у профэсара.

— Можна! але-ж вы рабеце так, каб не заразіцца,—адказвае той... і замест Кохараўскіх пінцэтаў... зноў пачынаюць працаваць пальцы...

Кучкай вылятаюць, пхаюць падарожных—ідуць у клінікі.

— Вось учора я бачыў хворага, такая прыгожая скула! Ружовенькая, эх!.

— А я, дык язву пранцаў бачыў... вось харавство! Братка ты мой!..

На опэрацыях ужо стаяць ціха, у калпаках, як кухары. Глядзяць пільна за кожным рухам рукі опэратара.

Вось на лекцыях, ня вельмі ахвоча слухаюць. Запіскі, шапкі ляцяць, крысы халатаў зьвязваюць... гэта хібы, хібы нашага жыцьця.

Гэта вучоба...

А ў чытальні, у гуртках—адбіваецца жыцьцё. Хто ня быў на вечарох мэдыкаў? Колькі там юнацкага вясельля, яскравага жыцьця, бязьмежнага гумору!...

Жывая газэта, музэй, вусная, сьветавая... У іх усё жыцьцё, увесь быт, усе хібы мэдфаку. Ёсьць і насьценная . З кожным нумарам яна дае новае... Мэдыкі любяць сваю газэту. Калі яна вісіць—гэта іх сьвята.

— Бачыў ужо газэту?

— Не! а дзе яна вісіць?

— У анатомцы!.. І ён бег яе чытаць. Бег шпарка, каб не спазьніцца. Вось толькі ў іншыя часы дык запозна сядзяць з рэдколегіі і... гатуюць чарговы нумар, бо ня вельмі ахвочы студэнты і студкоры даваць к кожнаму нумару матар‘ял.

І ўжо пад поўнач, калі скончана жыцьцё ў горадзе, калі забыты лекцыі, сходы і гурткі, дзе небудзь зышоўшыся 2—3 мэдыкі горача гутараць аб... політыцы „Лефа“ ў мастацкай літаратуры.

— Усе твае Пільнякі і Эрэнбургі—мяшчане! Сьпяваюць пра паміраючую культуру..

— Ну, а „Леф“ што? Крыклівы, завумны, нікому не зразумелы... І гэтак да позьняй ночы, а не—дык і да раніцы...

Хоць і раскіданы па розных кутках Менску ад Пярэспы да Серабранкі, але адчуваецца якаясь злучка сярод лепшай часткі мэдфакаўскага маладняка.

Гэтак штурмуюць вышыні навукі, гэтак вучацца быць будаўнікамі савецкае дзяржавы.

П. Галавач.

# Партшколія.

*(Вышэйшая партшкола Беларусі імя Леніна).*

Пасьля паўтарамесячных канікулаў партшкольцы, падмацаваўшыся практыкай, прымяніўшы веды, атрыманыя на першым трыместру, на заводах, у вёсках, зноў зьехаліся на вуліцу Карла Маркса № 30, у партшколію.

Зноў забіла крыніцаю партшкольскае жыцьцё.

Раніцай, к васьмі, заве званок да сьнеданьня, а потым і на заняткі ў лябораторыі. Там іх чакаюць Ленінізм, політэкономія, біолёгія.

Заняткі ідуць пановаму, па Дальтон-пляну.

У кожнай лябораторыі ўжо вывешана заданьне, указана літаратура, патрэбная для яго выпаўненьня. Чакаюць чытача-партшкольца кнігі, хаця часам бывае і так, што іх не хапае для ўсіх жадаючых заняцца тым ці іншым прадметам.

Новы мэтод заняткаў патрабуе ад кожнага партшкольца строгага падлічэньня і разьмеркаваньня часу, які маецца для пераапрацоўкі ўсіх заданьняў, а дзеля гэтага заўсёды прыходзіцца раней падумаць аб тым, над чым сёньня будзеш працаваць.

У лябораторыях за сталамі групкамі ў 2—3—4 чалавекі, над кнігай сядзяць партшкольцы—распрацоўваюць заданьні.

А распрацаваць трэба добра, каб усвоіць, бо больш аднаго разу ўсё роўна матар‘ялу не прачытаеш, ня хопіць часу.

Тут жа ў лябораторыі інструктар (настаўнік) памагае разабрацца ў цяжкім месцы кніжкі.

З лябораторыі ў лябораторыю вандруюць партшкольцы ад прадмета к прадмету.

Заўсёды заняты лябораторыі. Заўсёды поўна ў Ленінскай.

Моцна налягаюць партшкольцы на Ленінізм, бо ведаюць, што ім трэба добра ўзброіцца ленінскай зброяй.

Ленінізм у нас галоўнае. Пераапрацаваўшы ўсё заданьне групамі ідуць к інструктару.

Пытаньнямі правярае інструктар ці добра ўсвоена, ці трэба яшчэ працаваць над заданьнем.

І пасьля таго, як залік здадзен, у картцы інструктара адмячаецца:

— Здаў пераапрацаваўшы, столькі та гадзін.

З першае гадзіны перарыў да паўчацьвертае.

Партшколія перамяшчаецца ў сталоўку.

У сталоўцы, пакуль абед, спрачаюцца аб занятках, аб новым, што выведалі з кніг, чытаюць газэту.

Трэба кожную хвіліну скарыстаць, а пасьля абеду, з паўчацьвертае, зноў у лябораторыях групкамі, а то й цэлымі вучэбнымі групамі з інструктарамі падводзім вынікі пераапрацованым заданьням, знаёмімся з новымі, якія трэба будзе пераапрацаваць.

З 8 гадзін раніцы да паўшостай ціха ў абшчажыцьці.

З паўшостай партшколія пераносіцца ў абшчажыцьце, але не на доўга.

У пакоях добра паспрачацца, пагутарыць аб прачытаным.

Групамі ў пакоях партшкольцы словамі сыплюць, да ісьціны дакапваюцца, шукаюць патрэбных слоў, а калі іх няма, дык рукой націскае партшколец, як бы рычагом, памагаючы думцы рухам.

Дзе-небудзь каля печкі, дзе весела патрэсківаючы гарыць „дзедава асінка“ паўколам селі і з пакоя нясецца гучная, далёка-чутная, песьня.

Учоба партшкольцаў зьвязана з практычнай працай, каб не атарвацца партшкольцам ад мас, ад практычнае працы. Партыя разьмеркавала сілы партшколіі па фабрыках, заводах, для шэфскай працы ў вёсцы.

Вечарам пасьля заняткаў сьпяшаюцца партшкольцы пайсьці к заводам, к чырвонаармейцам, у клюб, на ячэйку, гурток.

На сходах, у камісіях, гурткох прыглядваюцца да працы партшкольцы, самі працуюць, вучацца, памагаюць.

У суботу ўвечары 2—3 партшкольцы едуць у падшэфны сельсавет, у вёску, каб памагчы партыі ў працы сярод сялянства. Так жыве і працуе партшколія.

---

# Пытаньні вышэйшае школы.

—

Гайдукевіч і Мяцельскі.

## Да рэформаваньня выкладаньня ў Інстытуце Сельскай і Лясной Гаспадаркі (Менск).

### Рудзімэнтарнасьць і адмоўнасьці старой сыстэмы

Менскі Інстытут сельскай і лясной гаспадаркі заснаваўся на пятым годзе пасьля Кастрычнікавай рэволюцыі. Здавалася-б, што шлях будаўніцтва яго павінен быў пайсьці ўжо з першага году тым ці іншым шляхам новага жыцьця Вышэйшае школы. Буржуазна-дэмократычныя мэтоды, якія, як кажа тав. Пакроўскі, былі і ёсьць у нашай Вышэйшай школе, не павінны былі тут укараняцца. І яно мусіць-бы й было так, ня гледзячы на цяжкае экономічнае становішча і кароткі шлях пролетарскай школы, каб нашы жрацы навукі былі чырвонымі жрацамі. Патрэбен быў толькі рабоча-сялянскі нюх і інстытут-бы зразу стаў на шлях выкладаньня і наагул пастановы вучобы з чыста рабоча-сялянскімі інтарэсамі. Гэтага нюху ў непасрэдных кіраўнікоў інстытуту тады не знайшлося і яму прышлося акунуцца ў старое, гнілое, зарастаўшае возера выкладаньня навукі і выхаваньня рабоча-сялянскай моладзі. Затое гэты нюх быў у маладога студэнцтва. Яно ніяк не магло згадзіцца з тым, што ў пролетарскую школу прасачылася хворая струмень. Супроць гэтага нясьліся іх зычныя гукі. „Мы ня хочам быць губкай, якая толькі ўсасвае словы профэсара; мы хочам самастойнай творчай працы“. З першага году пачалася барацьба нечага, яшчэ ня маючага аскравага адбітку, новага з старым, дажываючым свае часіны. Апошняя не знаходзіла сабе месца. А профэсар Гайдукоў (Менскага Інстытуту) праз два гады—гэтае дажываючае, старое ахрысьціў языком навукі так: „Лекцыйная сыстэма ёсьць рудзімэнтарны орган, які знаходзіцца між жыцьцём і сьмерцю“. Адмоўнасьці, якія даваў студэнтам інстытуту гэты рудзімэнтарны орган, былі відаць яскрава, і нечага было задумоўвацца над далейшым яго існаваньнем.

Справа пры лекцыйнай сыстэме абстаіць звычайна так. Калі на курсах, напр. першым, трэба прайсьці за год 12 якіх-небудзь прадметаў па розным галінам навукі, дык яны праходзяцца амаль усе зразу па 4—5 розных лекцыяў што дзень. І такім чынам палучаецца такі малюнак, што студэнт становіцца машынай па выслухоўваньню лекцый. Ён ня можа апрацаваць тую ці іншую дысцыпліну навукі. Ён ня мае магчымасьці нават разабрацца самастойна ў адным якім-небудзь цёмным для яго пытаньні,—на гэта ў яго не хватае часу. У другім выпадку, калі-б студэнт задумаў самастойна апрацоўваць які небудзь прадмет, дык ён павінен адмовіцца ад слуханьня лекцый па другім галінам навукі.

І першае, і другое здаралася рэдка. А звычайна было так, што сьпярша, з пачатку акадэмічнага году, студэнты стараліся пабываць у кожнага профэсара на лекцыі і паслухаць як ён чытае. А потым, калі падыходзіў час залікаў, кідалі гэтае слуханьне, хаджэньне па „мукам", хваталіся то за адну, то за другую кніжку, ніяк ня прыдумаўшы за якую з 12 ухапіцца, а профэсары выкладалі свае веды пустой аўдыторыі. Гэта было цуда, калі 8—10 студэнтаў яшчэ ўсё хадзілі слухаць іх выкладаньні. Пачыналася зуброжка. Студэнт стараўся выведаць якія пытаньні профэсар ставіць на заліках і зазубрыўшы на іх адказы ішоў на „страшны суд", на праверку яго „ведаў" да профэсара. Па некалькі разоў хадзілі ў дзень, каб толькі хутчэй як небудзь „улізнуць" ад профэсара, бо год быў ужо на зыходзе, а minimum яшчэ толькі пачынаўся атакоўвацца. Такім вось чынам, „атакуючы" з усіх бакоў, абсолютная большасьць студэнтаў пулучала залікі. Акрамя лекцый у інстытуце былі й практычныя заняткі. і тут яшче больш было цікавае становішча. Студэнт слухаў (альбо й ня слухаў) адно, а прыходзіў на практычныя заняткі зусім па другому прадмету. Бязумоўна, што працы тут чакаць ня трэба. Ніякай самастойнасьці. Адзін у аднаго зарысоўвалі, сьпісвалі—праца аднаго студэнта была працай некалькіх дзясяткаў студэнтаў. Тэорыя і практыка ня мелі ніякай сувязі.

Такая раскіданая, бяссыстэмная, у гарачцы праца ня зьбліжала профэсара і студэнта, а разьяднала іх. Студэнт сустракаўся з профэсарам толькі ў момант залікаў. І ня дзіва, што студэнты глядзелі на профэсара не як на старэйшага таварыша па працы, а як на нешта далёкае, чужое, што толькі чытае студэнтам лекцыі, дае ім у момант залікаў пытаньні, а не гаворыць з імі пасяброўскі. „Мы і Вы"—студэнты і профэсура нават па агульнай працы былі двумя працівалежнымі лягерамі. Так абстаяла пытаньне з рудзімэнтарным органам.

## Падрыхтоўчая праца да выкладаньня па новаму мэтоду.

Камісія аб рэформаваньні выкладаньня ў Інстытуце была заснована на вучэбнай радзе ад 17 ліпеня 24 г. Тады яшчэ і профэсар Гайдукоў ня выказваў сваёй думкі адносна старой, чуць-чуць яшчэ існуючай сыстэмы выкладаньня. Большасьць профэсуры не хацела й слухаць аб зьмене яе. Але студэнты, гушча, вынікі.. трэба было ўсё такі лічыцца хоць з існуючай запраўднасцьцю. Праца камісіі пачалася з зьбіраньня поглядаў у профэсароў, студэнцкіх організацый на далейшае выкладаньне ў інстытуце. Былі распрацованы ў 30 пытаньнях і разосланы профэсаром і організацыям дзеля адказаў анкеты. Перад намі ляжаць гэтыя запоўненыя анкеты і мы прыводзім некалькі тыпічных пытаньняў і адказаў.

а) (пытаньне № 2). Як вы глядзіцё на лекцыйную сыстэму?

Адказ профэсара:

у) як на абавязковую ў ВУЗ'е;

z) як на маючую свае дадатнасьці і адмоўнасьці (такія казённыя пытаньні ў большасьці сярод адказаў профэсароў М. Г.).

х) як на аджыўшы мэтод выкладаньня.

Студэнты: Лекцыйная сыстэма павінна быць зьменена працай лябораторна-групавым мэтодам. Лекцыі неабходны, каб выявіць агульную ідэю дысцыпліны, каб даць напрамак практычным заняткам і ў канцы заняткаў сыстэматызаваць апрацованы матар'ял.

в) (пытаньне № 25). Як можна контраляваць прахаджэньне дысцыпліны курсу?

**у) Экзамены.**

у) сыстэма залікаў неабходна,—толькі гэтым мэтодам можна павяраць працу студэнтаў.

z 1) Даведаньня (мабыць рэгістрацыя М. Г.).

2) Гутаркі (мабыць экзамены М. Г.).

х) Справа павінна быць пастаўлена так, каб студэнты прымалі абавязкова актыўны ўдзел ва ўсіх занятках, каб яны мелі непасрэдную цесную сувязь з профэсарам.

Студ. Толькі што-дзённая праца профэсара з студэнтамі ў групе дасьць магчымасьць выявіць веды студэнта.

Як бачыце, што профэсары разьбіліся на дзьве часткі. Адна (меншая), досыць рэволюцыйная, кінула вокам уперад, другая адказвалася на адрэз ад якіх-бы то ня было навінак у Вышэйшай школе. Чакаць іх згоды бязумоўна нечага было. Камісія пачала нашчупваць мэтоды. Пытаньне ставілася некалькі разоў на абгаварэньне студэнтаў. Зноў і зноў вызываліся ў камісію профэсары і супольна абгаварваліся пытаньні аб выкладаньні. Да пачатку новага акадэмічнага году новы мэтод быў амаль ужо апрацованы. Але да працы прыступіць па новай сыстэме выкладаньня было нельга. Так званая вольная старая сыстэма выкладаньня зблутала студэнтаў усіх курсаў адносна іх ведаў так, што не магчыма было згрупаваць іх. Студэнты III і IV курсаў мелі хвасты за I і II курсы. Гэта тармазіла працу. Прышлося на першую частку году накінуць орыентыровачны плян, які-б даў магчымасьць з аднаго боку студэнтам падцягнуць свае хвасты, для чаго нават часова зусім ня чыталіся лекцыі, а з другога—камісіі на некалькіх практычных прыкладах выявіць, як запраўды будуцьісьці заняткі па групам з лябораторным ухілам. Як адно, так і другое дало дадатны вынік. Студэнты падцягнулі свае хвасты, а камісія запраўды пабачыла якасьць працы па новаму мэтоду. Некалькі слоў з платаколу камісіі нам сьведчаць аб гэтым.

„Проф. Тэрлецкі і Саноцкі знаёмяць камісію з вынікамі групавых заняткаў у бягучым годзе, дзе лекцыйны спосаб іграе нязначную ролю, а праводзяцца гутаркі побач з лябораторнай практыкай. Проф. Тэрлецкі кажа, што заняткі ў яго йдуць пасьпешна, студэнты, якія працуюць у групе (некаторыя не хадзілі, бо падцягвалі хвасты М. Г.), прысвайваюць курс упоўне здавальняюча, і што яны могуць быць пераведзены на наступны курс бяз усякіх тэорытычных залікаў. Проф. Саноцкі дакладвае, што студэнты праяўляюць вялікі інтарэс да працы, працуюць надта здавальняюча і ўсвайваюць патрэбныя веды. Былі выпадкі, калі студэнты, здаўшы залік, прасіліся даць магчымасьць ім адпрацаваць у групе... Камісія адмячае ўпоўне здавальняючыя вынікі першых спроб выкладаньня ў інстытуце па новаму мэтоду". Гэта піхнула камісію яшчэ рашучай павясьці працу. І тут трэба адзначыць, што некалькі месяцаў працы камісіі былі як-бы свайго рода школай дзеля часткі профэсароў. Толькі пад уплывам яе сур'ёзнай працы аднагалосна (мо' тут былі ў каго небудзь і другія мотывы) былі зацьвержаны вынікі яе на вучэбнай радзе. А вынікі гэтыя былі вось у чым. Камісія лічыла, што цэнтрам вучэбных заняткаў павінна быць самастойная актыўная праца студэнтаў па вучэбным матар'ялам пад кіраўніцтвам выкладчыка.

Практычныя заняткі з тэорытычнымі павінны састаўляць адно цэлае і існаваць ня толькі ў спэцыяльных дысцыплінах, а й пры вывучэньні агульных прадметаў. Камісія лічыла, што парадак прахаджэньня курсу студэнтамі, які быў да гэтага часу, прыводзіў к таму, што студэнт скора згубліваў інтарэс да вучобы і пакідаў хадзіць слухаць лекцыі. Яна пад-

крэсьлівала, што студэнт раней усю сваю ўвагу цэнтраваў на здачы залікаў і так, як займаўся ён без кіраўнікоў, то веды яго былі самымі мізэрнымі, хутка ўлятучваліся з галавы. Найбольш істотным новым прынцыпам у справе выкладаньня камісія лічыла цыклявое прахаджэньне прадметаў. Пры новым мэтоду выкладаньня яна лічыла, што веды студэнтаў павінны выяўляцца і контраляваццa ў працягу самае лябораторнае працы ў момант агульных гутарак, у якіх выкладчык павінен зьяўляцца кіраўніком, а студэнты будуць прыходзіць на гутаркі, больш-менш тэорытычна знаёмымі з пытаньнямі кожнае гутаркі.

Дык вось у такім зусім новым напрамку выкладаньня інстытут і прыступіў у другой палове году да працы.

## Сутнасьць новага мэтоду выкладаньня.

І так, у аснову новага мэтоду выкладаньня лягло цыклявое праходжаньне дысцыплін. Сутнасьць гэтага праходжаньня мы прадэманструем невялічкімі прыкладамі.

Усе прадметы, якія ўваходзяць у вучэбны плян інстытуту, групуюцца па свайму радству на групы. І калі ўзяць, напрыклад, першы курс, дык тут ідзе вось якое групаваньне:

*Першы цыкль*—матэматыка, с.-г. машыны, геодэзія.

*Другі цыкль*—неарганічная й арганічная хімія, мінэралёгія.

*Трэці цыкль*—ботаніка, зоолёгія, фізыка.

Расклад гэтых прадметаў у распрацоўцы іх павінен быць такім, каб студэнт працаваў ня больш, як над двума прадметамі.

Разам з такім групаваньнем дысцыплін студэнты таксама разьбіваюцца на групы. На першым курсе, напрыклад, створаны тры групы. Гэтыя групы ў сваю чаргу разьбіваюцца на падгрупы, так што профэсар працуе з кучкай студэнтаў ня больш (гэта агульны прынцып), як у 20—25 т. т.

Агульным прынцыпам зьяўляецца гэтак сама тое, што студэнту дзеля працы ў сьценах інстытуту адводзіцца 4 гадзіны, а астатні час (лічыцца 5 гадзін) ён займаецца дома.

Вось прыкладны расклад прадметаў I курсу.

Першая група (А) (цыкль) разьбіваецца на тры падгрупы, другая (В) на дзьве, трэцяя (С) таксама на тры. У залежнасьці ад гэтага йдзе такое групаваньне прадметаў.

A: (a, b, c—падгрупы)

| a | b | c |
|---|---|---|
| Матэматыка | Геодэзія | Машыны |
| Машыны | Матэматыка | Матэматыка |

B:

| a | b |
|---|---|
| Арганічная хімія | Арганічная хімія |
| Мінэралёгія | Мінэралёгія |

(Неорганічная хімія не ўваходзіць затым, што абсолютная большасьць студэнтаў прайшлі яе ў першую палову году, а для астатніх пазьней будзе толькі рэпэтыторыум).

| С : а | b | с |
|---|---|---|
| Ботаніка | Ботаніка | Зоолёгія |
| Фізыка | Фізыка | Ботаніка |
| — | — | Фізыка |

Студэнт мае права працаваць толькі ў аднэй падгрупе,—значыцца, з двума прадметамі. Як кончацца заняткі па падгрупам а, b, с, а затым па групам А, В, С, час якім адведзены аднолькавы, тады ідзе зьмена сярод іх месцамі:

а, b, с; b, с, а; с, а, b,—АВС, ВСА, САВ.

Між цыклямі А, В, С даецца тыднёвы перарыў. Чытач мусіць ужо сьцяміў, што ў цыклях няма агульных дысцыплін. Дык гэта здарылася патаму, што ня было часу ў гэтым годзе і кіраўнікоў, каб згрупаваць іх у новы цыкль. Дзеля іх адведзен асаблівы дзень у тыдзень, у які чаргова яны й выкладаюцца.

І так, вось з маленькімі зьменамі, пакідаючы нярухомым агульны прынцып, разьмеркаваньне йдзе па ўсім курсам.

Калі мы возьмем, напрыклад, другі курс, дык тут, побач з лябораторна-групавой пераапрацоўкай прадметаў, выкладаюцца яшчэ сыстэматычна лекцыі па некаторым прадметам. Але прынцып 4-х гадзін на працу ў інстытуце нярухомы.

Вось расклад часу II курсу[1]).

| Лекцыі | Групавыя заняткі | | |
|---|---|---|---|
| У дзень лекцыйна 2 гадзіны выкладаецца які небудзь прадмет, напрыклад, політычная эканомія. | Па дзьве гадзіны ў дзень працуюць групы, напрыклад, | | |
| | а | b | с |
| | па фізыолёгіі жывёл. | па фізыолёгіі расьлін. | па с.-г. машынам. |

Чацьвертаму курсу адводзіцца больш вольнасьці і яшчэ больш самастойнасьці ў працы. Студэнты тут большую маюць падрыхтоўку, маюць шырэйшыя веды і патаму тут асаблівая ўвага адводзіцца сэмінарскай працы, заслухоўваньню дакладаў, рэфэратаў. Адносна гэтага курсу камісія выкажыла вось якую думку:

„Найбольшую самадзейнасьць студэнт павінен праявіць на апошнім курсе, дзе ён ужо абавязкова самастойна апрацоўвае пытаньні сваёй спэцыяльнасьці; яго сэмінарская праца павінна быць тут ужо заснавана на самастойным вывучэньні літаратуры і сваіх высьледчаньнях“.

[1]) Глядзі дадатак.

### Праца па групам і паверка ведаў.

Як жа вядзецца праца па гэтым групам у 20 студэнтаў. Мо профэсар толькі замест 100—200 студэнтаў выкладае лекцыі гэтай маленькай кучцы. Калі-б толькі было так, то тады мы ня мелі-б амаль ніякіх дасягненьняў. У аснову тут бязумоўна лажацца пастановы камісіі. Адну, дзьве лекцыі профэсар адводзіць дзяля агульнага знаёмства студэнтаў з прадметам. Тут ён падкрэсьлівае значнасьць яго, галоўнае на што трэба зьвярнуць увагу. Далей пачынаецца па ўказанаму матар'ялу самастойная праца.

Профэсар зьяўляецца ў групе сярод студэнтаў старшым таварышом, кіраўнікОм гэтай працы. Ён праводзіць з імі гутаркі, растлумачвае тыя ці іншыя пытаньні. У канцы праработкі прадмету профэсар дае заключную лекцыю, у якой акругляе, падагульвае пройдзены матар'ял.

Бязумоўна, што ў гэтым годзе ў залежнасьці і ад самога профэсара і ад другіх, тых ці іншых прычын, ёсьць адступы. Напрыклад, некаторыя кіраўнікі проста прыступаюць да працы ў групе бяз ніякіх агульна-накіроўваючых лекцый, не даюць у канцы заняткаў гэтак сама агульна-абхапляючай лекцыі па дысцыпліне. Ёсьць адзінкі, якія наагул ня ўмеюць добра падысьці да працы. Але, ня гледзячы на ўсё гэта, можна зацьвярджаць, што новы мэтод працы па групам праламляецца.

Веды студэнтаў выяўляюцца тут ужо не залікам з аднаго двух пытаньняў, а ў працягу самае працы. Кожны студэнт матар'ял апрацоўвае дома і потым на агульнай гутарцы ў штодзённай працы ня толькі выяўляе свае веды, а й замацоўвае іх. *Па сканчэньні заняткаў проста ставіцца залік, альбо не залік.* І тут у пытаньні контроля студэнцкіх ведаў гэтак сама ёсьць маленькія адступы. Некаторыя з кіраўнікоў праводзяць яшчэ агульную гутарку пасьля пройдзенага курсу па прадмету, а некаторыя яшчэ па старой прывычцы любяць пагутарыць з кожным асобна і надта ня любяць, калі хто з групы раней адкажа на пытаньне, чым сабяседнік. Але гэта ня мае асаблівых адмоўнасьцяй. Тым студэнтам, якія па тым ці іншым прычынам, а такіх надта, як паказала практыка, мала—бывае з групы адзін, два, ня больш, даецца магчымасьць папрацаваць яшчэ і потым атрымаць залік, але так, каб гэта ня шкодзіла яго далейшай працы у новай групе. На гэта ёсьць такі парадак.

Калі студэнт, напрыклад, працуе па энтомолёгіі і ня палучыць заліку, дык ён, ня гледзячы на гэта, ідзе працаваць у наступны цыкль, напрыклад, па фізыолёгіі расьлін, і здае энтомолёгію тады, як здасьць фізыолёгію. Па нашаму раскладу гэта праз пэрыод у два тыдні.

Нам трэба ўспомніць і аб тым, што па некаторым прадметам яшчэ выкладаюцца проста лекцыі,—як жа там стаіць пытаньне з паверкай ведаў у студэнтаў? І там адчуваюцца маленькія дасягненьні. Пасьля таго, як скончана выкладаньне, выкладчык праводзіць дзьве-тры агульныя гутаркі і потым ужо заканчвае звычайным старым мэтодам апросу адзінак.

Ёсьць выпадкі, што гутарка праводзіцца па групкам у 4—5 студэнтаў, але на гэта асобай пастановы яшчэ няма

### Вучоба і продукцыя.

Працуючы над пытаньням аб зьмене выкладаньня, камісія не павінна была абысьці ня менш сур'езнага для Вышэйшай школы пытаньня: вучоба і продукцыя. І зараз з гэтым пытаньнем справа стаіць так.

Першы і другі курсы вясною павінны выяжджаць на вучэбную практыку да вучэбных фэрм, саўхозаў і другія мясцовасьці. Па сваёй сутнасьці праца студэнтаў гэтых курсаў там будзе зьяўляцца як-бы праця-

гам зімовай працы. Яны будуць знаёміцца з агульнай пастановай гаспадарак, с-г. машынамі, практычна будуць зацьвярджацца веды па геодэзіі, сістэматыцы расьлін і г. д. Часу адводзіцца дзеля гэтых курсаў па 2 м-цы.

Студэнты трэцяга курсу на 3—4 м-цы едуць на самастойную працу, як практыканты (агроучасткі, саўхозы, лясьніцтвы, вопытныя станцыі). Мы думаем, пастановы на гэта яшчэ няма, што некаторых студэнтаў (тых, якія не знаёмы з простай с.-гаспадаркай) трэба-б было пасланць не як практыкантаў, а як чорнарабочых, куды небудзь у саўхозы, альбо колектывы, дзеля таго, каб яны добра такі пазнаёміліся з простай с.-г. працай. Студэнты IV курсу едуць у саўхозы, агроучасткі і г. д. ужо дзеля самастойнай вольнай працы. Цягнецца яна 4—6 месяцаў. За гэты час студэнт адбывае, заканчвае сваю прамысловую працу. Разьбіваецца яна на дзьве часткі:

Першая—студэнт павінен выявіць сябе як агроном, лясьнік, напрыклад: ст. агроном на месцы за гэты час вядзе высьледчую працу па свайму раёну. Ён тут павінен дасканальна пазнаёміцца з экономічным становішчам, глебамі, севазваротамі гэтай мясцовасьці і потым, пры справаздачы, вылажыць сваю думку аб палепшаньні працы ў гэтым раёне і падкрэсьліць таксама, што ім было зроблена дзеля палепшаньня яе.

Другая—студэнт распрацоўвае тэму (так званая дыплёмная праца) па аднэй з галін: расьлінаводзтва, жывёлаводзтва, экономікі, садаводзтва і агародніцтва.

Анолёгічную працу праводзяць і лясьнікі. Тое, што зроблена камісіяй у гэтым напрамку, бязумоўна, ня ёсьць канчатковае. На сучаснай сувязі вучобы з продукцыяй, мы лічым, што яшчэ ня будзем мець агрономаў і лясьнікоў, якія-б бяз ніякай апаскі з лаўкі ВУЗ'у пайшлі да самастойнай працы ў тых ці іншых с.-гаспадарках, лясьніцтвах.

Між продукцыйнай працай і працай інстытуцкай ёсьць яшчэ немалое расхаджэньне й аб зьнішчэньні гэтага трэба як студэнцтву, так і камісіі падумаць.

## Перавага новага мэтоду і труднасьці ў правядзеньні.

Новы мэтод выкладаньня, бязумоўна, ня ёсьць нешта ідэяльнае. Але ўсёж-такі супроць старой сыстэмы, якой мусіць ніхто ўжо шчыра ня будзе абараняць, як гэта й вышэй было відаць, ён мае толькі дадатнасьці. І калі некаторыя з студэнтаў сьпярша сумна глядзелі на навінкі ў вучобе, дык цяпер гэтая сумнасьць зьнішчаецца; яны ўжо кажуць, што праўда—прамень сонца заглядвае ў працу Вышэйшай школы.

Ды і як не гаварыць. Перавага ў працы за некалькі месяцаў, як на далоні.

Адмоўнасьці, якія мучылі студэнта, зьнішчваюцца. Спакойная, санлівая аўдыторыя зьмяняецца галоснай, размоўнай групкай.

Бесьсвядомная зуброжка прадмету зьмяняецца сьвядомай апрацоўкай яго. Практычныя заняткі маюць самую цесную сувязь з тэорытычнымі пытаньнямі. І калі ўзяць, напрыклад, заняткі па с.-г. машынам (II к.), дык тут, пасьля агульных гутарак, студэнты разьбіваліся на падгрупкі па 3—4 тав. і дасканальна ашчупвалі кожны патрэбны дзеля іх паасобнік. Некаторыя студэнты старэйшых курсаў, якія ўжо здавалі залікі, проста прасіліся, каб дазволілі ім папрацаваць такім парадкам.

Профэсар пры такой пастанове інакш і ня можа быць, як старэйшым таварышом—кіраўніком працы.

Абавязкова разьвіваецца самадзейнасьць студэнта і заметна павышаецца якасьць яго ведаў.

Цікава адзначыць, што за гэты кароткі час ужо прыходзіцца чуць ад некаторых выкладчыкаў, праціўнікаў навінак у школе, што веды сту-

дэнтаў пры такой працы куды дадатней і нават адмаўляюцца прынімаць залікі (у тых, хто мае яшчэ хвасты), адсылаючы да групавой апрацоўкі прадмету.

Гэтыя прыклады падкрэсьліваюць, што Інстытут у рэформаваньні выкладаньня стаў на правіловы шлях, на якім ён з кожным днём будзе адчуваць сябе магутней.

Але як-бы яно добра ня было, якія-б дасягненьні ня былі, усе-ж ня трэба гаварыць, што ўсё гладка, усё йдзе як па маслу.

„Новая школа,—сказаў тав. Пакроўскі,—у 5 разоў будзе каштаваць больш, як старая“.

І ўжо адно гэта пры нашым небагатым становішчы будзе больш-менш затрымліваць імкненьні хутчей вызваліцца ад адмоўнасьцяй у будаўніцтве Вышэйшай школы. Вядома, што больш продукцыйная праца будзе тады, як будзе хватаць падсобнага матар'ялу: кніг, падручнікаў, добра будуць абстаўлены ляборыторыі для практычных заняткаў і г. д.

Далей, групавая праца патрабуе больш кіраўнікоў. Продукцыйнасьць працы бязумоўна патрабуе й большай увагі з боку пролетарскага студэнцтва, большай затраты энэргіі дзеля гэтае працы. Зараз, пры сучаснай сыстэме вучобы, няма ды й ня павінна быць тэй „вольнасьці“, якая была раней—пайду на лекцыю—добра, а ня пайду—яшчэ ляпей. Ляборатарна-групавы мэтод патрабуе сур'ёзнай працы. Досыць ня сур'ёзнасьці ў ВУЗ-е. Ён павінен ажыць, зацьвісьці працай рабоча-сялянскага студэнцтва. А гэта, бязумоўна, патрабуе палепшаньня аго матар'яльнага становішча.

Другая, таксама важная прычына—інэртнасьць часткі профэсуры. Напрыклад, некаторыя з іх, замест таварыскіх гутарак па групах, апрацоўкі і пашырэньня таго, што студэнты знойдуць у указаным матар'яле, адчуваюць сябе што дзень „экзаменатарамі“, пагражаючы нават плюсам альбо мінусам. Бязумоўна, што такой дзіцячай хваробы ня будзе. Але гэта—адмоўнасьць. А ўсякая такая адмоўнасьць піхае студэнта проста на думку аб яго старой гнілой „вольнасьці“.

Трэцяя тэхнічная труднасьць—гэта „хвасты“ студэнтаў. Як не старалася камісія збавіцца ад іх, больш-менш згрупаваць студэнтаў, падраўняць іх веды,—усё-ж ёсьць такія, якім побач з тым, што трэба працаваць у групе, трэба яшчэ падганяць свае „хвасты“. А такое становішча ўжо больш-менш аднімае студэнта ад больш сур'езнай працы ў групе. Асабліва ў гэтае, так званае, пераходнае паўгодзьдзе і часу адведзена менш (першае паўгода амаль прапала дарам, затым, што, як гэта й гаварылася вышэй у адмоўнасьці старой сыстэмы, студэнты першыя месяцы зусім не працуюць, а толькі як-бы слухаюць) наагул дзеля прахаджэньня дысцыплін курсу і яшчэ трэба займацца „хвастамі“.

Далейшая праца па рэформаваньню і ўвязка новага мэтоду з агульнай працай студэнцтва. Як раней студэнцтва напіхнула выкладчыкаў і непасрэдных кіраўнікоў інстытуту для зьмены выкладаньня, так цяпер студэнцтва павінна, як толькі можна актыўней, прынімаць удзел у далейшым правядзеньні новага мэтоду. Дзеля гэтага ў нас створан інстытут, альбо рада (назвы яшчэ на мае), старастат. У кожнай групе і падгрупах маецца староста. Амаль кожны тыдзень яны склікаюцца камісіяй дзеля абгаварэньня тых ці іншых бягучых пытаньняў. Пэрыодычна, раз у месяц, у два склікаюцца агульныя пасяджэньні выкладчыкаў і стараст. Ёсьць надзея, што пры такой пастанове працы, дзіцячыя ўхілы (адгэтуль дагэтуль, што дзень экзамены) будуць хутка выжыты.

Далей новы наш мэтод у сваёй большасьці яшчэ прыстасован да старых програм. Прадметныя камісіі яшчэ не змаглі пераапрацаваць іх дасканальна, за што бязумоўна у хуткім часе павінны ўзяцца. Трэба,

маючы ўжо маленькую практыку ў новым мэтоду, групе даць програму з падрабязнай распрацоўкай курсу дысцыпліны, дзе павінны быць указаны матар‘ялы для тэмы кожнай гутаркі. Мы ўжо гаварылі, што новы мэтод сыстэматызіруе ўсю працу студэнцтва. Тут расклад працы акадэмічнай ўжо ня ёсьць так сабе, абы толькі быў ён—для канцэлярыі, а студэнты маюць свой плян зусім другі, як па акадэмічным пытаньням, так і па агульна-студенцкай працы. Цяпер студэнт верыць у гэты расклад. І ўжо астатнюю працу (агульна-студэнцкая і інш.) ён павінен увязваць толькі з акадэмічнай, а ня махаць на апошнюю рукой—нічога, мо‘ сойдзе. Адгэтуль ёсьць і нараканьні некаторых т. т., якія кажуць: Цыклі, групавая праца то яна добра, але вось нешта замірае агульна-студэнцкае жыцьцё, студэнты перастаюць нават хадзіць (раней, дык хоць хадзілі) у гурткі. Але панашаму, гэта нічога іншага не гаворыць, як толькі тое, што трэба сыстэматызаваць нашу агульную працу. *Трэба сур‘езна ставіць пытаньне аб тым, каб політыка-асьветную працу (розныя гурткі) увесьці ў плян вучэбнай працы*[1]). Для рознай другой,—даць асаблівы дзень у тыдзень. Бо да гэтага часу, калі аглянуцца назад, дык ня было ні тэй, ні другой. У адзін і той-жа час з аднаго боку выкладаліся лекцыі, альбо рабіла пасяджэньне навуковае таварыства, а з другога—займаўся працай які небудзь гурток, альбо йшоў сход профсэкцыі, комсамольскай альбо партыйнай ячэйкі.

Годзе радзі фармальнасьці ўстаўляць палкі ў калёсы адно другому. Сталі на новы шлях акадэмічнай працы, ёсьць дадатныя вынікі, піхае жыцьцё на перабудоўку агульна-студэнцкай працы,—трэба брацца за перабудоўку, рабіць яе жыцьцёваю.

---

[1]) Дадаць у скобках, што з пачатку новага акадэмічнага году, абавязкова трэба ажыцьцёвіць гэтае пытаньне.

# ДАДАТАК.

## Агульны расклад прадметаў II курсу.

| Тыдні. | Лекцыі дзеля ўсяго курсу. | I група. | II група. | III група. |
| --- | --- | --- | --- | --- |
| 1. | Машыназнаўства. Метэоролёгія (агульна ўступныя). | Машыназнаўства. | Фізыолёгія дамашніх жывёл. | Фізыолёгія расьлін (заканчвалася) і мікробіолёгія. |
| 2. 3. | Гэолёгія (заканчвалася выкладаньне). | | | |
| 4. | ПЕРАРЫЎ. | | | |
| 5. | Палітычная эканомія (заканчвалася). | Энтомолёгія. | Глебазнаўства (заканчвалася). | Метэоролёгія. |
| 6. | | Энтомолёгія (морфолёгія і анатомія). | | |
| 7. | | Фізыолёгія расьлін. | Машыназнаўства. | Фізыолёгія дамашніх жывёл. |
| 8. | | Мікробіолёгія. | | |
| 9. | | Мікробіолёгія. | | |
| 10. | ПЕРАРЫЎ. | | | |
| 11. 12. | Агульная зоотэхнія | Глебазнаўства. | Энтомолёгія. | Глебазнаўства. |
| 13. 14. 15. | Агульнае земляробства. | Фізыолёгія дамашніх жывёл. | Мэтэоролёгія. | Машыназнаўства. |
| 16. 17. | | Мэтэоролёгія. | Фізыолёгія расьлін і мікробіолёгія | Энтомолёгія. |

Беларуская мова выкладаецца па суботам. У гэты дзень у тыдні больш ніякіх заняткаў няма.

М. Сандамірскі.

# Аб мэтодзе выкладаньня на мэдфаках *).

Усё выкладаньне на мэдфаку пабудавана на тым прынцыпе, што процэс прысваеньня пачынаецца раней усяго з наглядальнасьці.

На гэтай аснове ў першую чаргу йдуць практычныя заняткі, без якіх студэнт не дапускаецца к тэорытычнаму экзамену.

Пры гэтым дапускаецца, што студэнт, які раней адпрацаваў „практычныя", зможа сьвядома выўчыць тэорыю. Вопыт-жа паказвае, што гэтым мэта нісколькі не дасягаецца.

Студэнцтва ў большай часьці сваёй адпрацоўвае практычныя выключна мэханічна, формальна, наемна, нісколькі не ўглыбляючыся ў рознабаковыя складнейшыя процэсы.

Возьмем анатомію. Гэта грунт мэдыцынскай адукацыі. Як-жа яна праходзіцца?—формальна й наемна.

Пры практычных занятках студэнцтва выяўляе вельмі мала ініцыятывы.

У параўнаньні з іншымі прадметамі анатомія яшчэ праходзіцца адносна. Іншыя-ж неабходныя прадметы, як гістолёгія, эмбрыолёгія й фізыолёгія праходзяцца вельмі дрэнна. Практычныя працы па гістолёгіі зводзяцца к таму, што студэнт, альбо змалёўвае з дошкі, альбо, у лепшым выпадку, к мэханічнай капіроўцы з прэпарату, не адрозьніваючы нават слаёў і формы разрэзу.

Гэткім чынам студэнт адбывае сваю „павіннасьць" па практычнай фізыолёгіі, не разьбіраючыся ў розных складнейшых зьявах. І толькі пасьля здачы тэорытычнага экзамену, больш паважаны студэнт з шкодай аглядваецца на незваротнае мінулае. „Ах, як бы добра разьбіраўся ва ўсім гэтым цяпер". Гэтыя факты і вывады не выпадковыя, яны падцьвярджаюцца і пэдагогічнай думкай.

Профэсар Сокалаў у сваёй кнізе „Мэтоды комплекснага выкладаньня", крытыкуючы сыстэму Лая, між іншым, кажа наступнае: „Для чалавека навукі наглядальнасьць сама па сабе—мёртвая й нудная праца, калі-б яна не ўзбуждалася падзеяй праверыць якое-небудзь дапушчэньне альбо тэорыю і не зьяўлялася-б сродкам для вядомых вывадаў".

Гэткая-ж і псыхолёгія студэнта, ня мае прад сабой ніякай азначанай мэты альбо цікавасьці, праца становіцца нуднай і зводзіцца к адбываньню „павіннасьці". Ён стараецца рабіць як можна скарэй і больш лікам, жадае мець залік.

А цікавасьць к працы неабходна й магчыма разьвіць. Гэта можна было-б дасягнуць толькі папярэдняй тэорытычнай падрыхтоўкай студэнта.

Гэткім чынам, практычней было-б зьмяніць мэтод выкладаньня ў такі бок: раней тэорытычны экзамен, а потым толькі практычныя заняткі. Тады толькі магчыма выпрацоўка імкненьня студэнта к праверцы сваіх тэорытычных ведаў.

На гэта могуць, запэўна, адказаць, што тут, па сутнасьці кажучы, нічога новага няма, лекцыі чытаюцца і вось вам тэорытычная падрыхтоўка. Але справа ў тым, што лекцыі то чытаюцца, але хто-ж іх слухае і перапрацоўвае. Ды, нарэшце, навошта іх слухаць, калі экзамен за гарамі,

*) Рэдакцыя просіць т.т. студэнтаў высказацца па зачэпленаму пытаньню.

часам праз год, альбо два. Вось на практычных трэба пабываць: змаляваць прэпарат, мэханічна распрэпарыраваць жабу, а галоўнае—гэта адзначыцца, а то да экзамену потым не дапусьцяць.

У апошнія тыдні зімовага трымэстру профэсар гістолёгіі Маўрадзіядзі папытаўся часткай вырашыць гэту проблему. Ён выпрацаваў сыстэму дакладаў з боку самых студэнтаў у час практычных заняткаў. К кожнаму занятку адзін альбо два студэнты павінны па чарзе падрыхтавацца тэорытычна й практычна к аднаму прэпарату і аб ім дакладваць усёй групе.

Экспэрымэнт гэты аказаўся часткова карысным, але толькі часткова, бо пры такой сыстэме кожны студэнт прысвойвае толькі адзін альбо два прэпараты, к якім ён і падрыхтоўваецца. З другога боку гэты нязначны плюс ня выбаўляе вялізнага мінусу. Справа ў тым, што астатняя група, раней не падрыхтаваўшыся, многа менш прысвоіць са слоў свайго тавірыша, далёка не пэдагогічна тлумачучага, чым бы яна прысвоіла з тлумачэньня выкладчыка-асыстэнта.

Падобныя гэтым экспэрымэнты прарабляюцца й цяпер некаторымі асыстэнтамі па анатоміі, як, напрыклад, д-рам Іргерам, але вынікі тыя-ж, што й па гістолёгіі. Гэтыя экспэрымэнты гэтак сама гавораць на карысьць майго дапушчэньня. Раней трэба паняць, а потым толькі сьвядома наглядаць.

**Д. Фіш.**

# На новыя рэльсы.

*(На рабфаку БДУ)*

Пытаньне аб пераходзе на Дальтон-плян стала ў нас на рабфаку амаль што ў пачатку вучэбнага году. Доўгі час гэта пытаньне займала грамадзянскія думкі нашага рабфаку. Хоць і ўсе сьвядома прысвоілі важнасьць гэтага пераходу, былі, аднак, сумненьні, ці зможам мы ў нашых умовах вытварыць гэткі перапом у мэтодах выкладаньня: сумненьні, практычна ці магчыма гэта рэволюцыя ў нашых рабфакаўскіх умовах, і страхата яе выніку.

Нарэшце, пасьля доўгіх абмяркоўваньняў, і пасьля таго, як наш прадстаўнік азнаёміўся з пастаноўкай Дальтон-пляну на адным з Ленінградзкіх рабфакаў, мы рашылі перайсьці не на Дальтон-плян, а на ляборaторны мэтод, як папярэджаньне к Дальтон-пляну.

І вось з другога лютага мы перайшлі на новыя рэльсы вучобы.

З таго часу прайшло два месяцы. Гэтага часу, запэўне, ня досыць, каб канчаткова зрабіць падрахунак нашай справе, але ўсё-ж хоць якія вывады магчыма зрабіць.

У грунтоўным лябораторны мэтод зводзіцца к таму, што слухач не атрымоўвае вучэбны матар'ял у пeражованым відзе; яго чарапная каробка не зьяўляецца рэзэрвуарам, куды выкладчык улівае „гатовыя веды", а гэтыя веды ён павінен дасягнуць сваёй актыўнай самастойнай працай над сырым матар'ялам. З „рэзэрвуару" яго галава зьмяняецца ў „ляборaторыю". Гэткая пераапрацоўка матар'ялу дае рабфакаўцу з аднаго боку звычку к самастойнай працы, што яму вельмі важна ў вышэйшай школе, з другога боку матар'ял, дабыты сваёй працай, многа больш застаецца ў памяці, чым наносны.

Згодна гэтаму прышлося вытварыць некаторыя зьмены ў кляснай абстаноўцы. Ранейшыя аўдыторыі, зьмяшчаўшыя толькі парты і клясную дошку, былі пeратвораны ў ляборaторыі, дзе знаходзяцца кнігі й іншыя

вучэбныя прылады. Лябараторыі ўтвораны па аддзельным дысцыплінам, адкуль студэнтам прыходзіцца вясьці не „аселы“, а „вандроўны“ спосаб жыцьця, з аднэй лябараторыі ў другую. Тут, аднак, мы сустрэлі некаторыя перашкоды: з-за адсутнасьці здавальняючага ліку аўдыторый, у некаторых з іх прышлося сумясьціць па дзьве лябараторыі. Гэтыя абставіны досыць адбіваюцца на ходзе заняткаў.

Гэтак сама патрэбна было зьмяніць расклад лекцый. Раней у нас былі лекцыі па гадзіне, што не давала магчымасьці рабфакаўцу асяродзіцца на тым ці іншым прадмеце. Толькі пачнеш разварачвацца, як „грозны званок“ апавяшчае, што скончылася лекцыя і пасьля пяцёххвіліннай перамены трэба будзе брацца за другі прадмет. Цяпер устаноўлены двух і трохгадзінныя лекцыі, што дае магчымасьць больш ці менш папрацаваць. Запэўне, і цяпер кожны рабфакавец абмяжован у сваім часе, бо расклад заняткаў цьвёрда ўстаноўлены, рабфакавец у сваю чаргу зьвязан з сваёй групай, але ўсё-ж пры гэткай раскладцы праца больш карысна.

Асаблівае месца пры лябараторным мэтодзе займае пытаньне заданьняў. Заданьні тут павінны быць точна разьлічаны, ясна формуляваны. У першы час, прызнацца, выкладчыкі крыху перагнулі кій. Яны задавалі многа матар'ялу для пераапрацоўкі і, каб справіцца з гэтымі заданьнямі, слухачом прышлося дома працаваць, што не пажадана й не дапушчальна пры лябараторным мэтодзе. Але пасьля ўказаньняў студэнтаў, выкладчыкамі ўжо выпрацоўваюцца нормальныя заданьні, якія ў кожным аддзельным выпадку зацьвярджаюцца прадметнымі камісіямі. Заданьні разьлічаны на сярэдняга слухача; хто спраўляецца з гэтымі заданьнямі ў меншы лік часу, таму даецца дадатковае заданьне (максімум). Для слабых-жа таварышоў, якія ня змогуць справіцца з заданьнямі ў вызначаны час, устаноўлены дадатковыя часы, у якія пры лябараторыі знаходзіцца дзяжурны выкладчык.

Хворае месца ў нас—гэта пытаньне праверкі ведаў і конфэрэнцыі Час абмяжован, і выкладчыку не ўдаецца ў гэты час праверыць выкананьня слухачамі заданьня. Раней мы практыкавалі пісоўныя конспэкты, якія правераліся выкладчыкамі Гэты мэтод, аднак, ня даў добрых вынікаў. Пры мэтодзе конспэкціраваньня студэнту прыходзіцца ўвесь час займацца пісаньнем, што з аднаго боку вельмі яго ўтамляе, з другога боку пісоўныя адказы як-бы атрафіруюць разьвіцьцё вуснай мовы, у чым рабфакаўцу ня меншая патрэба, як і ў пісоўнай. Студэнту, у сваю чаргу, пажадана напісаць конспэкт, як можна прыгажэй, часу-ж у яго распараджэньні мала, і вельмі часта з-за формы конспэкту пакутвала самая пераапрацоўка матар'ялу. Прышлося крыху скараціцца з конспэктамі. Але вышла другая непажаданая зьява: конфэрэнцыі, якія прызначаны для абагульваньня ўсяго пройдзенага матар'ялу, для паказаньняў выкладчыкаў, скарыстоўваліся выкладчыкамі для індывідуальных апытваньняў. Гэта зьменшала ролю конфэрэнцыі, маючую гэткае важнае значэньне пры лябараторным мэтодзе.

Гэта пытаньне й па наступны час канчаткова яшчэ ня вырашана. Але што-небудзь у гэтым напрамку ўжо зроблена. Перш на-перш павялічан лік часоў для конфэрэнцый, далей, паверка заданьняў, па магчымасьці, вытвараецца выкладчыкамі ў працэсе лябараторнай працы.

Пытаньне рацыянальнага скарыстаньня часу студэнтам гэтак сама займае асаблівае месца ў новым мэтодзе выкладаньня. Праўда, гэта пытаньне абмяжоўваецца лябараторным мэтодам, толькі Дальтон-плян можа канчаткова навучыць рабфакаўца рацыянальна скарыстоўваць свой час, працаваць. Але й пры лябараторным мэтодзе крыху дасягнута ў гэтым напрамку. Ужо тыя акалічнасьці, што матар'ял апрацоўваецца ў клясе,

ня чытаюцца лекцыі, якія дома павінны апрацоўвацца, значна скарачаюць рабочы час студэнта. Запраўды, калі аглянуцца назад, то валасы дыбам становяцца: рабфакаўцу, апроч тых 8-мі гадзін, якія ён аддаваў клясным заняткам, прыходзілася амаль што стольki-ж дома працаваць, каб не адстаць ад групы, і гэта пры рабфакаўскім кармленьні.

Само сабой вядома, што асобы, якія хоць крыху заняты грамадзянскай працай, адставалі ад заняткаў. Вядома, што і цяпер некаторыя рабфакаўцы працуюць дома, але мы вядзём барацьбу з гэтай зьявай. Наша задача—усю працу перанясьці ў лябораторыі.

Ясна, што разам з дадатнымі бакамі лябораторнага мэтоду, маецца цэлы шэраг недахватаў, але паўсядзённай упартай працай мы іх зьнішчым. Акадэмсэкцыя і прадметныя камісіі цяпер займаюцца вывучэньнем усіх практычных недахватаў лябораторнага мэтоду. Мы цяпер займаемся намацваньнем лепшых форм пастаноўкі навуковай справы.

Лябораторны мэтод у сваю чаргу зьяўляецца яшчэ мерай напалову, але ўсё-ж грунтоўныя моманты лябораторнага мэтоду сябе апраўдаюць. Звычку да самастойнай працы, вуменьне рацыянальна скарыстоўваць свой час рабфакавец атрымае. Гэта палегчыць канчатковы пераход на Дальтон-плян

**О. Крэмэр.**

# Аб формах арганізацыі пролетарскага студэнцтва.

Неабходнасьць утварэньня ў вышэйшай школе пролетарскага асяродку, апіраючыся на які партыя змагла-б з посьпехам зьдзейсьніць поўную пролетарызацыю яе, прызвала два гады таму назад да жыцьця адпаведныя гэтай задачы формы арганізацыі пролетарскага студэнцтва—профсэкцыі. Цяпер, пасьля двух гадоў працы профсэкцый у ВНУ-ах ёсьць магчымасьць, на падставе маючагася досьледу, сказаць, што профсэкцыі зьяўляюцца адзіна-правільнай формай студэнцкіх арганізацый. Запраўды, увязка працы студэнцкіх профсэкцый з адпавядаючымі профэсыянальнымі організацыямі ў папрамку правядзеньня масавай культурна-прасьветнай працы сярод сяброў профсаюзаў, асяродкаваньне ўсіх галін працы ў сярэдзіне ВНУ, далі толькі дадатныя вынікі. Але поруч з маючыміся аграмаднымі дасягненьнямі ў гэтай працы, ня выстарчаючая азначанасьць і аформаванасьць будовы, функцый і ўзаемаадносін, як паміж профсэкцыямі, так і між аддзельнымі іх органамі, прысутнасьць вельмі вялікае колькасьці профсэкцый у ВНУ, часта наглядаючыся паралелізм у працы, зьяўляюцца дасюль адмоўнымі момантамі працы студэнцкіх організацый. У напрамку максімальнага скарачэньня студэнцкіх організацый у сярэдзіне ВНУ, упрашчэньня будовы іх, выжываньня паралелізму і недапасаванасьці ў працы павінна праводзіцца распачатая рэорганізацыя профсэкцый. Упоўне адказвае задачам упрошчаньня студорганізацый пастанова VI ўсесаюзнага зьезду профсаюзаў па гэтаму пытаньню. У выніку гэтае рэорганізацыі студэнцкія организацыі ў канчатковым відзе будуць мець наступную будову. У шматфакультэцкіх ВНУ на кожным факультэце (за выключэньнем рабфакаў) будзе знаходзіцца толькі адна профсэкцыя. Профком гэтае профсэкцыі і будзе адзіным органам, які праводзіць на факультэце ўсю організацыйную і культурна-асьветную працу. Пытаньне аб перадачы профкому кіраўніцтва таксама і акадэмічнай працай на даным факультэце зьяўляецца спрэчным. І пэўне, прыдзецца спыніцца на такіх формах удзелу профкому ў акадэмічнай працы на факультэце, па якіх з

аднаго боку ён быў-бы ў справе працы прадметных камісій і прадстаўніка студэнтаў у дэканаце ф-та, а з другога—захоўвалася-б адзінае кіраўніцтва акадэмпрацай ВНУ па агульнаму пляну з боку акадэмсэкцый Выканбюро. Ніякіх дапамагаючых органаў пры профкомах у відзе аддзелаў, сэкцый і інш. для спаўненьня аддзельных галін працы, утвараць ня варта. Уся праца выконваецца профкомам у цэлым, а па заданьням апошняга—аддзельнымі сябрамі профкому, выдзяляемымі для правядзеньня тэй ці іншай працы. У рабфаках, якія азначанага ўхілу па азначанай спэцыяльнасьці ня маюць, і ў якім сьледам гэтага застаецца цэлы шэраг профсэкцый, пабудаваных па прынцыпу прыналежнасьці к саюзу да паступленьня на рабфак, неабходна імкнуцца к таму, штоб колькасьць профсэкцый была зьведзена па магчымасьці да мінімуму, шляхам перадачы ў адпаведныя профсаюзы, маючыя на рабфаку шматлікавыя групы, сяброў малалікавых групаў.

Для правядзеньня на рабфаку культурнай і асьветнай працы, у зьвязку з адсутнасьцю там аднаго профкому, якому можна было-б гэту справу даручыць, застаецца факком, выбіраемы на агульным сходзе студэнтаў рабфаку. Пры чым, кіраўніцтва працай профсэкцый рабфаку зьдзейсьнічае непасрэдна Выканбюро ВНУ; факком гэтай працай не займаецца.

Для кіраўніцтва працай профсэкцый у агульна ВНУ маштабе застаецца, як і раней, Выканбюро. Напрамак і кіраўніцтва працай профсэкцый па аддзельным галінам Выканбюро зьдзейсьнічае праз утвараемыя пры ім сэкцыі—культурна-асьветную і акадэмічную.

Неабходна выканбюро разгрузіць ад тэй гаспадарча-экономічнай працы, якой яна была нагружана дасюль. Праўда, матар'яльнае становішча студэнцтва, якое застаецца зусім недабрабытным, вымушае яшчэ студэнцкія організацыі на пытаньні матар'яльнага забясьпечаньня студэнцтва зварочваць найбольш энэргіі, часу і ўвагі. Гэтыя пытаньні павінны будуць і ў далейшым займаць значнае месца ў агульнай дзейнасьці студэнцкіх організацый. Усё-ж такі трэба адмовіцца ад таго, каб розныя прадпрыёмствы, як эксплёатуемыя для дабываньня прыбыткаў, так і непасрэдна абслугоўваючыя студэнцтва, знаходзіліся ў непасрэдным веданьні студорганізацый. Прадпрыёмствы гэтыя неабходна перадаць гаспадарч. аддзелу праўленьня ВНУ, а за студорганізацыямі пакінуць толькі нагляд за правільнай працай гэтых прадпрыёмстваў у напрамку скарыстаньня ўсіх магчымасьцяй для больш поўнага і лепшага абслугоўваньня студэнцтва. Студорганізацыі павінны быць толькі „толкачами“ ў пытаньнях матар'яльнае дастаўкі студэнцтву, але не беручы на сябе гаспадарчых функцый. Пры такіх умовах неабходнасьць у спэцыяльным экономічным органе пры выканбюро адпадзе, каардынаваньне і напрамак працы аддзельных сваіх прадстаўнікоў у розных камісіях па матар'яльнай дастаўцы студэнцтву зможа праводзіць непасрэдна выканбюро. Касы ўзаемадапамогі, як організацыі з мэтаю адшуканьня дапаўняючых сродкаў для аказваньня дапамогі сваім сябром, уцягваньне й прылучэньне да грамадзянскай працы і жыцьця масы студэнцтва, не ўваходзячых у склад профсэкцый, павінны заставацца і ў далейшым. Неабходна толькі дабіцца, каб касы ўзаемадапамогі запраўды сталі-б масавымі грамадзянскімі організацыямі.

На падставе вылажанага, агульная схэма пабудаваньня студорганізацый можа быць выяўлена ў наступным відзе:

На асноўных факультэтах—профкомы, на рабфаку—факком. У галаве ВНУ — Выканбюро, з культасьветнай і акадэмічнай сэкцыямі пры ім.

У ВНУ-ах, сябры профсэкцый якіх па вытворчай адзнацы цалком могуць быць аднесены к аднаму профсаюзу, гэта будова ўпрошчваецца

тым, што ўва ўсёй ВНУ будзе толькі адна профсэкцыя, а ў утварэньні выканаўчага бюро ня будзе неабходнасьці. Профком у такіх выпадках зьяўляецца адным студорганам у ВНУ.

У заключэньне трэба спыніцца яшчэ на адным пытаньні. У ўмовах, калі мы бяром цьвёрды напрамак на профарганізацыі ў ВНУ, асабліва важным зьяўляецца пытаньне аб магчымасьці прыёму ў профсаюзы масы яшчэ не арганізаванага студэнцтва. Асьцярожнасьць, з якою дасюль к гэтаму пытаньню падыходзілі нашы профарганізацыі, зусім зразумела і растлумачана. І ўсё-ж трэба адзначыць, што прыём у профсаюзы студэнтаў праходзіў ужо вельмі павольным тэмпам, дзеля адсутнасьці па гэтаму пытаньню азначаных і ясных паказаньняў. Неабходна будзе пагэтаму дабіцца таго, штоб гэтыя паказаньні вышэйшымі саюзнымі органамі былі дадзены. У падставу ўстанаўленьня катэгорыі студэнтаў, якія змогуць быць прынятымі ў профсаюзы павінна быць палажана соцыяльнае становішча і грамадзкая актыўнасьць. У першую чаргу гэта павінна распаўсюджвацца на сялян-беднякоў.

---

# Па Вышэйшых Навуковых Установах, Рабфаках, Тэхнікумах.

Б. Мушкацін.

## Нашы задачы.

Можна сьмела сказаць, што тыя задачы і абавязкі, якія выпадаюць на беларускае пролетарскае студэнцтва, шмат больш складаныя і шматбаковыя за тых, якія маюць нашыя сатаварышы ў другіх рэспубліках і краінах СССР. Факт разьмежаваньня Беларусі на дзьве часткі накладвае на нас, беларускіх студэнтаў, спэцыфічныя абавязкі і задачы, якія выцякаюць ня толькі з сягонешняга дня (у гсторычным сэнсе) Беларусі але таксама і з заўтрашняга. Беларусь зьяўляецца стыкам паміж СССР і Заходняй Эўропай. З гэтага боку мы больш усяго датыкаемся да капіталістычнага сьвету. А ў пэрыод будучых баёў тэрыторыя Беларусі, ужо аб'яднанай, нямінуча павінна зрабіцца арэнай клясавай барацьбы. К гэтай барацьбе наша студэнцтва павінна быць асабліва падрыхтована і падкована ідэолёгічна. Наш апарат улады ў Беларусі павінен быць гібкім і гнуткім, яго працаўнікі павінны ўладаць выключнай чэснасьцю і прыгоднасьцю. Для гэтага патрэбны веды і сур'ёзная падрыхтоўка. Гэта падрыхтоўка не павінна абмяжоўвацца спэцыялізацыяй і пэўнымі тэхнічнымі ведамі. К якой бы працы мы сябе ні рыхтавалі, мы ў той жа час павінны прымаць актыўнейшы ўдзел у грамадзянскай працы, разумеючы пад гэтым тэрмінам ня пустую фразу, а глыбокія дасканальныя веды грамады, стала быць веды марксызму й ленінізму. Гэтымі ведамі, апрача ўсіх іншых— тэхнічных, прыродазнаўчых і гуманітарных,—мы павінны ўзброіцца для ўмелай і пасьпешнай працы ў Беларусі ад сягоньня і ў Беларусі ад заўтра, тым больш, што Беларусь будзе ад нас патрабаваць гэтыя веды, веды па яе гісторыі, экономіцы, мове, быту, культурнай працы на вёсцы і інш. Незадарма наша Маскоўскае зямляцтва разгарнула энэргічную працу ў гэтым напрамку. У гэтым зямляцтве мы маем моцны фундамэнт нашае організацыі. Цяпер, відаць, наступае момант запраўднага аб'яднаньня раскіданых па ўсяму саюзу беларускіх зямляцтваў у адзіную організацыю. У гэтай справе—і ня толькі ў гэтай—вялізную ролю сыграе задуманая к выданьню часопісь.

„Роля газэты, аднак, не абмяжоўваецца адным распаўсюджваньнем ідэй, адным політычным выхаваньнем і прыцягваньнем політычных саюзьнікаў. Газэта—ня толькі колектыўны пропагандысты й агітатар, але нават і колектыўны організатар". Так пісаў т. Ленін у старой „Искры" (№ 4 май 1901 г.).

Гэтыя словы Леніна цалком датычацца і нас. Наша часопісь павінна будзе, з аднаго боку, заняцца політычным выхаваньнем студэнтаў-беларусоў, з другога—прыцягваць політычных саюзьнікаў з-за кардону, а па трэцяе—яна павінна будзе выканаць ролю колектыўнага організатара пролетарскага студэнцтва і вучнёўскай моладзі.

Янка Аленін.

# Беларусізацыя на Рабфаку.

Менскі Рабфак Б Д У на наступны вучэбны 25—26 год (зноў, калі толькі будуць надрукаваны беларускія падручнікі) пастановай прэзыдыуму Рабфаку пераводзіцца аканчальна на выкладаньне ўсіх дысцыплін на беларускай мове – першы і другі курс рабфаку. А дзеля гэтага ўжо з 1924—25 вуч. году пачалі выкладацца побач з другімі дысцыплінамі беларуская літаратура, гісторыя і географія. Адносіны рабфакаўцаў да заняткаў шмат лепшыя, чым гэта было ў 22- 23 вуч. годзе. А ў зьвязку з Дальтон-лябораторным плянам у рабфакаўцаў пабольшала актыўнасьць, выпаўненьне заданьняў па гэтым дысцыплінам. Відаць таксама вялікі пералом на рабфаку ў бок беларусізацыі ў самых настаўнікаў не беларусоў. Даказнасьцю служыць тое, што многія з настаўнікаў кожны тыдзень па некалькі гадзін колектывам займаюцца па беларускай мове. Праўда, гэтыя заняткі мала чаго даюць ім, бо гэтыя настаўнікі с цеплатою не аддаюцца яшчэ к заняткам на беларускай мове, а ўсё стараюцца адкладаць на лета. Далей, у гэтым годзе вельмі многа папоўнілася рабфакаўская бібліотэка каштоўнай беларускай літаратурай, якая разьбіраецца рабфакаўцамі для ўжываньня... Выпісваецца многа болей, як раней, беларускіх газэт і журналаў. Выпускаемая культасьветнай камісіяй рабфаку насьценная газэта часта на 60—70% запаўняецца матар'ялам на беларускай мове. Што датычыцца па-зашкольнай працы на беларускай мове, то тут у гэтым годзе многа дасягнута. Харавы гурток ужо ўвесь час працуе большасьцю над беларускімі песьнямі. Многа разьвіў сваю самадзейнасьць цяпер гурток беларускай культуры, які аб'яднаў усю па-зашкольную працу беларускага характару. Так, гэты гурток беларускай культуры, які ахапляў 118 чал. рабфакаўцаў, дзяліўся на гурткі: павышанага і паніжанага тыпаў. Павышаны літаратурны гурток ставіў сабе мэтай добра азнаёміць рабфакаўцаў з погляду новага жыцьця, з беларускай літаратурай і разьвіць літаратурную самадзейнасьць у самых рабфакаўцаў. Паніжаны-ж літаратурны гурток ставіў сабе мэтай азнаёміць пачаткова з беларускай мовай і літаратурай тых, якія паступілі першы год на рабфак. Быў таксама арганізаваны гурток па вывучэньню гісторыі рэволюцыйнага руху Беларусі, каб азнаёміць рабфакаўцаў з рэволюцыйным рухам Беларусі, бо гэтага ў рабфаку, як прадмэту, не выкладаюць. Акрамя гуртковай працы, культасьветнай камісіяй быў наладжаны 7 сакавіка г. г. першы літаратурны вечар, ахвяраваны беларускім пісьменьнікам і поэтам—адраджэнцу Янку Купалу і рэволюцыянэру Міхасю Чароту. Гэты вечар насіў чыста беларуска-самадзейны рабфакаўскі характар. Проста, пасямейнаму, без усялякай урачыстасьці рабфакаўцы абмяняліся думкамі з беларускімі песьнярамі, у асобе Янкі Купалы і Якуба Коласа, якія прысутнічалі на гэтым вечары. Рабфакаўская моладзь, моладзь рабочых і сялян, любіць тых, хто падымаў сваёй лірай наш беларускі працоўны люд да барацьбы за лепшае жыцьцё. Вось чаму рабфакаўцы горача спаткалі Янку Купалу і Якуба Коласа. Такім чынам, першая цаліна беларускай культуры на рабфаку Б Д У ўжо ўзорана. Новае папаўненьне рабфаку на наступны год беларускімі рабочымі на 40 проц. і сялянамі на 60 проц. болей узмацніць пачатую беларусізацыю рабфаку. І толькі пад кіраўніцтвам Комуністычнай партыі можа правілова, без усялякіх нацыянальна-шовіністычных хвароб, разьвівацца і праводзіцца ў жыцьцё нацыянальная політыка.

**Я. Марук**

# Ад шэфскай камісii да шэфскай грамады.

Ужо амаль што два гады прайшло, як вядзе шэфскую працу наш Менскі Рабфак БДУ. За гэтыя два гады многа чаго зроблена. Ні адна кампанія ў нашых падшэфных Грычынскім і Строчыцкім сельсав., Самахв. раёну, не праводзілася без гарачага ўдзелу Рабфаку. Так, з пачатку вучэбнага 1924 году было ўсіх толькі выездаў прыблізна каля 125. Асабліва праца шэфа выявілася ў час перавыбараў сельсавету, камітэту ўзаемдапамогі. Чуць ня ў кожным насялённым пункце сельсаветаў сход быў праведзен рабфакаўцамі. І вынікамі гэтай працы тое, што ў сельсаветы выбраны болей-меней працаздольныя, сумленныя людзі. Выбран нават у адзін з сельсаветаў наш рабфакавец. Але акрамя гэтых праведзеных розных кампаній, праводзіліся сярод сялянства гутаркі, чыткі газэт, чыталіся лекцыі і па гігіене, і па сельскай гаспадарцы. А ў час зімовых канікул 1924г. нават шэфкамісія пасылала аднаго рабфакаўца на цэлы тыдзень у падшэфны сельсавет для вывучэньня жыцьця і становішча падшэфнага сельсавету.

Выпісана былі ў кожны сельсавет па некалькі экзэмпляраў газэт „Савецкая Беларусь“, „Звезда“ і інш. Закуплены і атасланы ў сельсаветы невялічкія Ленінскія і сялянскія бібліотэкі. Зроблена была сярод рабфакаўцаў зборка каштоўных для вёскі кніг і пасьля адборкі таксама адаслана ў сельсавет.

Да нашага шэфства вёска ніколі ня бачыла кіно, і вось ужо шэфамі пасылаўся некалькі разоў кіно-апарат з харошымі, зразумелымі для сялянства карцінамі. Па ініцыятыве шэфа былі організаваны сэкцыі пры самых сельсаветах, як коопэрацыйная, культурная, сельска-гаспадарчая, куды ўцягнута многа сялянства і г. д.

Да прыняцьця шэфства сялянства нашых сельсаветаў ня цікавілася ніякай савецка-грамадзянскай працай. Некаторыя вёскі, як, напрыклад, Чаркасы пагалоўна займаліся вытворчасьцю самагонкі. Сходы сялянамі даведваліся дрэнна і праходзілі без усякай самадзейнасьці. Цяпер-жа сялянства раскачалася, стала прысутнічаць на ўсякіх сходах і цікавіцца савецка-грамадзянскімі пытаньнямі.

Такім чынам, пачатак змычкі гораду з вёскай рабфакаўцамі ўжо зроблен. Але гэта яшчэ толькі пачатак...А каб дасягнуць поўнасьцю, паленінску, **саюзу пролетарыяту гораду з сялянствам вёскі, трэба** ўсёй працоўнай грамадзкасьці гарадоў аб'яднацца ў адно цэлае і даць дапамогу ў культурным і політычным развіцьці сялянства. Дзеля гэтага, працоўная грамадзкасьць гарадоў: Ленінграду, Масквы, Менску і др. сёньня ўжо пачынае оргацізоўвацца ў шэфскую грамаду... Да гэтага часу ўся шэфская праца гораду вялася стыхійна, „пакустарнаму“. Так, напр.: у нас на Рабфаку яч. КПБ выдзяліла шэфкам у 20—25 чалавек і гэтая шэфкам праводзіла ўвесь цяжар шэфпрацы, у той час, як рабфакаўская гушча ў 400—450 чал. ня прымала ніякага ўдзелу ў шэфпрацы. І вось думка Ленінградзкага пролетарыяту аб організацыі шэфскай грамады найшла водгук і сярод працоўнай грамадзкасьці Менску. Пачаліся па Менскім фабрыкам і заводам і др. установам організовацца шэфскія грамады. Так, 17 сакавіка г. г. прайшоў сход шэфскай грамады пры Рабфаку БДУ. Ужо дабрахвотна асабова, пакуль што, запісалася 276 чал. З іх, акрамя рабфакаўцаў, запісалася 12 настаўнікаў Рабфаку. Есьць надзея, што ўся рабфакаўская гушча ў 400—450 чал. запішацца ў шэф. грамаду. На гэ-

тым сходзе выбрана праўленьне ў 9 чал., куды ўваходзяць два настаўнікі. Выбрана таксама 22 чал., так званых упаўнамоцных. Устаноўлен сяброўскі ўзнос па 10 кап. у м-ц з кожнага сябра-шэф. грамады. Прынят статут грамады і плян далейшай шэфскай працы. Цяпер ужо ёсьць усе даныя, што шефская праца будзе йсьці ня „кустарным спосабам“, а будзе выпаўняцца па пляну, організавана і выпаўняцца ўсёй гушчай шэфскай грамады. Шлях шэфскай працы пролетарыятам гораду ўжо знойдзен. І галоўнае, што трэба заўсёды памятаць шэфграмадзе,—гэта прысунуць к соцыялізму шляхам культурнага і політычнага разьвіцьця нашага саюзьніка—сялянства. І тады мы выпаўнім заветы Леніна, які казаў, што „уся загвоздка ў тым, каб пасоўвацца цяпер уперад не параўнана болей шырокай магутнай гушчай ня йначай, як разам з сялянствам, указваючы яму справамі і вопытам, што мы вучымся і навучымся яму дапамагаць, яго вясьці ўперод“ (з прамовы Леніна на XI партзьезьдзе ў 1922 г.).

Зярэнін.

# Наконт практыкі студэнтаў вэтэрынараў.

Беларускае студэнцкае зямляцтва
пры Маскоўскім вэтырынарным ін-це

Беларускае студэнцкае зямляцтва пры Маскоўскім вэтэрынарным інстытуце організавалася ў сакавіку 1924 г.

Да гэтага часу беларускага зямляцтва пры М. В. І. ня было, і асобныя студэнты-беларусы ўваходзілі ў зямляцтва пры Сьвярдлоўскім рабфаку.

У момант організацыі зямляцтва аб'яднала 30 студэнтаў; з іх:—19 дзеці сялян і рабочых,—7 дзеці служачых і—4 асобы прочых профэсій.

Галоўнай мэтаю зямляцтва была матар'яльная дапамога сваім сябром, але трэба адзначыць, што за недахваткам сродкаў у зямляцтве і вельмі абмяжованай дачай апошніх Ц. Б., дапамагчы ў больш-менш значнай меры ўсім патрабуючым было немагчыма. Культасьветная праца таксама не вялася. Канец навуковага году паставіў пытаньне аб вытворчай практыцы як для аканьчваючых, так і для студэнтаў вышэйшых курсаў, якім яна вельмі неабходна. Усе студэнты, якія выявілі пажаданьне працаваць у Беларусі, былі падлічаны, і ведамасьці й анкеты аб іх своечасова былі адосланы ў ЦБ. ЦБ павінна было дагаварыцца з Менскімі савецкімі ўстановамі і організацыямі, каб атрымаць ад іх заяўкі на патрэбны лік студэнтаў.

ЦБ некалькі разоў пасылала сваіх прадстаўнікоў у Менск, то з анкетамі, то з рознымі ведамасьцямі для высьвятленьня гэтага пытаньня.

Наш прадстаўнік на запытаньне: ці атрыманы ўжо заяўкі, на колькі асабаў і куды, атрымліваў адзін адказ: „Прадстаўнік у Менску, прыедзе і ўсё прывязе“. Але прадстаўнікі зьмянялі адзін другога, а заявак усё ня было. Урэшце заяўкі былі атрыманы толькі ад Савету Народнае Гаспадаркі, а па Наркамзему толькі на мэліоратараў, зоотэхнікаў, землябудаўнікоў. Наконт вэтэрынараў, відаць, забыліся, або лічылі іх лішнімі. Не адзін раз пасылаліся просьбы, але адказу ня было, між тым час праходзіў, навуковы год канчаўся.

У кожным ВУЗ'е пачалі працаваць камісіі па летняй практыцы, якія разглядалі заяўкі і пасылалі студэнтаў на практычную працу.

Вельмі не хацелася беларусом ехаць у губэрніі Р С Ф С Р; хацелася папасьці ў сваю родную беларускую вёску, папрацаваць сярод сваіх сялян, аддаць свае веды на справу адбудовы свае сельскае гаспадаркі. Але рабіць было нечага: час праходзіў, а НКЗБ заявак не прысылаў. Прышлося ехаць туды, куды пасылалі. Ад'яжджаючы на працу, многія сту-

дэнты ня ведалі чым растлумачыць маўчаньне Н. К. З. Б. Жывучы дома мы бачылі, як многа быдла гіне на вёсцы толькі таму, што некаму даць параду і навуковую дапамогу. На цэлыя раёны прыходзілася па 1-му, а ў лепшым выпадку, па 2 вэтэрынарных працаўнікі. На гэтым грунце поўнай кветкай расьцьвітае на вёсцы знахарства. Гэтыя знахары і канавалы бяскарна абіраюць жыхарства і прыносяць сялянскай гаспадарцы вялізную перашкоду.

Нарэшце мы паслалі свайго прадстаўніка ў Менск. Ён даведаўся ад Начальніка Цэнтральнага Вэтэрынарнага Упраўленьня, што заяўка была зроблена на 2-х студэнтаў, але дзе яна запрапала - даведацца не ўдалося. Трэба думаць, што яна знайшла сабе магілу ў кучы непатрэбных папер у ЦБ зямляцтваў, а нам так і ня прышлося яе скарыстаць.

Студэнты-беларусы, якія не папалі на вытворчую практыку і ў большасьці праслухалі курсы па працы на вёсцы, знаходзіўшыяся на вакацыях у вёсках і мястэчках, згодна прывезеным імі матар'ялам і дакладам, зацьверджаным адпавядаючымі мясцовымі ўстановамі ўлады, правялі там вялікую грамадзянскую і культурную працу.

Яны праводзілі з сялянамі гутаркі па розным пытаньням, працавалі ў хатах-чытальнях і, нават, давалі вэтэрынарную дапамогу жыхарству, якое зварачвалася да іх. Апрача гэтага арганізоўвалі ячэйкі МОПР'у, ОДВФ, вялі агітацыю за ўваход у іх сябры, зьбіралі сродкі для іх. Праца, праведзеная студэнтамі Вэтэрынарнага Інстытуту на вёсцы, не засталася неацэненай ЦБ зямляцтваў, якое з 3-х прэмій дзьве першых вызначыла студэнтам Вэтэрынарнага Інстытуту.

Гэтую спробу працы трэба падлічыць, а недахваты мінулага году таксама загадзя выправіць.

---

Ст. Аграст.

# Белсэктор.

Сэктор існуе другі год. Усяго на сэктары 3 курсы ці 67 чалевек. лектароў 19, з іх сяброў РКП—7, кандыдатаў—адзін

Большасьць студэнтаў удзельнікі грамадзянскай вайны, партызаншчыны, працаўнікі партыйных і савецкіх установ.

Па партыйнаму складу студэнты дзеляцца так:
партыйных т. т.—42;
кандыдатаў—10;
комсамольцаў—10 (з іх кандыдатаў 5);
непартыйных—5.

Па соцыяльнау пахаджэньню . . . . рабочых—12
" " . . . . . сялян—52
" " . . . служачых— 3

Па палавому складу . . . . мужчын—63
" " . . . . жанчын— 4

Па профэсыянальнаму складу ўсе 100%—сябры профсаюзаў; па нацыянальнай адзнацы: беларусоў—65, жыдоў—1, палякоў—1.

З Савецкай Беларусі—47 чел.

З окупаванай Заходняй—20 ці 29,85%.

По кваліфікацыі, згодна унівэрсытэцкае статыстыкі, Белсэктор стаіць (чуеш, Польшча!) на першым месцы.

Студэнты прымаюць актыўны ўдзел у розных самых адказных унівэрсытэцкіх організацыях, кружкох, працуюць па-за сьценамі ўнівэрсытэту па парт., проф. і нац. лініям, у 15 беларускіх студэнцкіх кружкох, у бюро зямляцтва, бюро політэмігрантаў, у Маскоўскай філіі „Маладняк", у белхоры і г. д. Сэктор—фокус беларускага жыцьця ў Маскве.

Сэктор удала ладзіць вечары-спэктаклі, знаёміць іншыя народы з Беларусьсю, яе жыцьцём, песьнямі і г. д.

З назначэньнем загадчыка сэктору нутраное сэкторскае жыцьцё пайшло нормальным тэмпам. 1/3—1/2 дысцыплін пераведзена на белмову. Частково перайшлі к Дальтон-пляну. Калі палічыць рабочы дзень на 100%, 90% часу аддаецца студэнтамі (у сярэднім) агульна-грамадзкім дысціплінам, як: марксызм, ленінізм, гісторыі партыі, Расіі і Захаду, політэкономія і г. д.

Выпушчаны дзесяты нумар сэкторскае насьценнае газэты „Гарт".

Сэктор трымае цесную сувязь з Сав. Беларусьсю шляхам чытаньня дакладаў аб Беларусі, яе політычным і экономічным становішчы, праз лісты, вакацыйную працу на Беларусі і г. д. Трымае сувязь з Зах. Беларусьсю, робіць крокі, каб наладзіць сувязь са студэнтамі-беларусамі, якія стаяць на грунце Савецкай дзяржаўнасьці, у Рымскім унівэрсытэце (Італія), у Празе Чэскай і г. д.

Праца, вучоба, папярэднія об'ектыўныя і суб'ектыўныя жыцьцёвыя ўмовы так ці іначай адбіваюцца на здароўі.

| | |
|---|---|
| Сухотных хворых . . . . . | 7 чал. |
| Нэрвова-хворых . . . . . | 11 „ |
| Сэрдэчна-хв. . . . . . . | 2 „ |
| Малакроўных . . . . . . | 2 „ |
| Іншых хв. . . . . . . . | 6 „ |
| А ўсяго хворых . . . . . | 28 або 41,78% |

(офіц. статыстыка).

Законамерны рост захварэньняў пазваляе сказаць, што выпускны курс (16—17 чал.) дасьць інвалідаў сухотнікаў 8 чалавек, альбо 50% (на курсе).

Настрой бадзёры, баявы. Цікавасьць да працы вялікая.

Сялянскае пахаджэньне, Ленінска-Марксыцкі гарт, жыцьцё ў сусьветным пролетарскім цэнтры даюць магчымасьць спадзявацца, што белсэкторцы-партыйцы, Марксысты, рэволюцыянеры, узброеныя ведамі і (папярэдняй) жыцьцёва-рэволюцыйнай практыкай, будуць моцным, пэўным асяродкам, цэмэнтуючым вёску з горадам, апраўдваючым надзеі пролетарыяту, зближаючым наш Кастрычнік з агульна-эўропэйскім.

---

**Н. Макараў.**

# Наша зямляцтва.

Наша „Беларускае зямляцтва" пры Інстытуце Народнае Гаспадаркі імя Г. В. Плеханава пачало сваю працу фактычна з часу абабраньня новага Упаўнаважанага. Цяпер у нас кожны тыдзень праводзяцца заняткі па Беларусазнаўству, якія праходзяць досыць жвава. Як відно, усе таварышы маюць вялікі інтарэс і мы хоць ня вельмі скора, але пасоўваемся ўперад. Вывучаючы беларускую мову, мы памятуем, што ведаць яе нам неабходна, бо шмат каму з нас давядзецца працаваць у Беларусі. А пра-

цаваць сярод народу, ня ведаючы яго мовы, вельмы цяжка і нават немагчыма. Працаваць-жа нам, беларусом, у сваёй роднай старонца трэба і неабхода.

Абавязак кожнага з нас—панесьці тыя вады, якія мы тут атрымліваем і прылажыць іх у нашай народнай гаспадарца. Маючы гэта на ўвазе, наша зямляцтва ўзмацоўвае сваю працу ў гэтым напрамку. Разам з гэтым мы вывучаем і экономічнае становішча нашай Савецкай Беларусі. У будучыне нашаму зямляцтву трэба будзе падрыхтавацца да працы ў вёсцы. Шмат нашых таварышоў паедзе на час летніх вакацый у вёску, дзе яны не павінны сядзець злажыўшы рукі.

Кожны студэнт, ад'яжджаючы ў нашу беларускую вёску, можа зрабіць шмат працы, для гэтага яму трэба толькі падрыхтавацца, каб мець належныя веды.

Вопыт паказаў, што студэнт можа зрабіць шмат чаго, асабліва ў галіне ліквідаваньня няпісьменнасьці. Таксама і ў галіне організацыі ячэек ОДН, ОДВФ, МОПР і г. д.

Ён можа даць вялікую карысьць у культурна-асьветнай працы нашым партыйным і комсамольскім організацыям.

Зямляцтву трэба будзе распачаць больш глыбокую працу па падрыхтоўцы тых студэнтаў, якія паедуць у вёску на час вакацый.

Кожны таварыш павінен мець на ўвазе якую небудзь працу і да яе падрыхтавацца.

Наша зямляцтва не забывае свайго абавязку—несьці асьвету ў вёску

---

В. К

# У зямляцтве землябудаўнічага тэхнікуму імя М. І. Калініна.

Амаль што ўсе беларусы—слухачы нашага тэхнікуму прыблізна паўгода таму назад аб'ядналіся і організавалі ячэйку беларускага зямляцтва. ЦБ Беларускіх зямляцтваў пайшло нам насустрэчу і, дзякуючы яму й самадзейнасьці самых слухачоў, ячэйка зьяўляецца цяпер самай моцнай і працаздольнай. Нашу працу можна падзяліць на дзьве часткі: на працу культуную і экономічную Найлепш пастаўлена ў нас праца культурная. У гэтай галіне, прымяркоўваючыся да ўсіх умоў, у якіх праводзілася праца, шмат чаго зроблена. Праводзяцца рэгулярныя лекцыі па досьледу беларускай мовы і гісторыі, якія хоць ня зусім, але здавальняючыя і рэгулярна слухаюцца сябрамі нашага зямляцтва, віпісваецца здавальняючая колькасьць беларускіх газэт і другой літаратуры. Нядаўна сіламі ячэйкі, складаючайся з 20 асоб і з дапамогай ЦБ беларускіх зямляцтваў, быў праведзен у тэхнікуме беларускі вечар з дакладам аб становішчы Беларусі і беларускай п'есай. Вечар прайшоў добра. Прысутнічаўшы на ім поўпрад БССР т. Паўлюкевіч вітаў ячэйку і пажадаў ёй шырэй разгарнуць сваю самадзейнасьць. Ёсьць у нашай ячэйцы і свая насьценная газэта „Чырвоны Землябудаўнік". Першы нумар быў ня зусім удачны, але далей спадзяёмся на лепшае. Калі культпраца пастаўлена ў нас досыць добра, то экономічная—наадварот: досыць дрэнна.

Тут было многа ненармальнасьцяй але ўсе яны ўжо ліквідаваны. Ня гледзячы на ўсе недахваты, нашая праца дае ўсе-ж такі добрыя вынікі

і па сканчэньні тэхнікуму беларус-землябудаўнік будзе здолен выпаўніць тыя запытаньні, якія ад яго патрабуе вёска і гаспадарка нашага краю. З ліку вучняў нашага тэхнікуму беларуская вёска будзе штогодна атрымліваць па некалькі падрыхтаваных землябудаўнічых і грамадзянскіх дзеячоў.

Я. Рубінштэйн.

## У жыдоўскім пэдагогічным тэхнікуме.

Профсэкцыя налічвае 98 асоб. Усе належаць цяпер да саюзу Працаўнікоў Асьветы. Партыйны склад такі: сяброў РКП—20%, ЛКСМБ—55%, беспартыйных—25%; соцыяльны склад: рабочых—35%, служачых—20%, вучняў—25%, іншых—20%.

Профкамітэт мае 2 асноўныя камісіі: культурную і гаспадарчую.

Гаспадарчая камісія мае заданьне абслугаваць студэнтаў, каб яны з малою стыпэндыяй маглі пражыць і вучыцца.

Існуе й харчэўня, дзе ўсе стыпэндыяты атрымліваюць 3 разы ў дзень яду.

Маюць магчымасьць карыстацца кухняй, лазьняй, прачэшнай, парыкмахарскай за 8 рублёў у месяц і не стыпэндыяты.

Існуюць невялічкія майстэрні, дзе ладзіцца абуцьцё і адзежа вучняў.

Існуе таксама інтэрнат, у якім жывуць амаль ня ўсе таварышы Пры інтэрнату існуе Ленінскі пакойчык, дзе таварышы маюць магчымасьць чытаць газэты і кнігі.

Праца гаспадарчай камісіі палягчае, такім чынам, вучобу таварышом. Вялікую працу праводзіць таксама культкамісія: яна кіруе працай 12 гурткоў, харавым, літаратурным, часопісным, 2 бібліатэчнымі, 2 мастацкімі, 2 музычнымі, гуртком добрахіма, які працуе вельмі добра і профгуртком.

Трэба падкрэсьліць, што комсамольцы праводзяць вялікую працу; амаль што не палова комсамольцаў кіруюць палітычнымі гурткамі 1-ае і 2-е катэгорыі; 27 асоб працуюць сярод піонэраў у якасьці важатых.

Партыйцы кіруюць ленінскім гуртком і гуртком палітграматы.

Профкамітэт разам з ячэйкамі выпускае двухтыднёвы бюлетэнь, у якім высьвятляецца праца профсэкцыі.

Заложана ячэйка ДН, куды ўваходзяць і не сябры саюзу.

Профкам стараецца ўцягнуць у гэту працу ўсіх слухачоў тэх-му. Пакуль што ячэйка ДН налічвае 67 асоб, якія абслугоўваюць 180 няпісьменных, галоўным чынам, жыдоўскіх рабочых.

Цяпер на чарзе дня ў нас пытаньне: замацаваць ужо дасягнутыя вынікі працы і яе паглыбіць.

Палуйка.

## Фізкультура і спорт у Б Д У.

Пачатак працы па фізкультуры і спорту ў БДУ быў паложан гуртком фізкультуры, які пачаў сваё існаваньне з кастрычніка 1924 г. У пачатку сваёй дзейнасьці ён налічваў каля 30 чалав., але скора ён прыгарнуў да сябе ўвагу студэнцтва і стаў расьці колькасна.

У сучасны момант гурток налічвае 120 чал., з якіх дзяцей рабочых —20 ч., сялян—40, іншых—60 ч. З агульнага ліку сяброў гуртка 2 камуністыя і 15 комсамольцаў, рэшта беспартыйныя.

Гурток разьбіваецца на 6 групаў: тры мужчынскіх і тры жаночых. Заняткі вядуцца па спартакоўскай і швэцкай сыстэмах.

За апошні час былі праведзены антропомэтрычны і мэдыцынскі агляды спортгуртка, абарудаван куток фізкультуры, наладжана рэгулярная дастаўка кутку фізкультуры літаратуры і інш.

Сваёй працай мы імкнёмся даць студэнцтву фізычнае разьвіцьцё, аздаровіць і ўмацаваць яго організм.

Бяссумненна, што ў нашай працы маюцца і хібы, але параўнаўча з нашымі дасягненьнямі яны ня так вялікі і агульнымі патугамі будуць выжыты.

Чарговым нашым заданьнем зьяўляецца больш шырокае залучэньне ў гурток пролетарскага студэнцтва, залучэньне яго ўвагі да фізкультуры і замацаваньне ўжо дасягнутых вынікаў.

---

# Крытыка і бібліографія.

С. Б. Слабодкін.

## Зборнік групы „Освобождение Труда“ выданьне пад рэдакцыяй Л. Г. Дэйча. *Дзярж. Выдав., Масква 1924 г.*

Вышлі два зборнікі групы „Освобождение труда“ № 1 і № 2. У гэтых зборніках надрукаван архіўны матар'ял сяброў групы „Освобождение труда“. Апрача гэтага, у зборніках зьмешчаны ўспаміны і артыкулы, маючыя адносіны к групе „Освобождение труда“. Наколькі Пляханаў быў правадыром і ідэолёгом групы „Освобождение труда“, настолькі для нас цікавы лісты, успаміны і артыкулы, малюючыя нам з розных бакоў Пляханава. Для нас маюць гэтыя зборнікі вялікую цікавасьць яшчэ затым, што там зьмешчаны артыкулы Пляханава, якія да гэтага часу нідзе ня былі надрукаваны. Ніжэй мы разьбяром два артыкулы Пляханава: „Аб Радзішчаве“ і „Філёзофская эволюцыя Маркса“, а таксама перапіску Пляханава з Энгельсам.

*I-ы артыкул.* **Пляханаў аб Радзішчаве**. Артыкул Пляханава аб Радзішчаве зьяўляецца каштоўным укладам у галіну гісторыі грамадзянскай думкі. Пляханаў першы ўстанавіў сувязь між Радзішчавым і Чарнышэўскім. Ня будучы матар'ялістым, Радзішчаў прысвоіў матар'ялістычныя погляды на палавое каханьне і нагул на чалавечыя „палы“. Радзішчаў ня прысвоіў цалком матар'ялізму часткова і патаму, што ён жыў тады ў Нямеччыне, якая ў рэволюцыйнасьці ўступала Франціі. Гэткім чынам Радзішчаў выхоўваўся тымі ідэямі, пад сьцягам якіх адбыўся грамадзянскі пераварот канца XVIII стагодзьдзя. „Радзішчаў,—кажа Пляханаў,—навучыўшыся думаць па творам Гэльвецыя і цалком прысвоіў сабе значную большасьць яго тэорытычных палажэньняў, ён адмовіўся прыняць ляжачыя ў аснове гэтых апошніх, матар'ялістычны сэнсуалізм“. Такім чынам, як Радзішчаў, гэтак і Чарнышэўскі, выхаваныя на аднолькавых ідэях, прышлі амаль што не к аднолькавым вынікам. „Радзішчаў,—кажа Пляханаў,—зьявіўся ў нас першым у шэрагу тых перадавых настаўнікаў жыцьця, між якімі гэткае пачэснае месца занялі потым Чарнышэўскі і Дабралюбаў. Схожасьць яго практычных правіл з правіламі выпрацаванымі гэтымі апошнімі тым больш варта ўвагі, што ў тэорыі ён вельмі часта апіраўся на аргумэнты, маючыя вельмі многа агульнага з філёзофіяй Чарнышэўскага і Дабралюбава. Хаця ён і не адважыўся пайсьці за францускімі матар'ялістамі ў іх канчатковых вывадах, але ён цалком запазычыў у іх сваё вучэньне аб разьвіцьці чалавечага характару. У сваю чаргу Чарнышэўскі і Дабралюбаў былі рашучымі прыхільнікамі матар'ялістычнай філёзофіі Фэйербаха, які многім падзячан быў францускім матар'ялістым, не заўсёды аддаваючы сабе ў гэтым выразную справаздачу. Зразумела, што аднолькавы, альбо амаль што не аднолькавы пункт адпраўленьня выявіў сабой аднолькавыя альбо амаль што не аднолькавыя вынікі ў пісьменьнікаў, прыналежачых к дзьвюм вельмі розным гісторычным эпохам“.

*Артыкул 2-гі.* **Філёзофская эволюцыя Маркса.** (Артыкул Пляханава). Першапачаткова філёзофія была ўсім, потым, па меры награмаджэньня ведаў, яе значэньне зьмяншаецца, а цяпер філёзофію некаторыя адпраўляюць к чорту, швыраюць яе за аблавак і г. д. Маркс і Энгельс не адмаўлялі ў філёзофіі права на самастойнае існаваньне. „Бо,—кажа Энгельс,—у філёзофіі як нешта самастойнае застаецца—вучэньне аб мысьленьні і яго законах, формальная лёгіка і дыялектыка“. Але разам з гэтым, мы знаходзім у Маркса наступныя словы: „Філёзофія знаходзіць у пролетарыяту сваю матар'яльную зброю, як і пролетарыят знаходзіць у філёзофіі сваю духоўную зброю“. З гэтых слоў відаць, што Маркс прызнаваў

магчымым існаваньне філёзофіі. У супраціўным выпадку Маркс не аддаў бы гэтак многа часу вывучэньню філёзофіі. „Мы лічым,—кажа Пляханаў,—дыялектычную філёзофію аднэй з самых найлепшых спроб, аб'ядноючую філёзофскую думку". „Філёзофія,—кажа Пляханаў,—ёсьць сыстэма сынтэтычных ідэй,аб'ядноючых скупнасьць чалавечага вопыту на дасягнутай у гэту эпоху стопені інтэлектуальнага і грамадзянскага разьвіцьця. Карацей: філёзофія ёсьць сынтэз апазнанага існаваньня гэтай эпохі". „Вынікі асобных навук,—кажа Пляханаў,—даюць толькі матар'ялы для ўсёабхватваючага навуковага сынтэзу. У галіне думкі, як і ў галіне грамадзянска-экономічнай, можа быць прыстасован вядомы экономічны прынцып, па якому мы павіны імкнуцца з дапамогай мінімуму сродкау дасягнуць максымальнага ўражаньня. Гэта свайго роду інтэнсыўная гаспадарка ў галіне думкі, кондэнсацыя думкі. Чалавечы мозг у процэсе свайго прыстасаваньня к вакольнай абстаноўцы спраўляецца з ёй пры дапамозе абагульваючай думкі, імкнушчай знайсьці суладзьдзе ў здаваючымся бязладзьдзі, аднастайнасьці—у бесканчатковай рознастайнасьці, вышэйшую законазгоднасьць у царстве здаваючагася самавольства і выпадку". Такім чынам, Пляханаў адводзіць належачае месца філёзофіі. Выказаўшы гэтыя вызначныя думкі аб філёзофіі наагул, Пляханаў знаходзіць, што ў Маркса назначаюцца тры этапы ў яго разумовым разьвіцьці. „Першы этап—абстрактная Гэгэлеўская самасьвядомасьць, другі этап—конкрэтна-абстрактны чалавек Фэйербаха, трэці і апошні этап—рэальны чалавек, жывучы ў рэальным клясавым грамадзянстве ў азначанай грамадзянска-экономічнай абстаноўцы.

Думкі Маркса—Энгельса разьвіваліся ад абстрактнага к конкрэтнаму, ад гісторычна бязьзьместнага к гісторычна вызначанаму, ад псыхолёгічнага індывідуалізму і суб'ектыўнага марксызму к гісторычнаму об'ектывізму і- матар'ялізму. Тлумачыць гэта тым, што ў першы пэрыод ідэёвага разьвіцьця Маркса, у Нямеччыне ўсе лепшыя галовы былі захоплены ідэёвымі спрэчкамі і Маркс захапіўся гэткай сыстэмай філёзофіі, якая адводзіла розуму, г. зн., філёзофнічаючай інтэлігэнцыі, гэткую высокую, можна сказаць, боскую ролю. У другі пэрыод ідэёвага разьвіцьця Маркса справа абстаяла інакш. Рэволюцыйны рух, абхапіўшы Нямеччыну, і барацьба з прускім абсолютызмам ахаладзіла Маркса. Цяпер філёзофія Гэгэля не здавальняла Маркса. Маркс наваліўся супроць яе. Фэйербах дапамагаў пакончыць з непатрэбным стар'ём бесканчатковай самасьвядомасьці Гэгэля. І нарэшце, трэці пэрыод разумовага разьвіцьця Маркса характарызуецца тым, што Маркс перавысіў мэтофізычнага чалавека Фэйербаха і ацаніў значэньне ўплыву на яго Гэгэля і Фэйербаха.

### *3-і артыкул.* **З перапіскі Пляханава з Энгельсам.**

Датычачы пытаньня аб тым, пройдзе альбо ня пройдзе Расія праз капіталістычную стопень разьвіцьця, Пляханаў у 1894 г. пісаў: „У наш час тая думка, што Расія ня пройдзе праз капіталістычны пэрыод, становіцца небясьпечнай утопіяй. Цяпер надта неабходна з ёй змагацца". Бо, калі Расія ня пройдзе праз капіталізм, то, значыцца, для Расіі існуюць асаблівыя законы гісторычнага разьвіцьця. Але гэта хіліцца ў бок народніцтва, з яго надзеямі на расійскую абшчыну. „Але, дапусьцім,—гаворыць Пляханаў, што абшчына наш якар ратунку. Хто вытварыць рэформы? Царскі ўрад? Лепш чума, чым рэформы, выходзячыя ад гэткіх рэформатараў. Ці магчыма сабе ўявіць што-небудзь больш хімэрычнае, чым соцыялізм, насаджоны ісправьнікамі". Не дарэмна пісалі ў „Русском вестнике", што „зямельная абшчына выратуе нас ад рабочага руху і соцыялізму" „Без усялякага павялічэньня цяпер можна сказаць,—гаворыць Пляханаў,—што чым больш руйнуецца наш стары экономічны лад, тым больш мы падбліжаемся да рэволюцыі. У запраўднасьці мы ўжо пакутуем ад таго, што капіталізм ня досыць яшчэ разьвіт". У адказным лісту Пляханаву, Энгельс гэтак сама кажа, што Расія пойдзе па шляху капіталізму. „У гэткім краю, як ваш - піша Энгельс.—дзе буйная сучасная прамысловасьць прышчэплена к прымітыўнай сялянскай абшчыне і дзе аднычасна прадстаўлены ўсе прамежныя стопені цывілізацыі, у краю, які звыш таго абкружан больш альбо менш, запраўднай інтэлектуальнай кітайскай сьцяной, высунатай дэспотызмам, нельга дзівіцца, калі адбываюцца самыя дзіўныя, самыя непраўдападобныя злучэньні ідэй. Гэта стопень, праз якую край павінен прайсьці. Троху па-троху, з ростам гарадоў, адцінаньне талентных людзей згіне, а разам з тым згінуць і гэтыя заблуды розуму. Няма магчымасьці полемізаваць з гэтым паказеньнем расійцаў, нязьменна веруючых у спонтанэйна-комуністычную місію, адрозьніваючую Расію, сучасную „Сьвятую Русь", ад іншых няверных народаў". „Барацьба нашых народнікаў"—кажа Пляханаў—„супроць капіталізму" ўсё больш і больш зводзіцца ў саюз з царызмам"... Гэтак Даніяльсон кажа аб урадзе Міколы II, як аб урадзе, які можа ўзяць на сябе клопаты аб „організацыі вырабу" ў нашым краю. У „програме" Міхайлоўскага царскі ўрад фігурыруе, як міратворца і організатар, у той час, як Мікола II аб'явіў, што ён намеран ісьці па крокам свайго „незабытага" татанькі.

**Г.**

## Б. М. Коза-Палянскі, „Дыялектыка ў біолёгіі“ выданьне „Буревестник“ 1925 г.

*(Краснадар)*

У гэтай невялікай кніжцы, маючай усяго 89 старонак, як і ўсялякай іншай, трактуючай гэта пытаньне, аўтор мае справу з вучэньнем Дарвіна і дае яму асабістую ацэнку. Як вядома—тэорыя эволюцыі Дарвіна не гаворыць аб скачкох; прыродны адбор, як вынік барацьбы, грае галоўную ролю ў зьменнасьці відаў. З гэткай тэорыяй ня можа зьмірыцца рэволюцыйны мараксызм, і вось на чарзе стаіць задача: перарабіць буржуазную тэорыю Дарвіна ў сэнсе дыялектычнага матар'ялізмуа В. Сарабьянаў гаворыць што Дарвін „праглядзеў“ раптавыя зьмяненьні ў біолёгічным міру і ў гэтым яго тэорыя мае істотны прабел. Палянскі нават говорыць, што, п. Сараб'янаву, Дарвін упусьціў уплыў знадворнай прыроды на організм. Няма чаму дзівіцца, што Сараб'янаў, пакінуўшы дарвінізм, не знайшоўшы ў ім дыялектыкі, стаў высоўваць номагэнетычную тэорыю Бэрга—гэтага анты-дарвініста, прыхільніка іманентнай тэлеолёгіі. Па іншаму шляху ішоў Пляханаў. Мутацыйная тэорыя Дэ-Фрыза зьявілася выстарчаючай асновай для зьменаў „вульгарнай“ тэорыі эволюцыі ў навуковую і дыялектычную тэорыю сучаснай біолёгіі. Аўтор бярэ на сябе задачу абараняць Дарвіна цалком... „сапраўдны дасьледчык прыроды,—гаворыць аўтор,—адбівае ў сваіх працах тое, што ўзапраўднасьці ў ёй робіцца. Клясавая прыналежнасьць Дарвіна ня прыкметна ў яго навуковай справе“. Але дзе-ж у Дарвіна скачкі? Адказ гэткі: будучы натуралістам і ідучы па строга індукцыйнаму мэтоду, Дарвін хоць і ставіў пытаньне аб раптоўных зьменах, але не знаходзіў у прыродзе фактаў, падцьвярджаючых гэтую думку і значыцца, ня мог пісаць аб скачкох; але, калі гэткія факты і былі знойдзены, то, па словам Дарвіна, яны ніскольki ня супярэчылі яго тэорыі. Тут мімаволі набіваецца пытаньне: значыць, вопыты Дэ-Фрыза зьяўляюцца прыродным дадаткам да тэорыі Дарвіна. Але Дэ-Фрыз гаворыць, што ў Дарвіна гутарка ідзе аб прыметах альбо аб варыяцыях „флюктацыйнага парадку“, г. зн., аб прыметах, якія не перадаюцца ў спадчыну.

Адбор ня здолен вызваць новых прымет, яны павінны быць вызваны прычынамі, ляжачымі па-за адборам. І Дарвін, узапраўды, як бы прызнаваў, што яго тэорыя ня тлумачыць зьмены відаў, а толькі дае малюнак, як з рознастайных формаў шляхам барацьбы і прыроднага адбору, застаюцца формы ўсе больш і больш адрозьніваючыяся адна ад другое, бо зьнішчажаюцца прамежныя адмены. Але гэткая сыстэма супярэчыць таму агульна-прынятаму погляду, што рознастайнасьць ідзе не ад большага іх ліку ў бок іх зьмяншэньня, а наадварот (зборныя тыпы). Палянскі кажа ня так: „Гэнэтыка ўзапраўды адсунула дарвінізм, але дарвінізм у двукосьсях. Гэты дарвінізм не прыналежыць Дарвіну, а ўтворна яго супрацоўнікамі Ён апіраўся на простыя варыяцыі, г. зн. неспадчынныя зьмены. Гэткія зьмены ня могуць граць ролю ў эволюцыі шляхам адбору, і каб Дарвін апіраўся на іх, чаго зусім ня было, то, запэўне, яго погляд быў-бы памылковым“. Але пад дзеяньнем якіх-жа прычын здабываюцца новыя прыметы, перадаваемыя па спадныне? Няўжо ад практыкаваньня альбо ўплыву знадворнай срады? Але гэта-ж не дарвінізм. Аб мутацыйных-жа прыметах, г. я., перадаваемых па спадчыне, да Дэ-Фрыза не магло быць гутаркі. Пытаньне вельмі цікавае, але ня досыць асьветлена аўторам. Палянскі знаходзіць і трыяду ў біолёгіі, пры чым сам будучы ботанікам прыводзіць шэраг прыкладаў з ботанічнага жыцьця, адводзячы трыядзе месца ў рытме зьмены. Досыць выразна асьветлена супярэчнасьць, як фактар руху. Параўнаючы Дарвіна з К. Марксам, ён кажа, што К. Маркс меў сьпераду Гэгеля, а Дарвін у біолёгіі зьяўляецца і Гэгэлем і Марксам.

Атрымоўваецца ўражаньне, што Дарвін ёсьць вынік якой-та гэніяльнасьці. Уплыў Лямарка на яго нікчэмны, а ўплыў сучасьнікаў Гэнслё, Граната, Кольстрэма, Ляйэля і інш зусім засьцяняецца, а між тым вышэй памянёныя натуралістыя, вучні Кюйе, былі добра знаёмы з ідэямі Лямарка і Э. Жофруа Сэнт-Ільлера. Праўда, у філёзофскіх адносінах Дарвін быў слабы, гэта як-бы прызнае аўтор. Дарвін залічыў у эволюцыёністыя Арыстоцеля і Платона.

У заключэньне аўтор кнігі абараняе Даврына ў такіх выразах, як „Творца Ўтварыў віды“... тлумачыць выразы Дарвіна не яго рэлігійнасьцю, а невядомасьцю тых прычын, аб якіх ішла гутарка.

## АДКАЗЫ АЎТОРАМ.

*Жукаву*. Пойдзе ў наступным нумары.

*В. Ясючэні, Касьпяровічу.* Ня пойдзе. Скарыстаем, як матар'ял.

*Ф. А. К., Бондару, Бурштэйну*. Пойдзе.

*А. Р. і В. С.* Ня пойдзе.

*М. К.* Матар'ял будзе рэдакцыяй скарыстаны. Аддзельным артыкулам ня пойдзе.

*Ліўшыц*. Прапановы каштоўны. Матар'ял накіраваны да ўпаўнаважанага Нар. Ком. Шляхаў Зносін. Артыкулам ня пойдзе.

# ЗЬМЕСТ.



## Ленінізм.



## Навуковы аддзел.



## Літаратура.



## Быт.

## Пытаньні вышэйшае школы.



## Па ВНУ, Рабфаках, Тэхнікумах.



## Крытыка і бібліографія.



УВАГІ. 1) Аўторы адзначанных значком (*) артыкулаў зьяўляюцца студэнтамі;
2) Артыкулы: „Ленін і пролетарская культура“ і „Клясавыя супярэчнасьці перад Кастрычнікавай рэволюцыяй“—напісаны ўдзельнікамі сэмінарый проф. С. З. Кацэнбогена.

---

### АД РЭДАКЦЫІ:

У № 1 часопісі паштовая скрынка дадзена без прагляду яго рэдакцыяй, а таксама бяз ведама рэдакцыі тэхнічным працоўнікам дадзены пад нумэрам подпіс адказнага рэдактара замест подпісу рэдакцыйнай колегіі.


**РЭДАКЦЫЯ**: **М. Ляўкоў**, **С. З. Кацэнбоген**, **Кахановіч**, **А. Крыніцкі**, **Мік. Шапавалаў**

Адказны сэкрэтар рэдакцыі **Мік. Шапавалаў**.